**УДК 826-808.2-3**
**ББК 81.2 (4 Беи)**
**Б 43**

Тэкст друкуецца па 2-м выданні,
перапрацаваным і дапоўненым, 1988—1989.

**Беларуска**-рускі слоўнік: У 3 т.: Больш за 110 000 слоў.
**Б 43** Т. 2. З—П / НАН Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа.— 3-е выд.—Мн.: БелЭн, 2003.— 1120 с.

ISBN 985-11-0274-1 (Т. 2).

Слоўнік друкуецца па 2-м выданні Беларуска-рускага слоўніка пад рэдакцыяй акадэміка АН БССР К. Крапівы. Разлічаны на масавага чытача.

**УДК 826-808.2-3**
**ББК 81.2 (4 Беи)**

**ISBN 985-11-0274-7 (Т. 2)**
**ISBN 985-11-0272-5**

# З

**ЗЕМЛЕЎЛАДА́ННЕ** *ср.* землевладе́ние.

**ЗЕМЛЕЎЛА́СНІК** *м.* землевладе́лец, земе́льный со́бственник.

**ЗЕМЛЕЎЛА́СНІЦА** *ж.* землевладе́лица, земе́льная со́бственница.

**ЗЕМЛЕЎЛА́СНІЦКІ** землевладе́льческий.

**ЗЕМЛЕЎПАРА́ДКАВАЛЬНЫ** землеустрои́тельный.

**ЗЕМЛЕЎПАРА́ДКАВАННЕ** *ср.* землеустро́йство.

**ЗЕМЛЕЎПАРА́ДЧЫК** *м.* землеустрои́тель.

**ЗЕМЛЕЧАРПА́ЛКА** *ж.* землечерпа́лка.

**ЗЕМЛЕЧАРПА́ЛЬНЫ** землечерпа́льный, землечерпа́тельный.

**ЗЕМЛЕЧАРПА́ННЕ** *ср.* землечерпа́ние.

**ЗЕМЛЯБІ́ТНЫ** *стр.* землеби́тный.

**ЗЕМЛЯВО́З** *м.* землево́з.

**ЗЕМЛЯВО́ЗКА** *ж.* *(повозка)* граба́рка.

**ЗЕМЛЯВО́ЗНЫ** землево́зный.

**ЗЕМЛЯЗНА́ВЕЦ, -на́ўца** *м.* земле́ве́д.

**ЗЕМЛЯЗНА́ЎСТВА** *ср.* землеве́дение.

**ЗЕМЛЯЗНА́ЎЦА** *м.* *см.* **землязна́вец.**

**ЗЕМЛЯКО́П** *м.* землеко́п.

**ЗЕМЛЯКО́ПНЫ** землеко́пный.

**ЗЕМЛЯМЕ́Р** I *м.* землеме́р.

**ЗЕМЛЯМЕ́Р** II *м.* *зоол.* землеме́р.

**ЗЕМЛЯМЕ́РНЫ** землеме́рный.

**ЗЕМЛЯНЫ́** *в разн. знач.* земляно́й; **~ны́я рабо́ты** земляны́е рабо́ты; **~на́я плаці́на** земляна́я плоти́на; ○ **з. за́яц** земляно́й за́яц; **з. арэ́х** земляно́й оре́х; **~на́я гру́ша** земляна́я гру́ша.

**ЗЕМЛЯРО́Б** *м.* земледе́лец, па́харь, хлебопа́шец.

**ЗЕМЛЯРО́БСКІ** земледе́льческий.

**ЗЕМЛЯРО́БСТВА** *ср.* земледе́лие, землепа́шество, хлебопа́шество.

**ЗЕМЛЯРО́БЧЫ** земледе́льческий.

**ЗЕМЛЯРЫ́ЙКА** *ж.* *зоол.* земляро́йка.

**ЗЕМЛЯРЫ́ЙНЫ** землеро́йный.

**ЗЕМЛЯСО́С** *м.* *спец.* землесо́с.

**ЗЕМЛЯСО́СНЫ** землесо́сный.

**ЗЕМЛЯЧО́К, -чка́** *м.* *ласк.* *разг.* землячо́к.

**ЗЕМНАВО́ДНЫ** земново́дный.

**ЗЕМНАВО́ДНЫЯ, -ных** *сущ.* *мн.* *зоол.* земново́дные.

**ЗЕ́МНЫ** *см.* **зямны́.**

**ЗЕ́МСКІ** *ист.* зе́мский; **~кае апалчэ́нне** зе́мское ополче́ние; **~кая шко́ла** зе́мская шко́ла; **з. ўрач** зе́мский врач; **з. нача́льнік** зе́мский нача́льник.

**ЗЕМСНАРА́Д** *м.* *спец.* земснаря́д.

**ЗЕ́МСТВА** *ср. ист.* зе́мство.

**ЗЕ́МШЧЫНА** *ж. ист.* зе́мщина.

**ЗЕНЗУ́БЕЛЬ** *м. стол.* зензу́бель.

**ЗЕНІ́Т, -ту** *м. астр., перен.* зени́т.

**ЗЕНІ́ТКА** *ж. разг.* зени́тка.

**ЗЕНІ́ТНЫ** *астр., воен.* зени́тный.

**ЗЕНІ́ТЧЫК** *м.* зени́тчик.

**ЗЕНІ́ТЧЫЦА** *ж.* зени́тчица.

**ЗЕ́НКА** *ж. обл.* зрачо́к *м.,* зени́ца.

**ЗЕНКАВА́ННЕ** *ср. тех.* зенкова́ние.

**ЗЕНКАВА́ЦЬ** *несов. тех.* зенкова́ть.

**ЗЕ́НКЕР** *м. тех.* зе́нкер.

**ЗЕНКЕРАВА́ННЕ** *ср. тех.* зенкерова́ние.

**ЗЕНКЕРАВА́ЦЬ** *несов. тех.* зенкерова́ть.

**ЗЕ́НКІ,** *род.* **зе́нак,** *ед.* **зе́нка** *ж. прост. груб.* зе́нки.

**ЗЕ́РНЕ,** *род.* **зярня́ці,** *мн.* **зярня́ты, -ня́т** *ср.* **1.** зерно́; *(семя бобовых — ещё)* боб *м.,* бобо́к *м.;* **ячме́ннае з.** ячме́нное зерно́; **кака́вавыя зярня́ты** кака́овые бобы́; **2.** *(мелкая частица, крупинка)* зерно́; **3.** *перен.* зерно́; се́мя; **з. пра́ўды** зерно́ и́стины; **здаро́вае з.** здоро́вое зерно́.

**ЗЕРНЕАЧЫ́СТКА** *ж.* зерноочи́стка.

**ЗЕРНЕАЧЫШЧА́ЛЬНЫ** зерноочисти́тельный.

**ЗЕРНЕБАБО́ВЫ** зернобобо́вый.

**ЗЕРНЕБАБО́ВЫЯ** *сущ. мн. бот.* зернобобо́вые.

**ЗЕ́РНЕВЫ** зерново́й.

**ЗЕРНЕДРАБІ́ЛКА** *ж.* зернодроби́лка.

**ЗЕРНЕДРАБІ́ЛЬНЫ** зернодроби́льный.

**ЗЕРНЕПАГРУ́ЗЧЫК** *м.* зернопогру́зчик.

**ЗЕРНЕПАДО́БНЫ** зернообра́зный, зернови́дный.

**ЗЕРНЕПЛЮШЧЫ́ЛКА** *ж.* зерноплющи́лка.

**ЗЕРНЕСАРТАВА́ЛЬНЫ** зерносортирова́льный.

**ЗЕРНЕСАЎГА́С** *м.* зерносовхо́з.

**ЗЕРНЕСУШЫ́ЛКА** *ж.* зерносуши́лка.

**ЗЕРНЕСУШЫ́ЛЬНЫ** зерносуши́льный.

**ЗЕ́РНЕТКА** *ср. см.* **зярня́тка.**

**ЗЕ́РНЕТКАВЫ** *и* **ЗЯРНЯ́ТКАВЫ** се́мечковый.

**ЗЕРНЕЎВІЛЬГАТНЯ́ЛЬНІК** *м.* зерноувлажни́тель.

**ЗЕРНЕЎЛО́ЎНІК** *м.* зерноулови́тель.

**ЗЕРНЕФУРА́Ж, -жу́** *м.* зернофура́ж.

**ЗЕРНЕФУРА́ЖНЫ** зернофура́жный.

**ЗЕРНЯВА́ТЫ** зернови́дный.

**ЗЕРНЯВІ́К, -ка́** *м. разг.* зернови́к.

**ЗЕРНЯВО́З** *м.* зерново́з.

**ЗЕРНЯВО́ЗКА** *ж.* зерново́зка.

**ЗЕРНЯВЫ́** *см.* **зе́рневы.**

**ЗЕРНЯЕ́Д** *м. зоол.* зерно́вка *ж.*

**ЗЕРНЯЕ́ДНЫ** *зоол.* зерноя́дный.

**ЗЕРНЯМЫ́ЙНЫ** зерномо́ечный.

**ЗЕРНЯПУ́ЛЬТ** *м.* зернопу́льт.

**ЗЕРНЯСКЛА́Д** *м.* зерноскла́д.

**ЗЕРНЯСХО́ВІШЧА** *ср.* зернохрани́лище.

**ЗЕРО́** *нескл. ср.* зеро́.

**З'Е́СЦІ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* съесть; *(при вежливом приглашении к еде — ещё)* ску́шать; *(немного — ещё)* пое́сть; **з. я́блык** съесть я́блоко; **з. пе́рад даро́гай** пое́сть пе́ред доро́гой; **свякру́ха гато́ва з. сваю́ няве́стку** свекро́вь гото́ва съесть свою́ неве́стку; **тума́н з'еў снег** тума́н съел снег; **іржа́ з'е́ла тру́бы** ржа́вчина съе́ла тру́бы; **з. сваго́ канкурэ́нта** съесть своего́ конкуре́нта; **2.** *разг. (растерзать зубами)* загры́зть; **ваўкі́ з'е́лі аве́чку** во́лки загры́зли овцу́; **3.** *(испортить, продырявливая)* съесть, изъе́сть, источи́ть; **моль з'е́ла фу́тра** моль съе́ла (изъе́ла, источи́ла) мех; **4.** *(о рыбе)* склева́ть; ◊ **з. зу́бы** *на чым* зу́бы съесть *на чём;* **жыўцо́м з.** живьём съесть; **пуд со́лі з.** пуд со́ли съесть; **саба́ку з.** *у чым, на чым* соба́ку съесть *в чём, на чём;* **ду́лю з.** оста́ться не со́лоно хлеба́вши; **га́дка з. і шкада́ кі́нуць** *погов.* проти́вно съесть и жа́лко вы́плюнуть; **ве́дае ко́шка, чыё са́ла з'е́ла** *посл.* зна́ет ко́шка, чьё мя́со съе́ла.

**ЗЕЎ,** *род.* **зе́ва** *м.* зев.

**ЗЕ́ЎРА** *ж. обл. (тёмное, зияющее углубление в чём-л.)* про́пасть.

**ЗЕ́ЎРАННЕ** *ср. разг.* зия́ние; *см.* **зе́ўраць.**

**ЗЕ́ЎРАЦЬ** *несов. разг.* зия́ть; **~рала бе́здань** зия́ла бе́здна (про́пасть).

**ЗЕФІ́Р, -ру** *м. в разн. знач.* зефи́р.

**ЗЕФІ́РАВЫ** зефи́ровый.

**ЗЕФІ́РНЫ** зефи́рный.

**З'Е́ХАЦЦА** *сов.* **1.** *в разн. знач.* съе́хаться; **дэлега́ты ~халіся на на́раду** делега́ты съе́хались на сове́щание; **з. на скрыжава́нні даро́г** съе́хаться на перекрёстке; **2.** *разг. (справиться в езде)* поспе́ть; **матацыклі́ст увяза́ўся за машы́най, а з. з ёй не змог** мотоцикли́ст увяза́лся за маши́ной, но поспе́ть за ней не смо́г.

**З'Е́ХАЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* съе́хать; **з. з гары́** съе́хать с горы́; **з. з даро́гі** съе́хать с доро́ги; **з. з кватэ́ры** съе́хать с кварти́ры; **2.** *(сдвинуться)* съе́хать, сползти́; **ша́пка з'е́хала на паты́ліцу** ша́пка съе́хала (сползла́) на заты́лок; ◊ **з. на нішто́** сойти́ на нет; **з. з глу́зду** рехну́ться, спя́тить.

**ЗЁЛКІ, -лак,** *ед.* **зёлка** *ж. (травы)* зе́лье *ср.,* сна́добье *ср.;* тра́вник *м.*

**ЗЖАВА́НЫ 1.** сжёванный; **2.** изжёванный, сжёванный; 1, 2 *см.* **зжава́ць.**

**ЗЖАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(съесть, пережевать)* сжева́ть; **з. кава́лак хле́ба** сжева́ть кусо́к хле́ба; **2.** *(жуя, испортить)* изжева́ть, сжева́ть; **цяля́ ~ва́ла рука́ў блу́зкі** телёнок изжева́л рука́в блу́зки.

**ЗЖА́ЛІЦЦА** *сов.* сжа́литься, пожале́ть.

**ЗЖА́ТЫ** сжа́тый.

**ЗЖАЎЦЕ́ЛЫ** пожелте́лый, пожелте́вший.

**ЗЖАЎЦЕ́ЦЬ** *сов.* пожелте́ть.

**ЗЖАХНУ́ЦЦА** *сов. разг.* си́льно испуга́ться.

**ЗЖА́ЦЦА** *сов. разг.* спра́виться *с кем-л.* в жа́тве.

**ЗЖАЦЬ** *сов.* сжать.

**ЗЖО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* изжёвываться; *см.* **зжо́ўваць.**

**ЗЖО́ЎВАЦЬ** *несов.* изжёвывать; *см.* **зжава́ць** 2.

**ЗЖО́ЎКНУЦЬ** *сов.* пожелте́ть.

**ЗЖУ́ЛЬНІЧАЦЬ** *сов. разг.* сжу́льничать.

**ЗЖУ́ХНУЦЬ** *сов.* утра́тить све́жесть, я́ркость; зажу́хнуть.

**ЗЖЫВА́ННЕ** *ср.* **1.** изжива́ние, изжи́тие; **2.** *разг.* сжива́ние; 1, 2 *см.* **зжыва́ць.**

**ЗЖЫВА́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* сжива́ться; *см.* **зжы́цца; 2.** *страд.* изжива́ться; сжива́ться; *см.* **зжыва́ць.**

**ЗЖЫВА́ЦЬ** *несов.* **1.** *(избавляться от чего-л.)* изжива́ть; **2.** *разг. (изгонять откуда-л.)* сжива́ть, выжива́ть; 1—2 *см.* **зжыць.**

**ЗЖЫНА́ЦЦА** *несов. с.-х.* **1.** справля́ться *с кем-л.* в жа́тве; *см.* **зжа́цца; 2.** *страд.* сжина́ться; *см.* **зжына́ць.**

**ЗЖЫНА́ЦЬ** *несов.* сжина́ть.

**ЗЖЫРА́ЦЦА** *несов. страд. прост. груб.* сжира́ться; *см.* **зжыра́ць.**

**ЗЖЫРА́ЦЬ** *несов. прост. груб. (съедать)* сжира́ть.

**ЗЖЫ́ТЫ 1.** изжи́тый, изжито́й; **2.** *разг.* сжи́тый, вы́житый; 1, 2 *см.* **зжыць.**

**ЗЖЫ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* сжи́ться; **це́сна з. з но́вымі тава́рышамі** те́сно сжи́ться с но́выми това́рищами; **з. з ця́жкай стра́тай** сжи́ться с тяжёлой утра́той.

**ЗЖЫЦЬ** *сов.* **1.** *(избавиться от чего-л.)* изжи́ть; **з. недахо́пы** изжи́ть недоста́тки; **2.** *разг. (изгнать откуда-л.)* сжить, вы́жить; **з. з кватэ́ры** сжить (вы́жить) из кварти́ры; ◊ **з. са све́ту** сжить со све́та (со́ свету).

**ЗЖЭ́РЦІ** *сов. разг. груб. см.* **сажра́ць.**

**З-ЗА** *предлог с род.* **1.** *(для указания направления или движения с обратной или противоположной стороны чего-л., движения от какого-л. предмета, дела, занятия)* из-за; **со́нца паднязо́ся з-за ле́су** со́лнце поднязо́сь из-за ле́са; **яго́ не ві́даць з-за стала́** его́ не ви́дно из-за стола́; **уста́ць з-за стала́** встать из-за стола́; **2.** *(по причине, по вине кого-чего-л.)* из-за; **з-за яго́ ўсё пачало́ся** из-за него́ всё начало́сь; **з-за цябе́ я закі́нуў вучо́бу** из-за тебя́ я забро́сил учёбу; ◊ **з-за пляча́** с разма́ху.

**ЗЗА́ДУ 1.** *нареч. (где)* позади́, сза́ди; назади́; **ён сядзе́ў далёка з.** он сиде́л далеко́ позади́; **2.** *нареч. (откуда)* сза́ди; **напа́сці з.** напа́сть сза́ди; **3.** *в знач. предлога с род.* позади́, сза́ди; за *(кем-чем)*; **ён ішо́ў з. во́за** он шёл позади́ (сза́ди) во́за, он шёл за во́зом.

**ЗЗА́МАЛАДУ** *нареч. разг.* смо́лоду.

**ЗЗЕЛЯНЕ́ЛЫ** позелене́вший.

**ЗЗЕЛЯНЕ́ЦЬ** *сов.* позелене́ть.

**ЗЗЫВА́ЦЦА** *несов. страд.* сзыва́ться, созыва́ться; *см.* **ззыва́ць.**

**ЗЗЫВА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* сзыва́ть, созыва́ть; *см.* **сазва́ць.**

**ЗЗЯ́БЛЫ** озя́бший, продро́гший.

**ЗЗЯ́БНУЦЬ** *сов.* озя́бнуть, продро́гнуть.

**ЗЗЯ́ННЕ** *ср.* **1.** сия́ние, сверка́ние; блиста́ние; **з. агнёў** сия́ние (сверка́ние) огне́й; **2.** *(ореол вокруг светил)* сия́ние; вене́ц *м.;* **ме́сячнае з.** лу́нное сия́ние, вене́ц луны́; **3.** *перен. (расцвет)* сия́ние; **у ззя́нні**

**сла́вы** в сия́нии сла́вы; ○ **паўно́чнае з.** се́верное сия́ние.

**ЗЗЯЦЬ** *несов.* **1.** сия́ть, сверка́ть; блиста́ть, блесте́ть; **со́нца ззя́е** со́лнце сия́ет; **ззя́юць агні́ го́рада** сия́ют (сверка́ют, блиста́ют) огни́ го́рода; **2.** *перен.* сия́ть; **во́чы ззя́лі** глаза́ сия́ли; **ён уве́сь зззя́ў ра́дасцю** он весь сия́л ра́достью.

**ЗІГАСПО́РА** *ж. бот.* зигоспо́ра.

**ЗІГЗА́Г** *м. прям., перен.* зигза́г; **з. мала́нкі** зигза́г мо́лнии; **~за́гі лёсу** зигза́ги судьбы́.

**ЗІГЗА́ГАМ** *нареч.* зигза́гом.

**ЗІГЗАГАПАДО́БНЫ** зигзагови́дный, зигзагообра́зный.

**ЗІГЗА́Г-МАШЫ́НА** *ж.* зигза́г-маши́на.

**ЗІГО́ТА** *ж. биол.* зиго́та.

**ЗІМА́** *ж.* зима́; ◊ **сіро́цкая з.** сиро́тская зима́; **з. і ле́та** кру́глый год; **ко́лькі лет, ко́лькі зім!** ско́лько лет, ско́лько зим!

**ЗІМАВА́ЛЫ** *прост.* зимова́лый.

**ЗІМАВА́ЛЬНЫ** зимова́льный; **~ная сажа́лка** зимова́льный пруд.

**ЗІМАВА́ННЕ** *ср. (действие)* зимова́ние.

**ЗІМАВА́ЦЬ** *несов.* зимова́ть; ◊ **зіму́ з.** зи́му зимова́ть; **ве́даць, дзе ра́кі зіму́юць** знать, где ра́ки зиму́ют.

**ЗІМАРО́ДАК, -дка** *м. зоол.* зимоpо́док.

**ЗІМАРО́ДКАВЫЯ, -вых** *сущ. мн. зоол.* зимоpо́дковые.

**ЗІМАЎСТО́ЙЛІВАСЦЬ** *ж.* зимосто́йкость.

**ЗІМАЎСТО́ЙЛІВЫ** зимосто́йкий.

**ЗІ́МАЧКА** *ж. ласк.* зи́мушка.

**ЗІМІ́ЦА** *ж. ласк. разг.* зи́мушка.

**ЗІ́МКА I** *ж. уменьш.-ласк. разг.* зи́мушка.

**ЗІ́МКА II** *ж. разг.* ози́мая пшени́ца.

**ЗІ́МНА** *нареч. в знач. сказ. обл.* хо́лодно.

**ЗІ́МНІ** *см.* **зімо́вы**; **~няя даро́га** зи́мняя доро́га; ○ **з. сад** зи́мний сад.

**ЗІ́МНІК, -ку** *м. разг. (зимняя дорога)* зи́мник.

**ЗІ́МНЫ** *обл.* холо́дный.

**ЗІМО́ВАЧНЫ** зимо́вочный.

**ЗІМО́ВІШЧА** *ср. (место, где зимуют)* зимо́вье, зимо́вище.

**ЗІМО́ВЫ** зи́мний; **з. ве́чар** зи́мний ве́чер; **з. спорт** зи́мний спорт; **~вая во́пратка** зи́мняя оде́жда.

**ЗІМО́Й** *нареч.* зимо́й; ◊ **з. лёду не даста́неш (не вы́прасіш)** *у каго погов.* зимо́й сне́га не вы́просишь *у кого.*

**ЗІМО́ЎЕ** *ср.* зимо́вье.

**ЗІМО́ЎКА** *ж.* **1.** зимо́вка, зимова́ние *ср.*; **з. жывёлы** зимо́вка (зимова́ние) скота́; **2.** зимо́вка; **пабудава́ць ~ку** постро́ить зимо́вку.

**ЗІМО́ЎНІК** *м. обл. см.* **імша́нік.**

**ЗІМО́ЎШЧЫК** *м.* зимо́вщик.

**ЗІМО́ЎШЧЫЦА** *ж.* зимо́вщица.

**ЗІМО́Ю** *нареч.* зимо́й.

**ЗІРК I** *межд. в знач. сказ. разг.* глядь.

**ЗІРК II, -у** *м. обл.* взгляд.

**ЗІРКА́СТЫ** *разг. (зоркий)* глаза́стый.

**ЗІРКА́ТАСЦЬ** *ж. разг.* пучегла́зие *ср.*

**ЗІРКА́ТЫ** *разг.* пучегла́зый; глаза́стый.

**ЗІ́РКАЦЬ** *несов. разг.* ша́рить глаза́ми, броса́ть взгля́ды.

**ЗІРКАЧЫ́, -чо́ў** *ед. нет прост.* бу́ркалы, гляде́лки.

**ЗІРНУ́ЦЬ** *сов. однокр.* взгляну́ть, гля́нуть.

**ЗІХАТЛІ́ВЫ** сверка́ющий, сия́ющий.

**ЗІХАЦЕ́ННЕ** *ср.* **1.** сия́ние, сверка́ние; блиста́ние; **2.** игра́ *ж.;* 1, 2 *см.* **зіхаце́ць.**

**ЗІХАЦЕ́ЦЬ** *несов.* **1.** сия́ть, сверка́ть, блиста́ть, блесте́ть; **~це́лі зо́ркі** сия́ли (сверка́ли, блиста́ли) звёзды; **2.** *(сверкать, переливаясь)* игра́ть; **з. усі́мі ко́лерамі вясёлкі** игра́ть все́ми цвета́ми ра́дуги.

**ЗІХО́ТКІ** *разг. см.* **зіхатлі́вы.**

**ЗІХЦЕ́ННЕ** *ср. см.* **зіхаце́нне.**

**ЗІХЦЕ́ЦЬ** *несов. разг. см.* **зіхаце́ць.**

**ЗІЯ́ННЕ** *ср. лингв.* зия́ние.

**ЗЛАБАДЗЁННАСЦЬ** *ж.* злобо-дне́вность.

**ЗЛАБАДЗЁННЫ** злободне́вный.

**ЗЛАВА́ННЕ** *ср.* зло́бствование.

**ЗЛАВА́ЦЦА** *несов.* зли́ться, серди́ться; зло́бствовать; ду́ться.

**ЗЛАВА́ЦЬ** *несов.* **1.** *(возбуждать злость в ком-л.)* злить, серди́ть, озлобля́ть; **2.** *(испытывать злость)* зли́ться, серди́ться, доса́довать; ду́ться.

**ЗЛАВЕ́СНА** *нареч.* злове́ще.

**ЗЛАВЕ́СНЫ** злове́щий.

**ЗЛАВІ́РАВАЦЬ** *сов.* слави́ровать.

**ЗЛАВІ́ЦЦА** *сов.* пойма́ться; **на кручо́к ~ві́ўся вялі́кі шчупа́к** на крючо́к пойма́лась больша́я щу́ка.

**ЗЛАВІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* пойма́ть; *(схватить на лету или настичь в движении — ещё)* слови́ть; *(задержать кого-л. — ещё)* накры́ть; **з. мяч** пойма́ть (слови́ть) мяч; **з. на ме́сцы злачы́нства** пойма́ть (накры́ть) на ме́сте преступле́ния; **з. пту́шку** пойма́ть пти́цу; **з. гукаву́ю хва́лю** пойма́ть звукову́ю волну́; **з. радыёхва́лю** пойма́ть радиоволну́; **2.** *перен. разг. (уличить, изобличить)* пойма́ть; излови́ть; **з. на хлусні́** пойма́ть (излови́ть) на вранье́; **3.** *(восприять, постигнуть)* улови́ть; *(мысль — ещё)* схвати́ть; **ён ~ві́ў не́шта нядо́брае ў яе́ то́не** он улови́л что́-то нехоро́шее в её то́не; **з. ду́мку** улови́ть (схвати́ть) мысль; ◊ **з. на ву́ду** пойма́ть на у́дочку; **сло́ва не верабе́й, вы́леціць — не зло́віш** *посл.* сло́во не воробе́й, вы́летит — не пойма́ешь; **за двума́ зайца́мі паго́нішся, ніво́днага не зло́віш** *посл.* за двумя́ за́йцами пого́нишься, ни одного́ не пойма́ешь.

**ЗЛА́ГАДА** *ж.* согла́сие *ср.,* мир *м.;* лад *м.*

**ЗЛАД, -у** *м.:* **зла́ду няма́** *разг.* сла́ду нет.

**ЗЛА́ДЖАНА** *нареч.* **1.** дру́жно, единоду́шно, согла́сно, сла́женно; **2.** согла́сно, стро́йно; 1, 2 *см.* **зла́джаны** 3, 4.

**ЗЛА́ДЖАНАСЦЬ** *ж.* **1.** единоду́шие *ср.,* согла́сие *ср.,* сла́женность; **2.** согла́сие *ср.,* стро́йность; 1, 2 *см.* **зла́джаны** 3, 4.

**ЗЛА́ДЖАНЫ 1.** *прич.* сооружённый, сла́женный; смастерённый; **2.** *прич. перен.* сла́женный; 1, 2 *см.* **зла́дзіць** 3, 4; **3.** *прил. (согласованный)* дру́жный, единоду́шный, со-

гла́сный, сла́женный; **4.** *прил. (гармоничный)* согла́сный, стро́йный.

**ЗЛА́ДЖВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* сла́живаться; *см.* **зла́дзіцца, зла́джваць** 2.

**ЗЛА́ДЖВАЦЬ** *несов. разг.* **1.** сооружа́ть, сла́живать; мастери́ть; **2.** *перен. (делать согласованным, стройным)* сла́живать; 1, 2 *см.* **зла́дзіць** 3, 4.

**ЗЛАДЗЕ́ЙКА** *ж.* воро́вка, похити́тельница.

**ЗЛАДЗЕ́ЙСКІ** воровско́й.

**ЗЛАДЗЕ́ЙСТВА** *ср.* воровство́.

**ЗЛАДЗЕЯВА́ТА** *нареч.* ворова́то.

**ЗЛАДЗЕЯВА́ТЫ** ворова́тый.

**ЗЛА́ДЗІЦЦА** *сов. в разн. знач.* сла́диться; **з. пець** сла́диться петь; **не́шта ў іх не ~дзілася** что́-то у них не сла́дилось.

**ЗЛА́ДЗІЦЬ** *сов.* **1.** *(прийти к соглашению)* пола́дить; **мы з ім ~дзім** мы с ним пола́дим; **2.** спра́виться, сла́дить; **не з. з сэ́рцам** не сла́дить с се́рдцем; **3.** *разг.* сооруди́ть, сла́дить; смастери́ть; **з. зямля́нку** сооруди́ть (сла́дить) земля́нку; **з. калёсы** сла́дить (смастери́ть) теле́гу; **4.** *перен. разг. (сделать согласованным, стройным)* сла́дить; **з. галасы́ спевако́ў хо́ру** сла́дить голоса́ певцо́в хо́ра.

**ЗЛАДЗЮ́ГА** *м. разг. презр.* ворю́га.

**ЗЛАДЗЮ́ЖКА** *м. разг. уменьш.-уничиж.* вори́шка.

**ЗЛАЖЫ́ЦЦА** *сов.* **1.** *(сложить вещи)* сложи́ться; **2.** сложи́ться; **мы ~жы́ліся і купі́лі падару́нак** мы сложи́лись и купи́ли пода́рок; **3.** *(приготовиться для стрельбы)* приложи́ться, изгото́виться; **я ~жы́ўся і стрэ́ліў** я приложи́лся (изгото́вился) и вы́стрелил; **4.** *(определиться организационно)* сложи́ться; **калекты́ў наш ужо́ ~жы́ўся** коллекти́в наш уже́ сложи́лся; **5.** *разг. (в работе)* наловчи́ться.

**ЗЛАЖЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(в одно место)* сложи́ть; *(в копны — ещё)* скопни́ть; *(упаковать — ещё)* уложи́ть; **з. дро́вы** сложи́ть дрова́; **з. рэ́чы ў чамада́н** сложи́ть (уложи́ть) ве́щи в чемода́н; **2.** *перен. (сочинить)* сложи́ть; **з. пе́сню** сложи́ть пе́сню; **3.** *перен. (вину с себя на кого-л.)* свали́ть, сложи́ть; **4.** *(в схватке)* уби́ть, уложи́ть, положи́ть; свали́ть; **5.** свали́ть, повали́ть; **~жы́лі ўвесь лес** свали́ли (повали́ли) весь лес; **6.** *(прижать к земле)* приби́ть; **град ~жы́ў жы́та** град приби́л рожь; ◊ **з. галаву́ (ко́сці)** сложи́ть го́лову (ко́сти); **з. ру́кі** сложи́ть ру́ки.

**ЗЛА́ЗІЦЬ** I *сов. (туда и обратно)* сла́зить, сла́зать; **з. у склеп** сла́зить (сла́зать) в по́греб.

**ЗЛА́ЗІЦЬ** II *несов.* **1.** *в разн. знач.* слеза́ть; *(с коня — ещё)* спе́шиваться; **2.** *(о краске)* слеза́ть, сходи́ть; *см.* **зле́зці**; ◊ **злазь з да́ху, не псуй го́нтаў** *посл.* не бери́сь не за своё де́ло.

**ЗЛАЙДА́ЧЫЦЦА** *сов. разг. см.* **разлайда́чыцца.**

**ЗЛАК** *м. бот.* злак.

**ЗЛА́КАВЫ** зла́ковый.

**ЗЛА́КАВЫЯ** *сущ. мн. бот.* зла́ковые.

**ЗЛАКАПАДО́БНЫ** злакови́дный.

**ЗЛА́КІ, -аў,** *ед.* **злак** *м. бот.* зла́ки.

**ЗЛАМА́НЫ** **1.** *в разн. знач.* сло́манный; исковерканный; изло́манный; **2.** *прям., перен.* сло́манный; сло́мленный; **3.** *воен.* сло́ман-

ный, сло́мленный; смя́тый; 1—3 *см.* **злама́ць.**

**ЗЛАМА́ЦЦА** *сов.* **1.** слома́ться; **дрэ́ва ~ма́лася** де́рево слома́лось; **2.** *(отломиться, переломиться)* сломи́ться; **сук ~ма́ўся** сук сломи́лся.

**ЗЛАМА́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* слома́ть; *(сломать совсем или во многих местах)* исковёркать; *(измучить — ещё)* изломать; **з. ца́цку** слома́ть игру́шку; **з. нагу́** слома́ть но́гу; **~ма́лі ўвесь плот** излома́ли весь забо́р; **з. жыццё** излома́ть жизнь; **хваро́ба ~ма́ла мяне́** боле́знь излома́ла меня́; **2.** *прям., перен.* слома́ть; сломи́ть; **бу́ра ~ма́ла стары́ дуб** бу́ря сломи́ла ста́рый дуб; **го́ра не ~ма́ла яе́** го́ре не сломи́ло её; **з. во́лю** сломи́ть во́лю; **з. упа́ртасць** слома́ть (сломи́ть) упря́мство; **3.** слома́ть, сломи́ть; смять; **з. праці́ўніка** слома́ть (сломи́ть, смять) проти́вника; ◊ **з. сабе́ галаву́ (шы́ю)** слома́ть себе́ ше́ю; **чорт нагу́ зло́міць** чёрт но́гу сло́мит; **з. хрыбе́т** *каму* слома́ть хребе́т *кому*; **ду́рань і мя́ла зло́міць** *посл.* дура́к и пест слома́ет.

**ЗЛАМО́ЎНАСЦЬ** *ж. уст.* злоре́чие *ср.*

**ЗЛАМО́ЎНЫ** *уст.* злоречи́вый.

**ЗЛАМЫ́СНА** *нареч.* злонаме́ренно; зло́стно.

**ЗЛАМЫ́СНАСЦЬ** *ж.* злонаме́ренность, злоумышле́ние *ср.;* зло́стность.

**ЗЛАМЫ́СНІК** *м.* злоумы́шленник.

**ЗЛАМЫ́СНІЦА** *ж.* злоумы́шленница.

**ЗЛАМЫ́СНЫ** злонаме́ренный; злоумы́шленный; зло́стный.

**ЗЛАПА́МЯТЛІВАСЦЬ** *ж.* злопа́мятство *ср.*

**ЗЛАПА́МЯТЛІВЫ** *см.* **злапа́мятны.**

**ЗЛАПА́МЯТНАСЦЬ** *ж.* злопа́мятность.

**ЗЛАПА́МЯТНЫ** злопа́мятный.

**ЗЛА́ПІЦЬ** *сов. разг. см.* **зла́таць.**

**ЗЛА́ПЛЕНЫ** *разг. см.* **зла́таны.**

**ЗЛАПО́МНАСЦЬ** *ж. см.* **злапа́мятнасць.**

**ЗЛАПО́МНЫ** *см.* **злапа́мятны.**

**ЗЛАРА́ДНА** *нареч.* **злора́дно.**

**ЗЛАРА́ДНАСЦЬ** *ж.* злора́дность.

**ЗЛАРА́ДНІЧАЦЬ** *несов.* злора́дствовать.

**ЗЛАРА́ДНЫ** злора́дный.

**ЗЛАСЛІ́ВА** *нареч.* зло́бно; раздражи́тельно.

**ЗЛАСЛІ́ВАСЦЬ** *ж.* зло́бность; раздражи́тельность; злопыха́тельство *ср.;* жёлчность.

**ЗЛАСЛІ́ВЕЦ, -лі́ўца** *м.* злю́ка, злой челове́к.

**ЗЛАСЛІ́ВІЦА** *ж.* злю́ка, зла́я же́нщина.

**ЗЛАСЛІ́ВЫ** зло́бный, раздражи́тельный; жёлчный.

**ЗЛАСЛО́ВІЦЬ** *несов.* злосло́вить.

**ЗЛАСЛО́ЎЕ** *ср.* злосло́вие.

**ЗЛАТАВУ́СЦКІ** златоу́стский.

**ЗЛА́ТАНЫ** изла́танный, покры́тый запла́тами; *см.* **зла́таць.**

**ЗЛА́ТАЦЬ** *сов.* излата́ть, покры́ть запла́тами; **з. рукавы́** излата́ть рукава́.

**ЗЛАТАШЫ́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** оборва́ть *(жадно, не разбирая, портя)*; **з. боб (гаро́х)** оборва́ть бобы́ (горо́х); **2.** уничто́жить *(пожирая, вытаптывая)*; **сві́нні ~шы́лі ўсё ў агаро́дзе** сви́ньи уничто́жили всё в

огоро́де; **з.** *прост.* переби́ть, переколоти́ть; **з. гаршкі** переби́ть (переколоти́ть) горшки́.

**ЗЛА́ТКА** *ж. зоол.* зла́тка.

**ЗЛАЎЧА́ЦЦА** *несов. прям., перен.* изловча́ться.

**ЗЛАЎЧЫ́ЦЦА** *сов.* **1.** *прям., перен.* изловчи́ться; **2.** наловчи́ться; **ён ~чыўся піса́ць ле́вай руко́й** он наловчи́лся писа́ть ле́вой руко́й.

**ЗЛАХМА́ЦІЦЬ** *сов.* взлохма́тить.

**ЗЛАХМА́ЧАНЫ** взлохма́ченный.

**ЗЛАЧЫ́НЕЦ, -нца** *м.* престу́пник; злоумы́шленник; злоде́й.

**ЗЛАЧЫ́НКА** *ж.* престу́пница; злоумы́шленница; злоде́йка.

**ЗЛАЧЫ́ННА** *нареч.* престу́пно; злоумы́шленно; злоде́йски.

**ЗЛАЧЫ́ННАСЦЬ** *ж.* престу́пность; злоде́йство *ср.*

**ЗЛАЧЫ́ННЫ** престу́пный; злоумы́шленный; злоде́йский.

**ЗЛАЧЫ́НСТВА** *ср.* преступле́ние; злодея́ние; злоде́йство; **зрабі́ць з.** соверши́ть преступле́ние (злодея́ние); **з. па слу́жбе** *юр.* преступле́ние по до́лжности; ◊ **на ме́сцы з.** на ме́сте преступле́ния.

**ЗЛАЧЫ́НЦА** *м. см.* **злачы́нец.**

**ЗЛАШЧА́СНАСЦЬ** *ж.* злосча́стие *ср.*

**ЗЛАШЧА́СНЫ** злосча́стный, злополу́чный.

**ЗЛАЯ́КАСНАСЦЬ** *ж.* злока́чественность.

**ЗЛАЯ́КАСНЫ** злока́чественный.

**ЗЛА́ЯНЫ** изру́ганный, зару́ганный.

**ЗЛА́ЯЦЬ** *сов.* изруга́ть, заруга́ть; забрани́ть.

**ЗЛЕ́ВА** *нареч.* сле́ва.

**ЗЛЕ́ГЛЫ** полёгший, полёглый.

**ЗЛЕ́ГЧЫ** *сов.* **1.** *(лечь в постель, заболев)* слечь; **2.** *(о растениях и т. п.)* поле́чь, слечь.

**ЗЛЕ́ГЧЫСЯ** *сов.* слежа́ться.

**ЗЛЕДЗЯНЕ́ЛЫ** оледене́лый; окочене́вший, закочене́вший; *см.* **зледзяне́ць.**

**ЗЛЕДЗЯНЕ́ННЕ** *ср.* оледене́ние.

**ЗЛЕДЗЯНЕ́ЦЬ** *сов.* оледене́ть; *(замёрзнуть)* окочене́ть, закочене́ть.

**ЗЛЕДЗЯНІ́ЦЬ** *сов.* оледени́ть.

**ЗЛЁЖАНЫ** слежа́вшийся, слежа́лый.

**ЗЛЁЖАЦЦА** *сов. (уплотниться от долгого лежания)* слежа́ться, улежа́ться.

**ЗЛЁЖАЦЬ** *сов. разг.* улежа́ть; **хі́ба ~жыш цэ́лую ноч на адны́м баку́** ра́зве улежи́шь це́лую ночь на одно́м боку́.

**ЗЛЁЖВАЛЬНАСЦЬ** *ж.* слёживаемость.

**ЗЛЁЖВАННЕ** *ср.* слёживание, слега́ние.

**ЗЛЁЖВАЦЦА** *несов. (уплотняться от долгого лежания)* слёживаться; улёживаться.

**ЗЛЕ́ЗЦІ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* слезть; *(с коня — ещё)* спе́шиться; **з. з дрэ́ва** слезть с де́рева; **з. з каня́** слезть (спе́шиться) с ло́шади; **бот злез з нагі́** сапо́г слез с ноги́; **но́гаць злез** но́готь слез; **2.** *(о краске)* слезть, сойти́; **фа́рба ~зла** кра́ска сле́зла (сошла́).

**ЗЛЕ́ПАК, -пка** *м.* сле́пок; **з. з меда́лі** сле́пок с меда́ли.

**ЗЛЕ́ПКА** *ж. разг.* скле́йка.

**ЗЛЕ́ПЛЕНЫ 1.** *в разн. знач.* сле́пленный; сгоро́женный; **2.** сле́пленный; изва́янный; 1, 2 *см.* **зляпі́ць.**

**ЗЛЕ́ПЛІВАННЕ** *ср.* сле́пливание.

**ЗЛЕ́ПЛІВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* слепля́ться, сле́пливаться; *см.* **зляпі́цца, зле́пліваць** 1.

**ЗЛЕ́ПЛІВАЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* слепля́ть, сле́пливать; **2.** лепи́ть; ваять; 1, 2 *см.* **зляпі́ць.**

**ЗЛЕЦЬ** *несов. разг.* злеть.

**ЗЛЁГЕНЬКУ** *нареч.* лего́нько, лего́нечко.

**ЗЛЁГКУ** *нареч.* слегка́, лего́нько.

**ЗЛЁТ,** *род.* **злёту** *м. в разн. знач.* слёт; **з. піянэ́раў** слёт пионе́ров; **з. пту́шак** слёт птиц.

**ЗЛЁТАНАСЦЬ** *ж. ав.* слётанность.

**ЗЛЁТАЦЦА** *сов. разг.* избе́гаться.

**ЗЛЁТАЦЬ** *сов.* **1.** *(куда-л. и обратно)* слета́ть; **з. на самалёце ў Маскву́** слета́ть на самолёте в Москву́; **2.** *разг. (быстро сходить)* слета́ть, сбе́гать; **з. у магазі́н** слета́ть (сбе́гать) в магази́н.

**ЗЛІВА́ННЕ** *ср.* слива́ние, слив *м.;* **з. адфільтрава́най ва́дкасці** слива́ние (слив) отфильтро́ванной жи́дкости; *см.* **зліва́ць** 1.

**ЗЛІВА́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* слива́ться; *см.* **злі́цца; 2.** *страд.* слива́ться; залива́ться; *см.* **зліва́ць.**

**ЗЛІВА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* слива́ть; **2.** *(сплошь)* залива́ть; 1, 2 *см.* **зліць.**

**ЗЛІ́ЗАНЫ 1.** сли́занный; **2.** *разг.* изли́занный; 1, 2 *см.* **зліза́ць.**

**ЗЛІЗА́ЦЦА** *сов. разг. (износиться, стать тоньше от трения)* стере́ться; **наро́г ~за́ўся** ле́мех стёрся.

**ЗЛІЗА́ЦЬ** *сов.* **1.** слиза́ть; **2.** *разг. (всю поверхность)* излиза́ть; ◊ **як каро́ва языко́м ~за́ла** *погов.* как коро́ва языко́м слиза́ла.

**ЗЛІ́ЗВАННЕ** *ср.* сли́зывание; *см.* **злі́зваць** 1.

**ЗЛІ́ЗВАЦЦА** *несов.* **1.** *разг. (изнашиваться, становиться тоньше от трения)* стира́ться; **2.** *страд.* сли́зываться; изли́зываться; *см.* **злі́зваць.**

**ЗЛІ́ЗВАЦЬ** *несов.* **1.** сли́зывать; **2.** *разг. (всю поверхность)* изли́зывать; 1, 2 *см.* **зліза́ць.**

**ЗЛІЗНУ́ЦЬ** *сов. однокр.* слизну́ть.

**ЗЛІКВІДАВА́ЦЬ** *сов. разг.* ликвиди́ровать.

**ЗЛІНЕ́ЕНЫ** изграфлённый.

**ЗЛІНЕ́ЕЦЬ** *сов.* изграфи́ть.

**ЗЛІНЕ́ЙВАЦЦА** *несов. страд.* изграфля́ться.

**ЗЛІНЕ́ЙВАЦЬ** *несов.* изграфля́ть.

**ЗЛІНЯ́ЛЫ 1.** слиня́вший, слиня́лый; полиня́вший, полиня́лый; вы́линявший, вы́линялый; вы́цветший; поблёкший, поблёклый; **2.** слиня́вший, слиня́лый; вы́линявший, вы́линялый; **3.** *перен.* поблёкший, поблёклый; 1—3 *см.* **зліня́ць.**

**ЗЛІНЯ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(утратить первоначальный цвет, яркость окраски)* слиня́ть, полиня́ть, вы́линять; вы́цвести, поблёкнуть; **2.** *(сойти вследствие линьки)* слиня́ть; вы́линять; **шэрсць на саба́ку ~ня́ла** шерсть на соба́ке вы́линяла (слиня́ла); **3.** *перен.* поблёкнуть; **пасля́**

**хваро́бы ён не́як ~ня́ў** по́сле болéзни он кáк-то поблёк.

**ЗЛІПА́ННЕ** *ср.* слипáние; *см.* **зліпа́цца.**

**ЗЛІПА́ЦЦА** *несов. прям., перен.* слипáться; **лісты́ папе́ры ~па́юцца** листы́ бумáги слипáются; **во́чы ўжо зусі́м ~па́юцца** глазá ужé совсéм слипáются.

**ЗЛІПА́ЦЬ** *несов. разг.* слипáть.

**ЗЛІ́ПЛЫ** сли́пшийся; **~лыя валасы́** сли́пшиеся вóлосы.

**ЗЛІ́ПНУЦЦА** *сов. прям., перен.* сли́пнуться; *см.* **зліпа́цца.**

**ЗЛІТАВА́НАСЦЬ** *ж. см.* **спая́насць.**

**ЗЛІТАВА́НЫ** *см.* **спая́ны.**

**ЗЛІ́ТАВАЦЦА** *(над кім-чым) сов.* сжáлиться; пощади́ть *(кого-что)*; сми́ловаться; поми́ловать *(кого)*; ◊ **~туй(це)ся!** поми́луй(те)!

**ЗЛІТАВА́ЦЦА** *сов. см.* **спая́цца.**

**ЗЛІТАВА́ЦЬ** *сов. см.* **спая́ць.**

**ЗЛІ́ТАК, -тка** *м.* сли́ток; **зо́лата ў ~тках** зóлото в сли́тках.

**ЗЛІ́ТАСЦІВІЦЦА** *сов. разг. см.* **злі́таваца.**

**ЗЛІ́ТКАВЫ** сли́тковый.

**ЗЛІ́ТНАСЦЬ** *ж.* сли́тность.

**ЗЛІ́ТНЫ** сли́тный.

**ЗЛІТО́ЎВАННЕ** *ср. см.* **спа́йванне.**

**ЗЛІТО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд. см.* **спа́йвацца.**

**ЗЛІТО́ЎВАЦЬ** *несов. см.* **спа́йваць.**

**ЗЛІТО́ЎКА** *ж. см.* **спа́йка.**

**ЗЛІ́ТЫ 1.** *в разн. знач.* сли́тый; **2.** зали́тый; 1, 2 *см.* **зліць.**

**ЗЛІЎ** *м.* **1.** *род.* **злі́ву** *(действие)* слив, сток; **2.** *род.* **злі́ва** *(устройство)* слив, сток.

**ЗЛІ́ЎКА** *ж.* **1.** *спец.* сли́вка, слив *м.;* **2.** *разг. только мн. (остатки от чего-л. слитого)* сли́вки.

**ЗЛІЎНЫ́** *в разн. знач.* сливнóй; **з. пункт** сливнóй пункт; **з. жо́лаб** сливнóй жёлоб; **~но́е малако́** сливнóе молокó.

**ЗЛІ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* сли́ться; **ручаі́ злілі́ся ў рэ́чку** ручьи́ слили́сь в рéчку; **смала́ злiла́ся ў камя́к** смолá слилáсь в ком; **франты́ злілі́ся** фронты́ слили́сь; **з. з калекты́вам** сли́ться с коллекти́вом.

**ЗЛІЦЦЁ** *ср.* **1.** *в разн. знач.* слия́ние; **з. рэк** слия́ние рек; **з. гу́каў** слия́ние звýков; **з. з навако́льнымі абста́вінамі** слия́ние с окружáющей обстанóвкой; **2.** *(действие)* слив *м.*

**ЗЛІЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* слить; **з. ваду́** слить вóду; **з. гру́пы** слить грýппы; **з. малако́ з двух сло́ікаў у адзі́н** слить молокó из двух бáнок в однý; **2.** *(сплошь)* зали́ть; **з. падло́гу вадо́й** зали́ть пол водóй.

**ЗЛІ́ЧАНЫ** сосчи́танный, сочтённый, ◊ **дні з.** дни сочтены́.

**ЗЛІЧА́ЦЦА** *несов. возвр., страд. см.* **злі́чвацца.**

**ЗЛІЧА́ЦЬ** *несов. см.* **злі́чваць.**

**ЗЛІ́ЧВАННЕ** *ср.* сосчи́тывание.

**ЗЛІ́ЧВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* сосчи́тываться; *см.* **злічы́цца, злі́чваць.**

**ЗЛІ́ЧВАЦЬ** *несов.* сосчи́тывать.

**ЗЛІЧЫ́ЦЦА** *сов.* сосчитáться, счéсться.

**ЗЛІЧЫ́ЦЬ** *сов.* сосчитáть, счесть.

**ЗЛІЧЭ́ННЕ** *ср.* счисле́ние; ◊ **дзесятко́вая сістэ́ма ~ння** десяти́чная систе́ма счисле́ния.

**ЗЛО** *ср.* зло; ○ **ко́рань зла** ко́рень зла.

**ЗЛО́БА** *ж. см.* **злосць;** ○ **з. дня** зло́ба дня; **на ~бу дня** на зло́бу дня.

**ЗЛО́ДЗЕЙ,** *мн.* **зладзе́і, -дзе́яў** *м.* вор, похити́тель; ○ **на ~дзеі ша́пка гары́ць** *погов.* на во́ре ша́пка гори́т.

**ЗЛО́ЖАНЫ 1.** сло́женный; скопнённый; уло́женный; **2.** *перен.* сло́женный; **3.** *перен.* сва́ленный, сло́женный; **4.** уби́тый; сва́ленный; **5.** сва́ленный, пова́ленный; **6.** приби́тый; 1—6 *см.* **злажы́ць.**

**ЗЛО́ЖВАЦЬ** *несов. (вину с себя на кого-л.)* сва́ливать, слага́ть; *см.* **злажы́ць** 3.

**ЗЛО́ЖНІЦА** *ж. тех.* изло́жница.

**ЗЛОЗЫЧЛІ́ВАСЦЬ** *ж. уст.* зложела́тельство *ср.*

**ЗЛОЗЫЧЛІ́ВЕЦ, -лі́ўца** *м. уст.* зложела́тель.

**ЗЛОЗЫЧЛІ́ВЫ** *уст.* зложела́тельный.

**ЗЛОМ,** *род.* **зло́му** *м.* **1.** *(действие)* слом, сло́мка *ж.;* **2.** *(место перелома)* слом, изло́м; **3.** *(крутой поворот)* изло́м; **з. ракі́** изло́м реки́; ○ **на з. галавы́** сломя (очертя́) го́лову.

**ЗЛО́МАК, -мка** *м.* **1.** ло́маная вещь; **2.** *перен. разг. (о человеке, обычно с отрицанием)* сла́бый, больно́й; **ба́цька ду́жы, і сын не з.** оте́ц си́льный, и сын не сла́бый.

**ЗЛО́МАНЫ** *см.* **злама́ны.**

**ЗЛО́МКА** *ж.* сло́мка.

**ЗЛО́МЛІВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* сла́мываться; *см.* **злама́цца** 2, **зло́мліваць.**

**ЗЛО́МЛІВАЦЬ** *несов. прям., перен.* сла́мывать; *см.* **злама́ць** 2.

**ЗЛО́ПАНЫ** *прост. груб.* сло́панный, со́жранный.

**ЗЛО́ПАЦЬ** *сов. прост. груб.* сло́пать, сожра́ть.

**ЗЛО́СНА** *нареч.* **1.** зло, зло́бно; же́лчно; серди́то; раздражённо; **2.** зло, зло́бно; зло́стно; в сердца́х; **3.** я́ро, я́ростно; 1—3 *см.* **зло́сны.**

**ЗЛО́СНАСЦЬ** *ж.* **1.** зло́бность; же́лчность; раздражённость; **2.** зло́бность, зло́стность; **3.** я́рость, я́ростность; 1—3 *см.* **зло́сны.**

**ЗЛО́СНІК** *м.* **1.** злю́ка *ж.;* **2.** недоброжела́тель, не́друг.

**ЗЛО́СНІЦА** *ж.* **1.** злю́ка; **2.** недоброжела́тельница, не́друг *м.*

**ЗЛО́СНІЦКІ** недоброжела́тельный.

**ЗЛО́СНІЧАЦЬ** *несов.* зло́бствовать.

**ЗЛО́СНЫ 1.** злой, зло́бный; же́лчный, серди́тый, раздражённый; **з. чалаве́к** злой (зло́бный, же́лчный) челове́к; **з. по́гляд** серди́тый взгляд; **2.** *(о поступке, чувстве)* злой, зло́бный, зло́стный; **3.** *(ожесточённый)* я́рый, я́ростный; **з. во́раг** я́рый (я́ростный) враг; **з. банкру́т** зло́стный банкро́т.

**ЗЛОСЦЬ** *ж.* злость; зло́ба; зло *ср.;* озлобле́ние *ср.;* **ён усі́х пало́хаў сваёй ~сцю** он всех пуга́л свое́й зло́стью; **твар перакасі́ўся ад ~сці** лицо́ перекоси́лось от зло́сти (зло́бы); ○ **ды́хаць ~сцю** дыша́ть зло́бой; **з. бярэ́** зло берёт; **ло́пнуць ад ~сці** ло́пнуть от зло́бы; **сагна́ць з.**

сорва́ть зло; **на з.** *каму* на зло *кому;* **па ~сці** по зло́бе; **папа́ўся пад з.** попа́лся под горя́чую ру́ку; **кіпе́ць ад ~сці** кипе́ть от зло́бы; **як на з.** как на зло; **уве́сці ў з.** разозли́ть.

**ЗЛОТ** *м.* **1.** *(денежная единица)* злот; **2.** *см.* **залато́ўка.**

**ЗЛО́ТА: хадзіў бы ў зло́це, каб не дзі́рка ў ро́це** *посл.* ка́бы не дыра́ во рту́ — жил бы жил, ни о чём не тужи́л.

**ЗЛО́ТНІК** *м. уст. (ювелир)* золота́рь.

**ЗЛО́ТЫ** *м. см.* **злот** 1.

**ЗЛОЎ,** *род.* **зло́ву** *м.* пои́мка *ж.*

**ЗЛОЎЖЫВА́ННЕ** *ср.* злоупотребле́ние.

**ЗЛОЎЖЫВА́ЦЬ** *несов.* злоупотребля́ть.

**ЗЛОЎЖЫ́ЦЬ** *сов.* злоупотреби́ть.

**ЗЛО́ЎЛЕНЫ 1.** *в разн. знач.* по́йманный; сло́вленный; накры́тый; **2.** *перен. разг.* по́йманный; изло́вленный; **3.** уло́вленный; схва́ченный; 1—3 *см.* **злаві́ць.**

**ЗЛОЯЗЫ́ЧНАСЦЬ** *ж.* злоязы́чие *ср.*

**ЗЛОЯЗЫ́ЧНІК** *м.* злоязы́чник.

**ЗЛОЯЗЫ́ЧНІЦА** *ж.* злоязы́чница.

**ЗЛОЯЗЫ́ЧНЫ** злоязы́чный.

**ЗЛУБЯНЕ́ЛЫ** *разг.* одеревене́лый, одеревене́вший.

**ЗЛУБЯНЕ́ЦЬ** *сов. разг.* одеревене́ть.

**ЗЛУЗА́НЫ 1.** *в разн. знач.* соединённый; сращённый; **2.** сгры́зенный; 1, 2 *см.* **злуза́ць.**

**ЗЛУЗА́ЦЦА** *сов.* содра́ться.

**ЗЛУЗА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(кору, скорлупу и т. п.)* снять, содра́ть, счи́стить; **2.** *(съесть, грызя)* сгрызть; **з. се́мкі** сгрызть се́мечки.

**ЗЛУ́ЗВАННЕ** *ср.* снима́ние, сдира́ние, счи́стка *ж.; см.* **злу́зваць.**

**ЗЛУ́ЗВАЦЦА** *несов.* **1.** сдира́ться; *см.* **злуза́цца; 2.** *страд.* снима́ться, сдира́ться, счища́ться; *см.* **злу́зваць.**

**ЗЛУ́ЗВАЦЬ** *несов. (кору, скорлупу и т.п.)* снима́ть, сдира́ть; счища́ть.

**ЗЛУПІ́ЦЦА** *сов. разг.* слупи́ться; содра́ться; **фа́рба ~пі́лася са сцяны́** кра́ска слупи́лась (содрала́сь) со стены́.

**ЗЛУПІ́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** *в разн. знач.* слупи́ть; содра́ть; **з. кару́ з дрэ́ва** слупи́ть (содра́ть) кору́ с де́рева; **до́рага з.** до́рого содра́ть (слупи́ть); **2.** изби́ть (жесто́ко); ○ **з. шку́ру** *з каго* содра́ть шку́ру *с кого.*

**ЗЛУ́ПЛЕНЫ** *разг.* **1.** *в разн. знач.* слу́пленный; со́дранный; **2.** изби́тый (жесто́ко); 1, 2 *см.* **злупі́ць.**

**ЗЛУ́ПЛІВАННЕ** *ср. разг. в разн. знач.* сдира́ние; *см.* **злу́пліваць.**

**ЗЛУ́ПЛІВАЦЦА** *несов. возвр., страд. разг.* слу́пливаться; сдира́ться; *см.* **злупі́цца, злу́пліваць.**

**ЗЛУ́ПЛІВАЦЬ** *несов. разг. в разн. знач.* слу́пливать; сдира́ть; *см.* **злупі́ць** 1.

**ЗЛУЧА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* соедини́мость.

**ЗЛУЧА́ЛЬНІК** *м. тех.* соедини́тель.

**ЗЛУЧА́ЛЬНЫ 1.** *биол., грам.* соедини́тельный; **~ная гало́сная** соедини́тельная гла́сная; **2.** *грам.* сочини́тельный; **~ная су́вязь**

сочини́тельная связь; ◊ **~ная тка́нка** соедини́тельная ткань.

**ЗЛУЧАНАПЯЛЁСТКАВЫ** *бот.* спайнолепе́стный.

**ЗЛУЧАНАПЯЛЁСТКАВЫЯ, -вых** *сущ. мн. бот.* спайнолепе́стные.

**ЗЛУ́ЧАНЫ 1.** *в разн. знач.* соединённый; сращённый; **2.** случённый, спа́ренный; 1—2 *см.* **злучы́ць; 3.** *грам.* сочинённый.

**ЗЛУЧА́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* соединя́ться; *(о реках — ещё)* слива́ться; **2.** *с.-х.* случа́ться, спа́риваться; 1, 2 *см.* **злучы́цца; 3.** *страд.* соединя́ться; сра́щиваться; случа́ться, спа́риваться; *см.* **злуча́ць.**

**ЗЛУЧА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* соединя́ть; *(концы, края чего-л. — ещё)* сра́щивать; **2.** *с.-х.* случа́ть, спа́ривать; 1—2 *см.* **злучы́ць.**

**ЗЛУ́ЧВАННЕ** *ср. с.-х.* слу́чка *ж.*, спа́ривание; *см.* **злу́чваць.**

**ЗЛУ́ЧВАЦЦА** *несов. возвр., страд. с.-х.* случа́ться, спа́риваться; *см.* **злучы́цца 2, злу́чваць.**

**ЗЛУ́ЧВАЦЬ** *несов. с.-х.* случа́ть, спа́ривать; *см.* **злучы́ць** 2.

**ЗЛУ́ЧКА** *ж. с.-х.* слу́чка, спа́ривание *ср.*

**ЗЛУ́ЧНАСЦЬ** *ж.* едине́ние *ср.*

**ЗЛУ́ЧНІК** *м. грам.* сою́з.

**ЗЛУ́ЧНЫ** сли́тный.

**ЗЛУЧНЫ́** *с.-х.* случно́й; **з. перы́яд** случно́й пери́од; **з. пункт** случно́й пункт.

**ЗЛУЧО́К, -чка́** *м. грам.* дефи́с.

**ЗЛУЧЫ́ЦЦА** *сов.* **1.** *в разн. знач.* соедини́ться; *(о реках — ещё)* сли́ться; **кісларо́д ~чы́ўся з вадаро́дам** кислоро́д соедини́лся с водоро́дом; **во́йскі ~чы́ліся для наступле́ння** войска́ соедини́лись для наступле́ния; **канцы́ правадо́ў ~чы́ліся** концы́ проводо́в соедини́лись; **2.** *с.-х.* случи́ться, спа́риться.

**ЗЛУЧЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* соедини́ть; *(концы, края чего-л. — ещё)* срасти́ть; **з. канцы́ правадо́ў** соедини́ть (срасти́ть) концы́ проводо́в; **з. бераги́ ракі́ мо́стам** соедини́ть берега́ реки́ мосто́м; **з. сі́лы** соедини́ть си́лы; **з. вадаро́д з кісларо́дам** соедини́ть водоро́д с кислоро́дом; **2.** *с.-х.* случи́ть, спа́рить.

**ЗЛУЧЭ́ННЕ** *ср.* **1.** *в разн. знач.* соедине́ние; сра́щивание; **з. канцо́ў про́вада,** соедине́ние (сра́щивание) концо́в про́вода; **з. сіл** соедине́ние сил; **з. даро́г** соедине́ние доро́г; **та́нкавае вайско́вае з.** та́нковое вое́нное соедине́ние; **хімі́чнае з.** хими́ческое соедине́ние; **2.** *грам.* сочине́ние; **з. і падпара́дкаванне ска́заў** сочине́ние и подчине́ние предложе́ний.

**ЗЛУ́ШЧАНЫ 1.** сня́тый, со́дранный, счи́щенный; **2.** сгры́зенный; 1, 2 *см.* **злу́шчыць.**

**ЗЛУ́ШЧЫЦЬ** *сов.* **1.** *(скорлупу, кожицу, шелуху)* снять, содра́ть, счи́стить; **2.** *(семечки и т.п.)* сгрызть.

**ЗЛЫ** *в разн. знач.* злой; *(тяжёлый, трудный — ещё)* лихо́й; **з. ге́ній** злой ге́ний; **злы́я языкі́** злы́е языки́; ○ **з. дух** злой дух.

**ЗЛЫ́БЕДА** *ж.* **1.** *фольк.* ли́хо *ср.;* **2.** *разг.* ску́дость, убо́жество *ср.*

**ЗЛЫГА́НЫ 1.** сни́занный; **2.** свя́занный; сча́ленный; 1, 2 *см.* **злыга́ць** 1, 2; **3.** *перен. разг.* спу́тавшийся; связа́вшийся; *см.* **злы-**

**гáцца** 2; **4.** *перен.* неразлýчный; ○ **хóдзяць, як ~ныя** хóдят, как свя́занные.

**ЗЛЫГÁЦЦА** *сов.* **1.** связáться; *(о плотах — ещё)* счáлиться; **мóцна з.** крéпко связáться; **2.** *перен. разг.* спýтаться; связáться; **з. з дрэннай кампáніяй** спýтаться (связáться) с дурнóй компáнией.

**ЗЛЫГÁЦЬ** *сов.* **1.** снизáть; **2.** *(верёвкой, своркой)* связáть; *(плоты — ещё)* счáлить; **3.** *перен. неодобр.* связáть; **нібы чорт іх ~гáў** слóвно чёрт их связáл.

**ЗЛЫ́ГВАННЕ** *ср.* **1.** сни́зывание; сни́зка *ж.;* **2.** *(верёвкой, своркой)* свя́зывание.

**ЗЛЫ́ГВАЦЦА** *несов.* **1.** свя́зываться; *(о плотах — ещё)* счáливаться; **2.** *перен. разг.* спýтываться; свя́зываться; 1, 2 *см.* **злыгáцца; 3.** *страд.* низáться, сни́зываться; свя́зываться; счáливаться; *см.* **злы́гваць.**

**ЗЛЫ́ГВАЦЬ** *несов.* **1.** низáть, сни́зывать; **2.** *(верёвкой, своркой)* свя́зывать; *(плоты — ещё)* счáливать; **3.** *перен. неодобр.* свя́зывать; 1—3 *см.* **злыгáць.**

**ЗЛЫ́ДЗЕНЬ, -дня** *м. разг.* **1.** лиходéй, злодéй; злы́день; **2.** *только мн.* невзгóды; злы́дни; ○ **хадзíў тры дні, а прынёс ~дні** ходи́л три дня, а пришёл ни с чем.

**ЗЛЫСÉЛЫ** *разг.* облысéвший, облысéлый.

**ЗЛЫСÉЦЬ** *сов. разг.* облысéть.

**ЗЛЭ́ПАЦЬ** *сов. прост.* схвати́ть, поймáть.

**ЗЛЮБÍЦЦА** *сов. разг.* слюби́ться, полюби́ть друг дрýга; ○ **сцярпíцца-злю́біцца** стéрпится-слю́бится.

**ЗЛЯГÁННЕ** *ср.* вылегáние.

**ЗЛЯГÁЦЦА** *несов.* слёживаться.

**ЗЛЯГÁЦЬ** *несов.* **1.** *(ложиться в постель, заболев)* слегáть; **2.** *(о растениях и т. п.)* полегáть, слегáть.

**ЗЛЯЖÁЛЫ** *прил.* слежáвшийся.

**ЗЛЯЖÁЦЦА** *сов.* слежáться.

**ЗЛЯМЦАВÁНЫ** свáлянный; сби́тый.

**ЗЛЯМЦАВÁЦЦА** *сов.* *(о волосах, шерсти)* сваля́ться; сби́ться.

**ЗЛЯМЦАВÁЦЬ** *сов.* сваля́ть; сбить.

**ЗЛЯМЦÓЎВАННЕ** *ср.* свойлáчивание.

**ЗЛЯМЦÓЎВАЦЦА** *несов.* свойлáчиваться.

**ЗЛЯ́МЧАНЫ** *см.* **злямцавáны.**

**ЗЛЯ́МЧЫЦЦА** *сов. см.* **злямцавáцца; валасы́ зусíм ~чыліся** вóлосы совсéм сваля́лись (сби́лись).

**ЗЛЯ́МЧЫЦЬ** *сов. см.* **злямцавáць.**

**ЗЛЯ́ПАНЫ** *разг.* сля́панный, сваргáненный; свáлянный; отвáлянный; *см.* **зля́паць.**

**ЗЛЯ́ПАЦЬ** *сов. разг.* *(сделать кое-как)* сля́пать, сваргáнить; сваля́ть; отваля́ть.

**ЗЛЯПÍЦЦА** *сов.* слепи́ться; **лíсты́ кнíгі ~пíліся** листы́ книги слепи́лись.

**ЗЛЯПÍЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* слепи́ть; *(построить наспех — ещё)* сгороди́ть; **з. гняздó** слепи́ть гнездó; **з. лíсты́ папéры клéем** слепи́ть листы́ бумáги клéем; **сяк-так ~піў апавядáнне** кóе-кáк слепи́л расскáз; **з. будáн** слепи́ть (сгороди́ть)

шала́ш; **2.** слепи́ть; изваять; **з. бюст з гліны** слепи́ть (изваять) бюст из гли́ны; **з. снегавую бабу** слепи́ть снежную бабу.

**ЗЛЯПЛЯ́ЦЦА** *несов. см.* **злéплівацца.**

**ЗЛЯПЛЯ́ЦЬ** *несов. см.* **злéпліваць.**

**ЗЛЯТА́ЦЦА I** *несов. прям., перен.* слета́ться; *см.* **зляцéцца.**

**ЗЛЯТА́ЦЦА II** *сов. ав. (приобрести навык к совместным полётам)* слета́ться; **лётчыкі звяна́ до́бра ~та́ліся** лётчики звена́ хорошо́ слета́лись.

**ЗЛЯТА́ЦЬ I** *несов.* **1.** *(летя, спускаться)* слета́ть; *(о птицах — ещё)* спа́рхивать; **2.** *(взлетая, покидать какое-л.* место) слета́ть, улета́ть; **3.** *разг. (падать сверху)* слета́ть; **4.** *(срываться со своего места, отделившись от чего-л.)* слета́ть; **5.** *(быстро спускаться)* слета́ть; 1—5 *см.* **зляцéць** 1—4, 6.

**ЗЛЯТА́ЦЬ II** *сов. (куда-л. и обратно)* слета́ть; **з. на самалёце ў Пары́ж** слета́ть на самолёте в Пари́ж.

**ЗЛЯЦÉЦЦА** *сов. прям., перен.* слете́ться; **~цéлася груганнё** слете́лось вороньё; **на шум ~ цéліся дзéці** на шум слете́лись де́ти.

**ЗЛЯЦÉЦЬ** *сов.* **1.** *(летя, опуститься)* слете́ть; *(о птицах — ещё)* спорхну́ть; **2.** *(взлетев, покинуть какое-л. место)* слете́ть, улете́ть; **ка́чкі адгэ́туль зусі́м ~цéлі** у́тки отсю́да совсе́м слете́ли (улете́ли); **3.** *разг. (упасть сверху)* слете́ть; **кні́жка ~цéла з палі́цы** кни́га слете́ла с по́лки; **4.** *(сорваться со своего места, отделившись от чего-л.)* слете́ть; **папéры ~цéлі са стала́** бума́ги слете́ли со стола́; **ко́ла ~цéла** колесо́ слете́ло; **5.** *перен. прост. (лишиться должности)* слете́ть; **6.** *(быстро спуститься)* слете́ть; **хло́пец кулём ~цéў з пéчы** ма́льчик ку́барем слете́л с пе́чи.

**ЗМАГА́НЕЦ, -нца** *м. см.* **змага́р.**

**ЗМАГА́ННЕ** *ср.* **1.** борьба́ *ж.;* **2.** сраже́ние, би́тва *ж.;* **3.** *перен.* сраже́ние, состяза́ние; 1—3 *см.* **змага́цца.**

**ЗМАГА́Р, -ра́** *м. (за што)* боре́ц, побо́рник *(чего);* **з. за мір** боре́ц за мир; побо́рник ми́ра.

**ЗМАГА́РКА** *ж. (за што)* боре́ц *м.,* побо́рница *(чего).*

**ЗМАГА́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* боро́ться; **жыць і з.** жить и боро́ться; **з. за мір** боро́ться за мир; **з. за першынство́** боро́ться за пе́рвенство; **у ім ~га́ліся процілéглыя пачу́цці** в нём боро́лись противополо́жные чу́вства; **з. з недахо́памі** боро́ться с недоста́тками; **2.** *(с оружием в руках)* сража́ться, би́ться; дра́ться; **3.** *перен. (играть во что-л.)* сража́ться, состяза́ться; ○ **з. да апо́шняга** боро́ться до после́днего.

**ЗМАГА́ЦЬ** *несов. разг.* побежда́ть в борьбе́; одолева́ть.

**ЗМАГЧЫ́** *сов.* **1.** *разг.* оси́лить, одоле́ть; переси́лить; **2.** смочь; **не ~глі нічо́га зрабі́ць** не смогли́ ничего́ сде́лать.

**ЗМАГЧЫ́СЯ** *сов.* изнемо́чь, обесси́леть, ослабе́ть.

**ЗМАДЭЛЯВА́ЦЬ** *сов.* смодели́ровать.

**ЗМА́ЗАНЫ** **1.** *в разн. знач.* сма́занный; **2.** изма́занный; **3.** *разг.* изма́занный, испа́чканный, изма́ранный; 1—3 *см.* **зма́заць.**

**ЗМА́ЗАЦЦА** *сов.* **1.** *в разн. знач.* сма́заться; **з. вазелі́нам** сма́заться вазели́ном; **штрыхі́ малю́нка ~залі́ся** штрихи́ рису́нка сма́зались; **вось до́бра ~залася** ось хорошо́ сма́залась; **уся́ фа́рба ~залася** вся кра́ска сма́залась; **2.** *(израсходоваться)* изма́заться; **3.** *разг.* изма́заться, испа́чкаться, измара́ться.

**ЗМА́ЗАЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* сма́зать; **з. го́рла ёдам** сма́зать го́рло йо́дом; **з. кантра́стнасць здымка** сма́зать контра́стность сни́мка; **з. вастрыню́ пыта́ння** сма́зать остроту́ вопро́са; **2.** *(израсходовать)* изма́зать; **з. усю́ фа́рбу** изма́зать всю кра́ску; **3.** *разг.* изма́зать, испа́чкать, измара́ть.

**ЗМА́ЗАЧНАЕ** *ср. сущ.* сма́зочное; **экано́міць з.** эконо́мить сма́зочное.

**ЗМА́ЗАЧНА-АХАЛАДЖА́ЛЬНЫ** *тех.* сма́зочно-охлажда́ющий.

**ЗМА́ЗАЧНЫ** сма́зочный; **~нае ма́сла** сма́зочное ма́сло.

**ЗМА́ЗВАННЕ** *ср.* **1.** *в разн. знач.* сма́зывание; *(покрытие слоем чего-л. — ещё)* сма́зка *ж.;* **з. машы́ны** сма́зывание (сма́зка) маши́ны; **з. ра́ны ёдам** сма́зывание (сма́зка) ра́ны йо́дом; **з. супярэ́чнасцей** сма́зывание противоре́чий; **2.** *(расходование)* изма́зывание; **3.** изма́зывание, па́чканье, мара́нье; 1—3 *см.* **зма́зваць.**

**ЗМА́ЗВАЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* сма́зываться; **2.** *(расходоваться)* изма́зываться; **3.** изма́зываться, па́чкаться, мара́ться; 1—3 *см.* **зма́зацца; 4.** *страд.* сма́зываться; изма́зываться, па́чкаться, мара́ться; *см.* **зма́зваць.**

**ЗМА́ЗВАЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* сма́зывать; **2.** *(расходовать)* изма́зывать; **3.** *разг.* изма́зывать, па́чкать, мара́ть; 1—3 *см.* **зма́заць.**

**ЗМА́ЗКА** *ж. в разн. знач.* сма́зка; **з. камба́йна** сма́зка комба́йна; **лыжная з.** лы́жная сма́зка.

**ЗМА́ЗЧЫК** *м.* сма́зчик.

**ЗМА́ЗЧЫЦА** *ж.* сма́зчица.

**ЗМАЙСТРАВА́НЫ** **1.** смастерённый; сооружённый; сла́женный; **2.** *перен. разг. пренебр.* состря́панный; 1, 2 *см.* **змайстрава́ць.**

**ЗМАЙСТРАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(сделать, приготовить)* смастери́ть; сооруди́ть; сла́дить; **2.** *перен. разг. пренебр.* состря́пать; **з. адка́з** состря́пать отве́т.

**ЗМАКА́ЦЬ** *несов.* измока́ть, промока́ть; *см.* **змо́кнуць.**

**ЗМАКРЭ́ЛЫ** **1.** измо́кший, промо́кший; **2.** вспоте́вший, упа́рившийся; 1, 2 *см.* **змакрэ́ць.**

**ЗМАКРЭ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(на дожде)* измо́кнуть, промо́кнуть; **2.** вспоте́ть, упа́риться.

**ЗМАЛАДУ́ШНІЧАЦЬ** *сов.* смалоду́шничать, смалоду́шествовать.

**ЗМАЛАЦІ́ЦЬ** *сов.* **1.** обмолоти́ть, смолоти́ть; *(всё, многое — ещё)* перемолоти́ть, помолоти́ть; **з. усё жы́та** перемолоти́ть (помолоти́ть) всю рожь; **2.** *прост.* переколоти́ть; **з. усю́ пасу́ду** переколоти́ть всю посу́ду; **3.** *перен. разг.* изби́ть, исколоти́ть.

**ЗМАЛЁЎВАННЕ** *ср.* спи́сывание, срисо́вывание; срисо́вка *ж.; см.* **змалёўваць** 1.

**ЗМАЛЁЎВАЦЦА** *несов.* **1.** *(расходоваться — о краске и т. п.)* исписываться; **2.** *страд.* спи́сываться; срисо́вываться; испи́сы-

ваться; изрисо́вываться; *см.* **змалёўваць.**

**ЗМАЛЁЎВАЦЬ** *несов.* **1.** *(маслом и т. п.)* спи́сывать; *(карандашом)* срисо́вывать; **2.** *(рисуя, расходовать краску и т. п.)* испи́сывать; **3.** *(покрывать рисунками)* изрисо́вывать; 1—3 *см.* **змалява́ць.**

**ЗМА́ЛКУ** *нареч. разг.* сы́змала, с малоле́тства, с ма́лых лет.

**ЗМАЛО́ЦЦА** *сов.* смоло́ться; измоло́ться.

**ЗМАЛО́ЦЬ** *сов.* смоло́ть; измоло́ть; *(всё, многое — ещё)* перемоло́ть; помоло́ть; **з. ко́фе** смоло́ть ко́фе; **жы́та ўжо ~ло́лі** рожь уже́ измоло́ли.

**ЗМАЛО́ЧАНЫ 1.** обмоло́ченный, смоло́ченный; перемоло́ченный; помоло́ченный; **2.** *прост.* переколо́ченный; **3.** *перен. разг.* изби́тый, исколо́ченный; 1—3 *см.* **змалаці́ць.**

**ЗМАЛО́ЧВАЦЦА** *несов.* **1.** обмола́чиваться, измола́чиваться; **2.** *страд.* обмола́чиваться; смола́чиваться; перемола́чиваться; *см.* **змало́чваць.**

**ЗМАЛО́ЧВАЦЬ** *несов.* обмола́чивать, смола́чивать; *(всё, многое — ещё)* перемола́чивать; *см.* **змалаці́ць** 1.

**ЗМАЛЯВА́НЫ 1.** спи́санный; срисо́ванный; **2.** испи́санный; **3.** изрисо́ванный; 1—3 *см.* **змалява́ць.**

**ЗМАЛЯВА́ЦЦА** *сов.* *(израсходоваться — о краске и т. п.)* исписа́ться.

**ЗМАЛЯВА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(маслом и т. п.)* списа́ть; *(карандашом)* срисова́ть; **2.** *(рисуя, израсходовать краску и т. п.)* исписа́ть; **3.** *(покрыть рисунками)* изрисова́ть; **з. уве́сь альбо́м** изрисова́ть весь альбо́м.

**ЗМАН,** *род.* **зма́ну** *м.* обма́н.

**ЗМАНЕЎРАВА́ЦЬ** *сов.* сманеври́ровать.

**ЗМАНІ́ЦЬ** *сов.* совра́ть, солга́ть.

**ЗМА́НЛІВАСЦЬ** *ж.* **1.** при́зрачность; обма́нчивость; **2.** зама́нчивость.

**ЗМА́НЛІВЫ 1.** при́зрачный; обма́нчивый; **2.** зама́нчивый.

**ЗМАНЦІ́РАВАНЫ** смонти́рованный.

**ЗМАНЦІ́РАВАЦЬ** *сов.* смонти́ровать.

**ЗМА́НЬВАЦЬ** *несов.* врать, лгать.

**ЗМАРГНУ́ЦЬ** *сов.* сморгну́ть, смигну́ть; ◊ **во́кам не з.** (и) гла́зом не сморгну́ть.

**ЗМАРДАВА́НАСЦЬ** *ж.* изнурённость; истощённость.

**ЗМАРДАВА́ННЕ** *ср.* изнуре́ние; истоще́ние.

**ЗМАРДАВА́НЫ** *прич., прил.* изнурённый, измо́танный; истощённый.

**ЗМАРДАВА́ЦЦА** *сов.* изнури́ться, измота́ться; истощи́ться; измя́ться.

**ЗМАРДАВА́ЦЬ** *сов.* *(лишить сил)* изнури́ть, измота́ть; истощи́ть.

**ЗМАРКО́ЦІЦЦА** *сов.* соску́читься.

**ЗМАРНАВА́НЫ** истра́ченный, потра́ченный; переведённый, изведённый; уби́тый; *см.* **змарнава́ць.**

**ЗМАРНАВА́ЦЦА** *сов.* пропа́сть, не пойти́ впрок.

**ЗМАРНАВА́ЦЬ** *сов.* истра́тить, потра́тить (зря); перевести́, извести́; *(время — ещё)* уби́ть.

**НАРАВІСТЫ** *разг.* **1.** своенрáвный, привередливый; **2.** *(о лошади)* норовистый, с нóровом.

**НАРАВІЦЦА** *несов.* **1.** привередничать; **2.** норовиться, артачиться.

**НАРАВІЦЬ** *несов.* **1.** угождáть; **н. як ліхóй скýле** не знать как угодить; **2.** *(пробовать сделать что-л.)* норовить; **конь усё ~віў сарвáцца з прывязі** лóшадь всё норовила сорвáться с прйвязи.

**НАРАВЫ** *мн.* прихоти; привереды.

**НАРАГАТÁЦЦА** *сов. разг.* нахохотáться, насмеяться.

**НАРÁД** *м. в разн. знач.* наряд; **выпісаць н.** выписать наряд; **н. міліцыі** наряд милиции; **быць у ~дзе** *воен.* быть в наряде.

**НАРÁДА** *ж.* **1.** совéт *м.;* **сямéйная н.** семéйный совéт; **2.** совещáние *ср.;* **вытвóрчая н.** производственное совещáние.

**НАРÁДАВАЦЦА** *сов. чаще с отриц. (з каго-чаго)* нарáдоваться.

**НАРАДАВÓЛЕЦ, -льца** *м. ист.* народовóлец.

**НАРАДАВÓЛКА** *ж. ист.* народовóлка.

**НАРАДАВÓЛЬСКІ** *ист.* народовóльческий.

**НАРАДАВÓЛЬСТВА** *ср. ист.* народовóльчество.

**НАРАДЖÁЛЬНАСЦЬ** *ж.* рождáемость.

**НАРАДЖÁЦЦА** *несов. возвр., страд.* рождáться; *см.* **нарадзіцца, нараджáць I.**

**НАРАДЖÁЦЬ** I *несов.* рожáть; рождáть; **н. дзяцéй** рожáть детéй; **2.** *несов. перен.* рождáть.

**НАРАДЖÁЦЬ** II *сов. разг. (родить много)* нарожáть, народить.

**НАРАДЖЭННЕ** *ср. в разн. знач.* рождéние; **год і мéсца ~ння** год и мéсто рождéния; **сляпы ад ~ння** слепóй от рождéния; **дзень ~ння** день рождéния.

**НАРАДЗІЦЦА** *сов. прям., перен.* родиться; **~дзіўся ў бéднай сям'і** родился в бéдной семьé; **у маёй галавé ~дзілася дýмка** в моéй головé родилáсь мысль; ◊ **н. пад шчаслівай зóркай** родиться под счастливой звездóй; **н. ў сарóчцы** родиться в сорóчке.

**НАРАДЗІЦЬ** *сов.* родить; **янá ~дзіла дачкý** онá родилá дочь; ◊ **у чым мáці ~дзіла** в чём мать родилá; **гарá ~дзіла мыш** *погов.* горá родилá мышь.

**НАРÁДЧЫК** *м.* нарядчик.

**НАРÁДЧЫЦА** *ж.* нарядчица.

**НАРÁЕНЫ** насовéтованный.

**НАРАЗÁННЕ** *ср.* **1.** нарезáние, нарéзывание, нарéзка *ж.*; **2.** надрéзывание; **3.** зубрéние; 1—3 *см.* **наразáць.**

**НАРАЗÁНЫ** *мед. (о банках)* кровосóсный.

**НАРАЗÁЦЦА** *несов.* **1.** *(о зубах)* прорезáться; **2.** *страд.* нарезáться, нарéзываться; надрезáться, надрéзываться; назýбриваться, зубриться; *см.* **наразáць.**

**НАРАЗÁЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* нарезáть, нарéзывать; *(пилой — ещё)* напиливать; *см.* **нарэзаць** 1; **2.** надрезáть, надрéзывать; **3.** *(пилу)* назýбривать, зубрить.

**НАРАЗБІВÁЦЬ** *сов. (во множестве)* **1.** разбить; **2.** расколóть, расщепить; 1, 2 *см.* **разбіць** 1, 2.

**НАРАЗБУРА́ЦЬ** *сов. (во множестве)* разру́шить.

**НАРАЗВАРО́ЧВАЦЬ** *сов. (во множестве)* разворoти́ть.

**НАРАЗВЕ́ШВАЦЬ** *сов. (во множестве)* разве́сить.

**НАРАЗВО́ДЗІЦЬ** *сов. (во множестве)* развести́.

**НАРАЗВО́РВАЦЬ** *сов. (во множестве)* распаха́ть.

**НАРАЗВЯ́ЗВАЦЬ** *сов. (во множестве)* развяза́ть.

**НАРАЗДУ́ШВАЦЬ** *сов. разг. (во множестве)* раздави́ть; надави́ть.

**НАРАЗЛІВА́ЦЬ** *сов. (во множестве)* разли́ть.

**НАРАЗЛО́МВАЦЬ** *сов. см.* **наразло́мліваць.**

**НАРАЗЛО́МЛІВАЦЬ** *сов. (во множестве)* разлома́ть.

**НАРАЗНО́СІЦЬ** *сов. (во множестве)* разнести́.

**НАРАЗНЫ́** нарезно́й.

**НАРАЗРАЗА́ЦЬ** *сов. (во множестве)* разре́зать.

**НАРАЗРЭ́ЗВАЦЬ** *сов. см.* **наразраза́ць.**

**НАРА́ІЦЬ** *сов.* насове́товать.

**НАРАКА́ННЕ** *ср.* ропта́ние, ро́пот *м.,* се́тование.

**НАРАКА́ЦЬ** *несов.* ропта́ть, се́товать, пеня́ть.

**НАРАСКА́ЗВАЦЬ** *сов.* нарассказа́ть, насказа́ть.

**НАРАСКІДА́ЦЬ** *сов. (во множестве)* разброса́ть.

**НАРАСКІ́ДВАЦЬ** *сов. см.* **нараскіда́ць.**

**НАРАСКЛАДА́ЦЬ** *сов. (во множестве)* разложи́ть.

**НАРАСКЛА́ДВАЦЬ** *сов. см.* **нараскла́даць.**

**НАРАСКЛЕ́ЙВАЦЬ** *сов. (во множестве)* раскле́ить.

**НАРАСКО́ЛВАЦЬ** *сов. (во множестве)* расколо́ть.

**НАРАСКРУ́ЧВАЦЬ** *сов. (во множестве)* раскрути́ть.

**НАРАСПА́ШКУ** *нареч. см.* **наро́схрыст.**

**НАРАСПЕ́Ў** *нареч.* нараспе́в.

**НАРАСПЛО́ДЖВАЦЦА** *сов. разг.* наплоди́ться.

**НАРАСПЛО́ДЖВАЦЬ** *сов. разг.* наплоди́ть.

**НАРАСПО́РВАЦЬ** *сов. (во множестве)* распоро́ть; *см.* **распаро́ць** 1.

**НАРАССЦІЛА́ЦЬ** *сов. (во множестве)* разостла́ть.

**НАРАССЫПА́ЦЦА** *сов. (во множестве)* рассы́паться; *см.* **рассы́пацца** 1.

**НАРАССЫПА́ЦЬ** *сов. (во множестве)* рассы́пать; *см.* **рассы́паць** 1.

**НА́РАСТ** *м. см.* **на́расць.**

**НАРАСТАВА́ЦЬ** *сов.* натая́ть; **~ва́ла мно́га сне́гу** ната́яло мно́го сне́гу.

**НАРАСТА́ННЕ** *ср.* нараста́ние.

**НАРАСТА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* нараста́ть; *(о наросте — ещё)* образо́вываться; *см.* **нарасці́.**

**НАРАСТА́ЮЧЫ** *прил.* нараста́ющий.

**НАРАСТО́ЧВАЦЬ** *сов. (во множестве)* расточи́ть; *см.* **растачы́ць I.**

**НАРАСТРАСА́ЦЬ** *сов. (во множестве)* растрясти́, раструси́ть, развороти́ть; *см.* **растрэ́сці** 1.

**НАРАСТРЭ́СВАЦЬ** *сов. см.* **нарастраса́ць.**

**НАРАСХВА́Т** *нареч.* нарасхва́т.

**НАРАСЦІ́** *сов. в разн. знач.* нарасти́; *(о наросте — ещё)* образова́ться; **~сло́ шмат дрэў** наросло́ мно́го дере́вьев; **~слі́ працэ́нты** наросли́ проце́нты; **на гало́дным парася́ці са́ла не ~сце́** на голо́дном поросёнке са́ло не нарастёт; **на ствале́ наро́с гуз** на стволе́ образова́лся наро́ст.

**НАРАСЦІ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* нарасти́ть; **н. кве́так** нарасти́ть цвето́в; **н. ску́ру** нарасти́ть ко́жу; **н. працэ́нты** нарасти́ть проце́нты.

**НА́РАСЦЬ** *ж.* наро́ст *м.*

**НАРАСЦЯРУ́ШВАЦЦА** *сов. (во множестве)* раструси́ться, рассы́паться.

**НАРАСЦЯРУ́ШВАЦЬ** *сов. (во множестве)* раструси́ть, рассы́пать.

**НАРАЎЛЯ́НСКІ** наровля́нский.

**НАРАЎЛЯ́НСКІ РАЁН** Наровля́нский райо́н.

**НАРАЎНЕ́** *нареч. (одинаково)* наравне́; **жанчы́ны працава́лі н. з мужчы́намі** же́нщины рабо́тали наравне́ с мужчи́нами.

**НАРАЎЦІ́СЯ** *сов. разг.* нареве́ться.

**НА́РАЧ** *ж. оз.* На́рочь.

**НАРАЧА́НСКІ** наро́чанский.

**НА́РАЧНЫ** *сущ.* на́рочный.

**НАРАЧО́НАЯ** *сущ. уст.* наречённая.

**НАРАЧО́НЫ** *сущ. уст.* наречённый.

**НАРАШЧЫНЯ́ЦЬ** *сов. (во множестве)* раствори́ть; *(тесто)* натвори́ть.

**НАРАШЧЭ́ННЕ** *ср.* наращи́ние.

**НАРВА́НЫ 1.** на́рванный; **2.** на́рванный; **3.** натереблённый, надёрганный; 1—3 *см.* **нарва́ць** I 1—3.

**НАРВА́ЦЦА** *сов. разг.* **1.** нарва́ться; **~ва́ўся на заса́ду** нарва́лся на заса́ду; **н. на непрыёмнасць** нарва́ться на неприя́тность; **2.** неожи́данно появи́ться, нагря́нуть; **не ~ва́ўся б гаспада́р** не пришёл бы (не появи́лся бы) хозя́ин; ◊ **не на таго́ ~ва́ўся** не на того́ напа́л.

**НАРВА́ЦЬ** I *сов.* **1.** нарва́ть; **н. кве́так** нарва́ть цвето́в; **2.** *(разорвать)* нарва́ть; **н. ні́так** нарва́ть ни́ток; **н. папе́ры** нарва́ть бума́ги; **3.** *(льна, конопли)* натереби́ть, надёргать; **4.** *разг. (о ветре)* нагна́ть; **ве́цер ~ва́ў дажджу́** ве́тер нагна́л дождя́.

**НАРВА́ЦЬ** II *сов. (о нарыве)* нарва́ть; **па́лец ~ва́ў** па́лец нарва́л.

**НАРВА́ЦЬ** III *сов. разг.* наблева́ть.

**НАРГІЛЕ́** *нескл. м. и ср.* наргиле́.

**НАРД,** *род.* **на́рду** *м. бот.* нард.

**НА́РДАВЫ** на́рдовый.

**НА́РДЫ, -даў** *ед. нет (игра)* на́рды.

**НАРДЫ́ЧНЫ** норди́ческий.

**НАРЗА́Н, -ну** *м.* нарза́н.

**НАРЗА́ННЫ** нарза́нный.

**НАРКАБІ́ЗНЕС, -су** *м.* наркоби́знес.

**НАРКАГА́НДАЛЬ, -длю** *м.* наркоторго́вля *ж.*

**НАРКАГАНДЛЯ́Р, -ра́** *м.* наркоторго́вец.

**НАРКАЛАГІ́ЧНЫ** наркологи́ческий.

**НАРКАЛО́ГІЯ** *ж. мед.* нарколо́гия.

**НАРКАМА́Н** *м. мед.* наркома́н.

**НАРКАМА́НІЯ** *ж. мед.* наркома́ния.

**НАРКАМА́НКА** *ж.* наркома́нка.

**НАРКАМАСВЕ́ТЫ** *м. ист.* **(наро́дны камісарыя́т асве́ты)** *ист.* наркомпро́с (наро́дный комиссариа́т просвеще́ния).

**НАРКАМА́Т** *м. ист.* **(наро́дны камісарыя́т)** наркома́т (наро́дный комиссариа́т).

**НАРКАМЗЕ́М** *м. ист.* **(наро́дны камісарыя́т земляро́бства)** наркомзе́м (наро́дный комиссариа́т земледе́лия).

**НАРКАТЫЗАВА́НЫ** наркотизи́рованный.

**НАРКАТЫЗАВА́ЦЦА** *мед.* **1.** *сов. и несов.* наркотизи́роваться; **2.** *несов. страд.* наркотизи́роваться.

**НАРКАТЫЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов. мед.* наркотизи́ровать.

**НАРКАТЫЗА́ТАР** *м. мед.* наркотиза́тор.

**НАРКАТЫЗА́ЦЫЯ** *ж. мед.* наркотиза́ция.

**НАРКАТЫ́ЧНЫ** *мед.* наркоти́ческий.

**НАРКАЦІ́Н, -ну** *м. хим.* наркоти́н.

**НАРКО́З, -зу** *м.* нарко́з.

**НАРКО́ЗНЫ** нарко́зный.

**НАРКО́ЛАГ** *м.* нарко́лог.

**НАРКО́М** *м. ист.* **(наро́дны камiса́р)** нарко́м (наро́дный комисса́р).

**НАРКО́МАЎСКІ** нарко́мовский.

**НАРКО́ТЫКІ** *мн., ед.* **нарко́тык, -ку** *м.* нарко́тики.

**НАРМАЛІЗАВА́НЫ** нормализо́ванный.

**НАРМАЛІЗАВА́ЦЦА** **1.** *сов. и несов.* нормализова́ться; **2.** *несов. страд.* нормализова́ться.

**НАРМАЛІЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* нормализова́ть.

**НАРМАЛІЗА́ЦЫЯ** *ж.* нормализа́ция.

**НАРМА́ЛЬ** *ж. спец.* норма́ль.

**НАРМА́ЛЬНА** *нареч.* норма́льно.

**НАРМА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* норма́льность.

**НАРМА́ЛЬНЫ** норма́льный.

**НАРМАТЫВІ́ЗМ, -му** *м. филос.* нормативи́зм.

**НАРМАТЫ́Ў, -ты́ву** *м.* нормати́в.

**НАРМАТЫ́ЎНАСЦЬ** *ж.* нормати́вность.

**НАРМАТЫ́ЎНЫ** нормати́вный.

**НАРМІРАВА́ННЕ** *ср.* нормирова́ние, нормиро́вка *ж.*

**НАРМІРАВА́НЫ** нормиро́ванный.

**НАРМІРАВА́ЦЦА** *несов. страд.* нормирова́ться.

**НАРМІРАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* нормирова́ть.

**НАРМІРО́ВАЧНЫ** нормиро́вочный.

**НАРМІРО́ЎКА** *ж.* нормиро́вка.

**НАРМІРО́ЎШЧЫК** *м.* нормиро́вщик.

**НАРМІРО́ЎШЧЫЦА** *ж.* нормиро́вщица.

**НАРО́БЛЕНЫ** **1.** *в разн. знач.* наде́ланный; изгото́вленный; **2.** наде́ланный, доста́вленный, причинённый; **3.** насо́ренный, напа́чканный; **4.** навя́занный; 1—4 *см.* **нарабі́ць.**

**НАРО́Г** *м.* ле́мёх, сошни́к.

**НАРО́Д** *м.* **1.** *род.* **наро́да** *(нация, население страны)* наро́д; **2.** *род.* **наро́ду** *(группа людей)* наро́д; **пра-**

**цоўны н.** трудовой народ; **подзвіг беларускага народа** подвиг белорусского народа; **многа ~ду** много народу; ◊ **хаджэнне ў н.** хождение в народ.

**НАРОДАЗНАВЕЦ, -наўца** *м.* народовед.

**НАРОДАЗНАЎСТВА** *ср.* народоведение.

**НАРОДАЗНАЎЧЫ** народоведческий.

**НАРОДАЛЮБЕЦ, -бца** *м.* народолюбец.

**НАРОДАЛЮБІВЫ** народолюбивый.

**НАРОДАЛЮБСТВА** *ср.* народолюбие.

**НАРОДАНАСЕЛЬНІЦТВА** *ср.* народонаселение.

**НАРОДАЎЛАДДЗЕ** *ср.* народовластие.

**НАРОДАЎЛАДСТВА** *ср. см.* **народаўладдзе.**

**НАРОДЖАНАЯ** *(о девичьей фамилии замужней женщины)* урождённая.

**НАРОДЖАНЫ** рождённый.

**НАРОДНА-ВЫЗВАЛЕНЧЫ** народно-освободительный.

**НАРОДНАГАСПАДАРЧЫ** народнохозяйственный.

**НАРОДНА-ДЭМАКРАТЫЧНЫ** народно-демократический.

**НАРОДНАПАЭТЫЧНЫ** народнопоэтический.

**НАРОДНАПЕСЕННЫ** народнопесенный.

**НАРОДНАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* народность; **~ці Ўсходу** народности Востока; **н. паэзіі** народность поэзии.

**НАРОДНІК** *м. ист.* народник.

**НАРОДНІЦА** *ж. ист.* народница.

**НАРОДНІЦКІ** народнический.

**НАРОДНІЦТВА** *ср. ист.* народничество.

**НАРОДНЫ** *в разн. знач.* народный; **~ныя масы** народные массы; **~ная гаспадарка** народное хозяйство; **~ныя песні** народные песни; **н. суд** народный суд; **н. фронт** народный фронт; **н. настаўнік** народный учитель; **~ная медыцына** народная медицина; **н. універсітэт** народный университет; **~ная будоўля** народная стройка.

**НАРОКАМ** *нареч. разг.* в шутку, шутя, нарочно.

**НАРОСХРЫСТ** *нареч.* нараспашку; ◊ **душа н.** душа нараспашку.

**НАРОЎЛЯ** *ж. г.* Наровля.

**НАРОЎНІ** *нареч. в разн. знач.* наравне; **н. з дахам** наравне с крышей; **н. з іншымі** наравне с другими.

**НАРОШЧАНЫ** *в разн. знач.* наращённый; *см.* **нарасціць.**

**НАРОШЧВАННЕ** *ср. (действие)* наращение; наращивание; *см.* **нарошчваць.**

**НАРОШЧВАЦЦА** *несов. страд.* наращиваться; *см.* **нарошчваць.**

**НАРОШЧВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* наращивать; *см.* **нарасціць.**

**НАРСУД, -да** *м.* **(народны суд)** нарсуд (народный суд).

**НАРТА** *ж. см.* **нарты.**

**НАРТАВЫ** нартенный, нартовый.

**НАРТЫ, -таў** *и* **нарта** *ж.* нарты, нарта.

**НАРУБІЦЬ** *сов. горн.* нарубить; **н. вугалю** нарубить угля.

**НАРУ́БЛЕНЫ** *горн.* нару́бленный.

**НАРУКА́ЎНІК** *м.* нарука́вник.

**НАРУКА́ЎНЫ** нарука́вный.

**НА́РУКУ** *нареч. разг.* на́руку.

**НАРУМЯ́НЕНЫ** нарумя́ненный.

**НАРУМЯ́НІЦЦА** *сов.* нарумя́ниться.

**НАРУМЯ́НІЦЬ** *сов.* нарумя́нить.

**НАРУМЯ́НЬВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* нарумя́ниваться.

**НАРУМЯ́НЬВАЦЬ** *несов.* нарумя́нивать.

**НАРУ́ЧНІКІ,** *ед.* **нару́чнік** *м.* нару́чники.

**НАРУ́ЧНЫ** нару́чный; **н. гадзі́ннік** нару́чные часы́.

**НАРЦЫ́С** *м. бот.* нарци́сс.

**НАРЦЫ́САВЫ** нарци́ссовый.

**НАРЦЭІ́Н, -ну** *м. хим., фарм.* нарцеин.

**НА́РЫ, -раў** *ед. нет* на́ры.

**НАРЫВА́ЦЦА** *несов. разг.* **1.** нарыва́ться; **2.** неожи́данно появля́ться; 1, 2 *см.* **нарва́цца.**

**НАРЫВА́ЦЬ** I *несов.* **1.** нарыва́ть; **2.** *(разрывать)* нарыва́ть; **3.** *(лён, коноплю)* тереби́ть, надёргивать, дёргать; **4.** *(о ветре)* нагоня́ть; 1—4 *см.* **нарва́ць** I.

**НАРЫВА́ЦЬ** II *несов. (о нарыве)* нарыва́ть; *см.* **нарва́ць** II.

**НАРЫВА́ЦЬ** III *несов. (рылом — о животных)* нарыва́ть.

**НА́РЫС** *м.* о́черк.

**НАРЫСАВА́НЫ** нарисо́ванный.

**НАРЫСАВА́ЦЦА** *сов. разг. (вдоволь порисовать)* нарисова́ться.

**НАРЫСАВА́ЦЬ** *сов.* нарисова́ть.

**НА́РЫСАВЫ** очерко́вый.

**НАРЫСІ́СТ** *м.* очерки́ст.

**НАРЫСІ́СТКА** *ж.* очерки́стка.

**НАРЫСІ́СЦКІ** очерки́стский.

**НАРЫСО́ВАНЫ** *см.* **нарысава́ны.**

**НАРЫ́ТЫ** нары́тый; *см.* **нары́ць.**

**НАРЫ́Ў, -рыва** *м.* нары́в.

**НАРЫ́ЎНЫ** нары́вный; **~ная паве́рхня** нары́вная пове́рхность.

**НАРЫЎНЫ́** нарывно́й; **н. пла́стыр** нарывно́й пла́стырь.

**НАРЫХТАВА́НЫ** **1.** загото́вленный, нагото́вленный, запасённый; **2.** снаряжённый; 1, 2 *см.* **нарыхтава́ць.**

**НАРЫХТАВА́ЦЦА** *сов.* собра́ться, пригото́виться.

**НАРЫХТАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** загото́вить, нагото́вить, запасти́; **2.** снаряди́ть; **н. у даро́гу** снаряди́ть в доро́гу.

**НАРЫХТО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* загота́вляться, нагота́вливаться, запаса́ться; снаряжа́ться; *см.* **нарыхто́ўваць.**

**НАРЫХТО́ЎВАЦЬ** *несов.* **1.** заготовля́ть, нагота́вливать, напаса́ть; **2.** снаряжа́ть; 1, 2 *см.* **нарыхтава́ць.**

**НАРЫХТО́ЎКА** *ж. (действие)* загото́вка.

**НАРЫХТО́ЎЧЫ** заготови́тельный.

**НАРЫХТО́ЎШЧЫК** *м.* заготови́тель, загото́вщик.

**НАРЫХТО́ЎШЧЫЦА** *ж.* заготови́тельница, загото́вщица.

**НАРЫ́ЦЬ** *сов. (рылом — о животных)* нары́ть.

**НАРЭ́БЕРНЫ** нарёберный.

**НАРЭ́З** *м.* **1. -зу** *(действие)* наре́зка *ж.;* нареза́ние *ср.;* **2. -за** *в разн.*

*знач.* нарэ́з; **зрабі́ць н.** сде́лать нарэ́з; **н. зямлі́** *ист.* нарэ́з земли́.

**НАРЭ́ЗАНЫ 1.** *в разн. знач.* наре́занный; напи́ленный; **2.** надре́занный; **3.** назу́бренный; 1—3 *см.* **нарэ́заць.**

**НАРЭ́ЗАЦЦА** *сов.* **1.** *(о зубах)* проре́заться; **2.** *перен. прост. (напиться)* наре́заться.

**НАРЭ́ЗАЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* наре́зать; *(пилой — ещё)* напили́ть; **н. хле́ба** наре́зать хле́ба; **н. зямлі́** наре́зать земли́; **н. курэ́й** наре́зать кур; **н. болт** наре́зать болт; **2.** надре́зать; **3.** *(пилу)* назубри́ть.

**НАРЭ́ЗВАННЕ** *ср. см.* **наразáнне.**

**НАРЭ́ЗВАЦЦА** *несов. см.* **наразáцца.**

**НАРЭ́ЗВАЦЬ** *несов. см.* **наразáць.**

**НАРЭ́ЗКА** *ж. в разн. знач.* наре́зка; **н. шру́бы** наре́зка винта́; **н. зямлі́** наре́зка земли́.

**НАРЭ́ШЦЕ** *нареч.* **1.** наконе́ц, в конце́ концо́в; **н. прыйшла́ вясна́** наконе́ц пришла́ весна́; **2.** *в знач. вводн. сл.* наконе́ц; **гэ́та, н., несправядлі́ва** э́то, наконе́ц, несправедли́во.

**НАС** *мест. в род., вин., предл.* нас; *см.* **мы.**

**НАСАБА́ЧЫЦЦА** *сов. прост.* насоба́читься.

**НАСАВЫ́** *в разн. знач.* носово́й; **~ва́я перагаро́дка** носова́я перегоро́дка; **~вы́я гу́кі** носовы́е зву́ки; **~ва́я па́луба** носова́я па́луба.

**НАСАГЛО́ТАЧНЫ** носоглóточный.

**НАСАГЛО́ТКА** *ж. анат.* носоглóтка.

**НАСА́ДАЧНЫ** наса́дочный; *см.* **наса́дка.**

**НАСА́ДЖАНЫ** I наса́женный; *см.* **насадзі́ць** I.

**НАСА́ДЖАНЫ** II наса́женный; *см.* **насадзі́ць** II.

**НАСАДЖА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* насажа́ть; **н. гасце́й за стол** насажа́ть госте́й за стол; **н. дрэў** насажа́ть дере́вьев; **н. пасажы́раў** насажа́ть пассажи́ров; **н. сіняко́ў** насажа́ть синяко́в; **н. кля́ксаў** насажа́ть клякс; **н. пірагóў у печ** насажа́ть пирогóв в печь.

**НАСА́ДЖВАННЕ** *ср.* наса́дка *ж.; см.* **наса́джваць** II.

**НАСА́ДЖВАЦЦА** I *несов.* **1.** наса́живаться; **2.** *страд.* наса́живаться; сажа́ться; *см.* **наса́джваць** I.

**НАСА́ДЖВАЦЦА** II *несов. страд.* наса́живаться; *см.* **наса́джваць** II.

**НАСА́ДЖВАЦЬ** I *несов.* **1.** *(растения, деревья)* наса́живать; **2.** *(помещать)* наса́живать; **3.** *(ставить в горячую печь)* сади́ть, сажа́ть; 1—3 *см.* **насадзі́ць** I.

**НАСА́ДЖВАЦЬ** II *несов. (плотно надевать на что-л.)* наса́живать; *см.* **насадзі́ць** II.

**НАСАДЖЭ́ННЕ** *ср.* **1.** насажде́ние; *см.* **насадзі́ць** I 1; **2.** *(группа деревьев)* насажде́ние; **зялёныя ~джэ́нні** зелёные насажде́ния.

**НАСАДЗІ́ЦЬ** I *сов.* **1.** *(растения, деревья)* насади́ть, насажа́ть; **н. фрукто́вых дрэў** насади́ть (насажа́ть) фрукто́вых дере́вьев; **2.** *(поместить)* насади́ть, насажа́ть; **н. людзе́й у ваго́н** насади́ть (насажа́ть) люде́й в ваго́н; **3.** *(поставить в горячую печь)* насажа́ть; **н. по́ўную печ хле́ба** насажа́ть по́лную печь хлебо́в.

**НАСАДЗІЦЬ** II *сов. (плотно надеть на что-л.)* насадить; **н. вілкі на чаранок** насадить вилы на черенок; **н. чарвяка на кручок** насадить червяка на крючок.

**НАСАДКА** *ж. в разн. знач.* насадка; *(о приманке — ещё)* наживка; **надзець канічную ~ку** надеть коническую насадку; **н. чыгуннай муфты** насадка чугунной муфты; **рыба з'ела ~ку** рыба съела насадку (наживку).

**НАСАКАТАЦЦА** *сов.* **1.** *(о курице)* накокотаться; **2.** *разг. (наболтаться)* натараториться.

**НАСАЛАГІЧНЫ** *мед.* нозологический.

**НАСАЛАДЗІЦЬ** *сов.* **1.** *(сделать сладким)* насластить; *(сахаром — ещё)* насахарить; **2.** *(зерно, тесто)* насолодить.

**НАСАЛЕНЫ** насаленный.

**НАСАЛІЦЬ** *сов.* насалить.

**НАСАЛІЦЬ** *сов. в разн. знач.* насолить; **н. суп** насолить суп; **н. агуркоў** насолить огурцов; **н. камунебудзь** насолить кому-л.

**НАСАЛОГІЯ** *ж. мед.* нозология.

**НАСАЛОДЖАНЫ** **1.** наслащённый; насахаренный; **2.** насоложённый; 1, 2 *см.* **насаладзіць.**

**НАСАЛОДЖВАЦЬ** *несов.* **1.** *(делать более сладким)* наслащивать; *(сахаром — ещё)* насахаривать; **2.** *(зерно, тесто)* насолаживать.

**НАСАЛЬВАЦЦА** *несов. страд.* насаливаться.

**НАСАЛЬВАЦЬ** *несов.* насаливать.

**НАСАНДАЛІЦЬ** *сов.* насандалить.

**НАСАНДАЛЬВАЦЦА** *несов. страд.* насандаливаться; *см.* **насандальваць.**

**НАСАНДАЛЬВАЦЬ** *несов.* насандаливать

**НАСАР, -ра** *м. зоол.* носарь.

**НАСАРОГ** *м. зоол.* носорог.

**НАСАРОГАВЫ** носороговый, носорожий.

**НАСАРТАВАНЫ** насортированный.

**НАСАРТАВАЦЬ** *сов.* насортировать.

**НАСАРТОЎВАЦЬ** *несов.* насортировывать.

**НАСАСКРАБАЦЬ** *сов. (во множестве)* соскрести, соскоблить.

**НАСАСКРЭБВАЦЬ** *сов. см.* **насаскрабаць.**

**НАСАТКА** *ж. разг.* носовой платок.

**НАСАТЫ** *разг.* носатый, носастый.

**НАСАЧ, -ча** *м.* **1.** *разг.* носач; **2.** *зоол.* носач.

**НАСАЧЫЦЦА** *сов.* насочиться.

**НАСВАВОЛІЦЦА** *сов.* нашалиться, наозорничать, набаловаться.

**НАСВАВОЛІЦЬ** *сов.* нашалить, напроказить, напроказничать, наозорничать, набедокурить.

**НАСВАВОЛЬНІЧАЦЬ** *сов. см.* **насвavoліць.**

**НАСВАРЫЦЦА** *сов.* **1.** наругаться, набраниться; **2.** *(на каго)* поругать *(кого)*; побранить *(кого)*.

**НАСВІДРАВАНЫ** насверлённый; набуравленный; *см.* **насвідраваць.**

**НАСВІДРАВАЦЬ** *сов.* насверлить; *(буравом — ещё)* набуравить; *(буром — ещё)* набурить.

**НАСВІДРОЎВАЦЦА** *несов. страд.* насверливаться.

**НАСВІДРО́ЎВАЦЬ** *несов.* насверливать; *(буравом — ещё)* набуравливать; *(буром — ещё)* набу́ривать.

**НАСВІ́СТА́НЫ** насви́станный.

**НАСВІСТА́ЦЦА** *сов.* насвиста́ться, насвисте́ться.

**НАСВІСТА́ЦЬ** *сов.* насвиста́ть, насвисте́ть.

**НАСВІ́СТВАННЕ** *ср.* насви́стывание.

**НАСВІ́СТВАЦЦА** *несов. страд.* насви́стываться.

**НАСВІ́СТВАЦЬ** *несов.* насви́стывать.

**НАСВЯТКАВА́ЦЦА** *сов. разг.* напра́здноваться.

**НАСЕ́ДЖАНЫ** *в разн. знач.* наси́женный; *см.* **насе́дзець.**

**НАСЕ́ДЖВАЦЦА** *несов. страд.* наси́живаться; *см.* **насе́джваць.**

**НАСЕ́ДЖВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* наси́живать; *см.* **насе́дзець.**

**НАСЕ́ДЗЕЦЦА** *сов. разг.* насиде́ться.

**НАСЕ́ДЗЕЦЬ** *сов. в разн. знач.* насиде́ть; **квахту́ха ~дзела я́йцы** насе́дка насиде́ла я́йца; **н. гемаро́й** *разг.* насиде́ть геморро́й.

**НАСЕ́ЙВАЦЦА** *несов. см.* **насява́цца.**

**НАСЕ́ЙВАЦЬ** *несов. см.* **насява́ць.**

**НАСЕ́ЛЕНАСЦЬ** *ж.* **1.** *(густота населения)* населённость; **2.** *(наличие населения)* обита́емость.

**НАСЕ́ЛЕНЫ 1.** *в разн. знач.* населённый; **~ная кватэ́ра** населённая кварти́ра; **2.** *(имеющий население)* обита́емый; **н. во́страў** обита́емый о́стров; ○ **н. пункт** населённый пункт.

**НАСЕ́ЛЬНІК** *м.* обита́тель.

**НАСЕ́ЛЬНІЦА** *ж.* обита́тельница.

**НАСЕ́ЛЬНІЦТВА** *ср.* населе́ние

**НАСЕ́НІСТЫ** семени́стый.

**НАСЕ́НКА** *ж. разг.* семенно́й карто́фель (кле́вер и т. п.).

**НАСЕ́ННЕ** *ср.* **1.** *бот.* се́мя; **н. развіва́ецца з семязáвязі** се́мя развива́ется из семяпо́чки; **2.** *собир.* семена́ *мн.;* **сабра́ць н. мо́рквы** собра́ть семена́ морко́ви; **3.** *перен.* се́мя, семена́ *мн.;* ◊ **чо́ртава н.** *ирон.* чёртово отро́дье.

**НАСЕННЕАЧЫШЧА́ЛЬНЫ** семяочисти́тельный.

**НАСЕННЕСУШЫ́ЛКА** *ж.* семеносуши́лка, зерносуши́лка.

**НАСЕ́ННІК** *м. бот., с.-х.* семенни́к.

**НАСЕ́ННІКАВЫ** *бот., с.-х.* семеннико́вый.

**НАСЕ́ННІЦА** *ж.* **1.** *бот.* семявмести́лище *ср.;* **2.** семенни́к *м.*

**НАСЕ́ННЫ** *бот., с.-х.* семенно́й; **н. фонд** семенно́й фонд; **~нная бу́льба** семенно́й карто́фель.

**НАСЕННЯВО́Д** *м.* семеново́д.

**НАСЕННЯВО́ДСТВА** *ср.* семеново́дство.

**НАСЕННЯВО́ДЧЫ** семеново́дческий.

**НАСЕННЯНО́СЕЦ, -сца** *м. бот.* семяно́сец.

**НАСЕННЯНО́СНЫ** *бот.* семяно́сный, семеноно́сный.

**НАСЕННЯСХО́ВІШЧА** *ср. с.-х.* семенохрани́лище.

**НАСЕ́СЦІ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* насе́сть; **у ваго́н насе́ла мно́га наро́ду** в ваго́н насе́ло мно́го наро́ду; **пыл насе́ў на во́пратку** пыль насе́ла на оде́жду; **ён насе́ў на нас**

**са сваімí патрабавáннямі** он насéл на нас со своими трéбованиями; **2.** навя́знуть; **мя́са насéла ў зубáх** мя́со навя́зло в зубáх.

**НАСÉЧАНЫ 1.** насечённый; **2.** нару́бленный; **3.** насечённый, нару́бленный; 1—3 *см.* **насячы́.**

**НАСÉЧКА** *ж. в разн. знач.* насéчка; **н. на дрэ́ве** насéчка на дéреве; **н. на жóрнах сцёрлася** насéчка на жерновáх стёрлась.

**НАСÉЯНЫ** *в разн. знач.* насéянный; *см.* **насéяць.**

**НАСÉЯЦЦА** *сов. в разн. знач.* насéяться; **мак сам насéяўся** мак сам насéялся; **пыл насéяўся ўсю́ды** пыль насéялась всю́ду; **я сёння насéяўся, змары́ўся** я сегóдня насéялся, устáл.

**НАСÉЯЦЬ** *сов. в разн. знач.* насéять; **н. аўсá** насéять овсá; **н. мукí** насéять мукú.

**НАСЁРБАЦЦА** *сов.* нахлебáться.

**НАСІЛАСАВÁЦЬ** *сов. с.-х.* насилосовáть.

**НАСÍЛКІ, -лак** *ед. нет* носúлки.

**НАСÍЛЛЕ** *ср.* насúлие.

**НАСÍЛУ** *нареч.* насúлу, с трудóм, едвá-едвá.

**НАСÍЛЫ, -сíл,** *ед.* **насíла** *ж. (две жерди для переноски сена)* носúлки.

**НАСÍЛЬНА** *нареч.* насúльственно.

**НАСÍЛЬНЫ** I носúльный.

**НАСÍЛЬНЫ** II насúльственный.

**НАСÍЛЬШЧЫК** *м.* носúльщик.

**НАСÍНЕНЫ** *разг.* насинённый.

**НАСІНÍЦЬ** *сов.* насинúть.

**НАСÍНЬВАЦЦА** *несов. страд.* насúниваться.

**НАСÍНЬВАЦЬ** *несов. разг.* насúнивать.

**НАСÍЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* носúться; **лáстаўкі насíліся над сáжалкай** лáсточки носúлись над прудóм; **палітó нóсіцца пяць гадóў** пальтó нóсится пять лет; **н. са сваёй прапанóвай** носúться со своúм предложéнием; **2.** *страд.* носúться; *см.* **насíць;** ◊ **нóсіцца як (ду́рань) з пíсанай тóрбай** *погов.* нóсится как (ду́рень) с пúсаной тóрбой; **н. як кот з селядцóм** *погов.* носúться как ку́рица с яйцóм.

**НАСÍЦЬ** *несов. в разн. знач.* носúть; **н. цэ́глу** носúть кирпúч; **мáці насíла касцу́ абéд** мать носúла косцу́ обéд; **н. касцю́м** носúть костю́м; **н. прóзвішча** носúть фамúлию; **н. дзіця́** *(о беременной женщине)* носúть ребёнка; **н. барaду́** носúть бóроду; **н. звáнне** носúть звáние; **н. жалóбу** носúть трáур; **дзе цябé нóсіць?** где тебя́ нóсит? ◊ **н. збрóю** носúть ору́жие; **н. на рукáх** носúть на рукáх; **за плячáмі не н.** в тя́гость не бу́дет; кармáн не дерёт; **чэ́рці нóсяць** чéрти нóсят (нелёгкая нóсит); **н. у рэ́шаце ваду́** носúть решетóм вóду; **чуць (ледзь) нóгі нóсяць** едвá (éле) нóги нóсят; **паку́ль нóгі нóсяць** покá нóги нóсят; **да пары́ збан ваду́ нóсіць** *погов.* повáдился кувшúн пó воду ходúть, там ему́ и гóлову сломúть.

**НАСКАВЫТÁЦЦА** *разг.* навизжáться.

**НАСКАКÁЦЦА** *сов. разг.* **1.** напры́гаться; **н. да ўпáду** напры́гаться до упáду; **2.** *(на лошади)* наскакáться; **3.** наплясáться, натанцевáться.

**НАСКÁЛЬНЫ** *археол.* наскáльный.

**НАСКАНДА́ЛІЦЬ** *сов. разг.* насканда́лить.

**НАСКА́РДЗІЦЦА** *сов. разг.* нажа́ловаться.

**НАСКВА́РАНЫ** нажа́ренный.

**НАСКВА́РВАЦЦА** *несов. страд.* нажа́риваться.

**НАСКВА́РВАЦЬ** *несов. (сала)* нажа́ривать.

**НАСКВА́РЫЦЬ** *сов. (сала)* нажа́рить.

**НА́СКІ** *разг.* на́шенский.

**НАСКІДА́ЦЬ** *сов. (во множестве)* сбро́сить, ски́нуть.

**НАСКІ́ДВАЦЬ** *сов. см.* **наскіда́ць.**

**НАСКЛАДА́ЦЬ** *сов. (во множестве)* сложи́ть.

**НАСКЛА́ДВАЦЬ** *сов. см.* **насклада́ць.**

**НАСКЛЕ́ЙВАЦЬ** *сов. (во множестве)* скле́ить.

**НАСКО́К, -ку** *м.* наско́к; ◊ **з ~ку** с наско́ка, с наско́ку.

**НАСКО́КАМ** *нареч.* наско́ком.

**НАСКО́КВАЦЬ** *несов.* **1.** *(наталкиваться на ходу)* наска́кивать; **2.** наска́кивать, натыка́ться, нарыва́ться; **3.** *(нападать)* наска́кивать; 1—3 *см.* **наско́чыць** 1—3.

**НАСКО́ЛВАЦЬ** *сов. (во множестве)* сколо́ть; *см.* **скало́ць** II 1.

**НАСКО́ЧВАЦЬ** *сов. (во множестве)* скати́ть.

**НАСКО́ЧЫЦЬ** *сов.* **1.** *(натолкнуться на ходу)* наскочи́ть; **2.** наскочи́ть, наткну́ться, нарва́ться; **н. на непрые́мную сцэ́ну** наскочи́ть (нарва́ться) на неприя́тную сце́ну; **не на таго́ ~чыў** *разг.* не на того́ нарва́лся; **3.** *(напасть)* наскочи́ть; **4.** *(внезапно прийти)* нагря́нуть.

**НАСКРАБА́ЦЦА** *несов. страд.* наска́бливаться; наскреба́ться; начища́ться; *см.* **наскраба́ць.**

**НАСКРАБА́ЦЬ** *несов.* **1.** наска́бливать, наскреба́ть; **2.** *(моркови и т. п.)* начища́ть; **3.** *перен. разг. (с трудом собирать)* наскреба́ть; 1—3 *см.* **наскрэ́бці.**

**НАСКРО́ЗЬ** *нареч. прям., перен.* насквo̒зь; **ку́ля прабі́ла сцяну́ н.** пу́ля проби́ла сте́ну насквo̒зь; ◊ **ба́чыць н. (навы́лет)** *каго* ви́деть насквo̒зь *кого.*

**НАСКРУ́ЧВАЦЬ** *сов. (во множестве)* **1.** свить; скрути́ть; **2.** ската́ть, сверну́ть; скрути́ть; **3.** свинти́ть, отвинти́ть; 1—3 *см.* **скруці́ць** 1—3.

**НАСКРЫЛЯ́ЦЬ** *сов. обл.* наре́зать (ло́мтиками).

**НАСКРЭ́БВАЦЦА** *несов. см.* **наскраба́цца.**

**НАСКРЭ́БВАЦЬ** *несов. см.* **наскраба́ць.**

**НАСКРЭ́БЕНЫ 1.** наско́бленный, наскребённый; **2.** начи́щенный; **3.** *перен. разг.* наскребённый; 1—3 *см.* **наскрэ́бці.**

**НАСКРЭ́БЦІ** *сов.* **1.** наскобли́ть, наскрести́; **2.** *(моркови и т. п.)* начи́стить; **3.** *перен. разг. (с трудом собрать)* наскрести́; **н. гро́шай на пае́здку** наскрести́ де́нег на пое́здку.

**НАСКУБА́ЦЦА** *несов. страд.* надёргиваться; нащи́пываться; *см.* **наскуба́ць.**

**НАСКУБА́ЦЬ** *несов.* **1.** *(сена, щетины)* надёргивать; **2.** *(шерсти, перьев)* нащи́пывать.

**НАСКУ́БВАЦЦА** *несов. страд. см.* **наскуба́цца.**

**НАСКУ́БВАЦЬ** *несов. см.* **наскубáць.**

**НАСКУ́БЕНЫ 1.** надёрганный; **2.** нащи́панный; 1, 2 *см.* **наску́бці.**

**НАСКУ́БЦІ** *сов.* **1.** *(сена, щетины)* надёргать; **2.** *(шерсти, перьев)* нащипа́ть.

**НАСКУ́ПЛІВАЦЬ** *сов. см.* **наскупля́ць.**

**НАСКУПЛЯ́ЦЬ** *сов. (во множестве)* скупи́ть.

**НАСКУ́РНІК** *м. (клещ)* нако́жник.

**НАСКУ́РНЫ** *мед.* нако́жный.

**НАСЛАЕ́ННЕ** *ср. геол., перен.* наслое́ние; **пясча́нае н.** песча́ное наслое́ние; **~нні ў культу́ры** наслое́ния в культу́ре.

**НАСЛАІ́ЦЦА** *сов.* наслои́ться.

**НАСЛАІ́ЦЬ** *сов.* наслои́ть.

**НАСЛАННЁ** *ср.* наважде́ние; напа́сть *ж.*

**НАСЛА́НЫ** I *в разн. знач.* на́сланный; *см.* **насла́ць** I.

**НАСЛА́НЫ** II на́стланный; *см.* **насла́ць** II.

**НАСЛАНЯ́ЦЦА** *сов. разг.* наслоня́ться.

**НАСЛА́ЦЬ** I *сов. в разн. знач.* насла́ть; **н. падару́нкаў** насла́ть пода́рков.

**НАСЛА́ЦЬ** II *сов. (сделать настил)* настла́ть; **н. сало́мы** настла́ть соло́мы; **н. до́шак** настла́ть досо́к.

**НАСЛЕ́ДАВАЛЬНІК** *м.* подража́тель.

**НАСЛЕ́ДАВАЛЬНІЦА** *ж.* подража́тельница.

**НАСЛЕ́ДАВАЛЬНЫ** подража́тельный.

**НАСЛЕ́ДАВАННЕ** I *ср. биол.* насле́дование; *см.* **насле́даваць** I.

**НАСЛЕ́ДАВАННЕ** II *ср.* сле́дование; подража́ние; *см.* **насле́даваць** II.

**НАСЛЕ́ДАВАНЫ** *биол.* насле́дованный.

**НАСЛЕ́ДАВАЦЦА** I *несов. страд.* насле́доваться; *см.* **насле́даваць** I.

**НАСЛЕ́ДАВАЦЦА** II *несов. страд.* насле́доваться; *см.* **насле́даваць** II.

**НАСЛЕ́ДАВАЦЬ** I *несов. биол.* насле́довать.

**НАСЛЕ́ДАВАЦЬ** II *несов. (руководствоваться)* сле́довать; подража́ть; **н. ле́пшыя тради́цыі** сле́довать лу́чшим тради́циям; **н. вялі́каму паэ́ту** подража́ть вели́кому поэ́ту.

**НАСЛЕ́ДНІК** *м.* насле́дник; ○ **н. прасто́ла (тро́на)** престолонасле́дник.

**НАСЛЕ́ДНІЦА** *ж.* насле́дница.

**НАСЛЕ́ДНЫ** насле́дный; **н. прынц** насле́дный принц.

**НАСЛІ́НЕНЫ** *разг.* наслюнённый, наслюня́вленный; намусо́ленный.

**НАСЛІ́НІЦЬ** *сов. разг.* наслюни́ть, наслюня́вить; намусо́лить.

**НАСЛІ́НЬВАЦЦА** *несов. страд. разг.* наслю́ниваться; намусо́ливаться.

**НАСЛІ́НЬВАЦЬ** *несов. разг.* наслю́нивать, слюня́вить; намусо́ливать.

**НАСЛО́ЕНЫ** наслоённый.

**НАСЛО́ЙВАННЕ** *ср.* насла́ивание.

**НАСЛО́ЙВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* насла́иваться.

**НАСЛО́ЙВАЦЬ** *несов.* насла́ивать.

**НАСЛУЖЫ́ЦЦА** *сов.* наслужи́ться.

**НАСЛУ́ХАЦЦА** *сов.* наслу́шаться.

**НАСЛЯДЗІЦЬ** *сов.* наследить.

**НАСМА́ЖАНЫ** нажа́ренный.

**НАСМА́ЖВАЦЦА** *несов. страд.* нажа́риваться.

**НАСМА́ЖВАЦЬ** *несов.* нажа́ривать.

**НАСМА́ЖЫЦЬ** *сов.* нажа́рить.

**НАСМАКТА́НЫ** насо́санный.

**НАСМАКТА́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* насоса́ться; **кама́р ~та́ўся крыві́** кома́р насоса́лся кро́ви; **н. малака́** насоса́ться молока́.

**НАСМАКТА́ЦЬ** *сов.* насоса́ть.

**НАСМА́ЛЕНЫ** опалённый; *см.* **насмалі́ць** II.

**НАСМАЛІ́ЦЬ** I *сов. (смолой)* насмоли́ть; **н. вяро́ўку** насмоли́ть верёвку.

**НАСМАЛІ́ЦЬ** II *сов. (во множестве)* опали́ть.

**НАСМА́ЛЬВАЦЬ** *несов. (во множестве)* опа́ливать.

**НА́СМАРК, -ку** *м.* на́сморк.

**НАСМЕ́ЛУЮ** *нареч.* сме́ло.

**НАСМЕ́РЦЬ** *нареч.* на́смерть; напова́л; ◊ **стая́ць н.** стоя́ть на́смерть.

**НАСМЕ́ЦІЦЬ** *сов.* насори́ть, наму́сорить.

**НАСМЕ́ЧАНЫ** насо́ренный, наму́соренный.

**НАСМЕ́ЧВАЦЬ** *несов.* сори́ть, му́сорить.

**НАСМЕ́ШКА** *ж. (з каго-чаго)* насме́шка *(над кем-чем).*

**НАСМЕ́ШЛІВА** *нареч.* насме́шливо.

**НАСМЕ́ШЛІВАСЦЬ** *ж.* насме́шливость.

**НАСМЕ́ШЛІВЫ** насме́шливый.

**НАСМЕ́ШНІК** *м.* насме́шник.

**НАСМЕ́ШНІЦА** *ж.* насме́шница.

**НАСМІХА́ННЕ** *ср.* насмеха́ние, насмеха́тельство.

**НАСМІХА́ЦЦА** *несов. (з каго-чаго)* насмеха́ться *(над кем-чем);* подтру́нивать *(над кем-чем);* смея́ться *(над кем-чем).*

**НАСМО́КТВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* наса́сываться; *см.* **насмакта́цца, насмо́ктваць.**

**НАСМО́КТВАЦЬ** *несов.* наса́сывать.

**НАСМО́ЛЕНЫ** насмолённый; *см.* **насмалі́ць** I.

**НАСМО́ЛЬВАЦЦА** *несов. страд.* насма́ливаться; *см.* **насмо́льваць.**

**НАСМО́ЛЬВАЦЬ** *несов. (смолой)* насма́ливать; *см.* **насмалі́ць** I.

**НАСМУРО́ДЗІЦЬ** *сов. разг.* навоня́ть.

**НАСМЫ́КАНЫ** *обл.* надёрганный.

**НАСМЫ́КАЦЬ** *сов. обл.* надёргать.

**НАСМЯШЫ́ЦЬ** *сов.* насмеши́ть.

**НАСМЯЯ́ННЕ** *ср.* надруга́тельство.

**НАСМЯЯ́ЦЦА** *сов.* **1.** *(вдоволь посмеяться)* насмея́ться; **2.** *(з каго-чаго)* насмея́ться *(над кем-чем);* надруга́ться *(над кем-чем).*

**НАСНАВА́НЫ** насно́ванный.

**НАСНАВА́ЦЬ** *сов.* насновáть.

**НАСНІ́ЦЦА** *сов. разг. (о многом)* присни́ться.

**НАСНІ́ЦЬ** *сов. разг. (увидеть многое во сне)* присни́ть.

**НАСО́ВАНЫ** насо́ванный; *см.* **насо́ваць.**

**НАСО́ВАЦЬ** *сов.* насова́ть; **~валі ро́зных рэ́чаў у чамада́н** насова́ли ра́зных веще́й в чемода́н.

**НАСО́К, -ска́** *м. (в обуви)* носо́к.

**НАСО́ЛЕНЫ** *в разн. знач.* насо́ленный.

**НАСО́ЛЬВАЦЦА** *несов. страд.* наса́ливаться; *см.* **насо́льваць.**

**НАСО́ЛЬВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* наса́ливать; *см.* **насалі́ць.**

**НАСО́С** I, **-су** *м. вет.* насо́с.

**НАСО́С** II *м. (для накачивания воздуха)* насо́с.

**НАСО́Ў,** *род.* **насо́ва** *м. разг.* одёжка; ◊ **сем насаво́ў і ўсе без рукаво́ў** *погов.* семь одёжек и все без застёжек.

**НАСО́ЎВАЦЦА** *несов.* **1.** надвига́ться; насо́вываться; *(о головном уборе — ещё)* нахлобу́чиваться; **2.** *разг.* натыка́ться, набреда́ть; **3.** *страд.* нагреба́ться; надвига́ться; насо́вываться; нахлобу́чиваться; *см.* **насо́ўваць.**

**НАСО́ЎВАЦЬ** *несов.* **1.** нагреба́ть; **2.** надвига́ть; *(надевать — ещё)* насо́вывать; *(головной убор—ещё)* нахлобу́чивать; 1, 2 *см.* **насу́нуць 1, 2.**

**НАСО́ЎКА** *ж. разг.* носово́й плато́к.

**НАСО́ЎНЫ** надвижно́й.

**НАСО́ХЛЫ** насо́хший.

**НАСО́ХНУЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* насо́хнуть; **на ко́лах ~хла гразь** на колёсах насо́хла грязь; **~хла мно́га дрэў** насо́хло мно́го дере́вьев; **2.** *разг.* просо́хнуть; **се́на до́бра ~хла** се́но хорошо́ просо́хло.

**НАСПА́ЙВАЦЬ** *сов. (во множестве)* спая́ть.

**НАСПА́ЦЦА** *сов. разг.* наспа́ться.

**НАСПА́ЦЬ** *сов. разг.* наспа́ть.

**НАСПЕ́ЛЫ** *прям., перен.* назре́вший.

**НАСПЕ́Х** *нареч.* на́спех; поспе́шно.

**НАСПЕ́ЦЬ** I *сов. прям., перен.* назре́ть; **ві́шні ўжо ~пе́лі** ви́шни уже́ назре́ли; **пыта́нне ~пе́ла** вопро́с назре́л.

**НАСПЕ́ЦЬ** II *сов. обл.* насти́чь, насти́гнуть.

**НАСПІЛО́ЎВАЦЬ** *сов. (во множестве)* спили́ть.

**НАСПІ́ННІК** *м. воен. ист.* наспи́нник.

**НАСПІРТАВА́НЫ** наспирто́ванный.

**НАСПІРТАВА́ЦЦА** *сов.* наспиртова́ться.

**НАСПІРТАВА́ЦЬ** *сов.* наспиртова́ть.

**НАСПІРТО́ВАНЫ** *см.* **наспіртава́ны.**

**НАСПІРТО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* наспирто́вываться.

**НАСПІРТО́ЎВАЦЬ** *несов.* наспирто́вывать.

**НАСПІ́СВАЦЬ** *сов. (во множестве)* списа́ть.

**НАСПО́РВАЦЬ** *сов. (во множестве)* **1.** споро́ть; **2.** сбро́сить; 1, 2 *см.* **спаро́ць** 1, 2.

**НАСПРАЧА́ЦЦА** *сов.* наспо́риться.

**НАСПЯВА́ННЕ** *ср.* назрева́ние; *см.* **наспява́ць** II.

**НАСПЯВА́НЫ** напе́тый; *см.* **наспява́ць** I.

**НАСПЯВА́ЦЦА** *сов. (вдоволь)* напе́ться.

**НАСПЯВА́ЦЬ** I *сов.* напе́ть; **ён ~ва́ў мно́га прыпе́вак** он напе́л мно́го часту́шек.

**НАСПЯВА́ЦЬ** II *несов. прям., перен.* назрева́ть; *см.* **наспе́ць** I.

**НАССА́НЫ** насо́санный.

**НАССА́ЦЦА** *сов.* насоса́ться; **дзіця́ насса́лася і спіць** ребёнок насоса́лся и спит.

**НАССА́ЦЬ** *сов.* насоса́ть.

**НАССО́ЎВАЦЦА** *сов. (во множестве)* **1.** упа́сть, свали́ться; **2.** сдви́нуться; 1, 2 *см.* **ссу́нуцца** 2, 4.

**НАССО́ЎВАЦЬ** *сов. (во множестве)* **1.** свали́ть, сбро́сить; **2.** сгрести́; **3.** сдви́нуть; 1—3 *см.* **ссу́нуць** 2—4.

**НАССЫПА́ЦЬ** *сов. (во множестве)* ссы́пать.

**НАССЯКА́ЦЬ** *сов. (во множестве)* сруби́ть.

**НАСТАВА́ЦЬ** *несов.* **1.** *(о времени — начинаться)* настава́ть, наступа́ть; **2.** *обл. (с требованием, просьбами и т. п.)* пристава́ть; 1, 2 *см.* **наста́ць.**

**НАСТА́ВІЦЬ** I *сов.* **1.** *в разн. знач.* наста́вить; **н. мэ́блі** наста́вить ме́бели; **н. рэвальве́р** наста́вить револьве́р; **н. сіняко́ў** *разг.* наста́вить синяко́в; **2.** *(выдвинуть вперёд)* вы́ставить; **н. ру́кі** вы́ставить ру́ки; **3.** *(взгляд и т. п.)* уста́вить; устреми́ть; **н. во́чы** уста́вить (устреми́ть) глаза́; **4.** *охот. (капкан, западню)* насторожи́ть; **5.** *(уши)* насторожи́ть, навостри́ть; **6.** *(воротник)* подня́ть; **7.** *разг. (самовар)* поста́вить; ◊ **н. ро́гі** наста́вить рога́; **н. (наве́сці) на ро́зум** наста́вить на ум; **н. акуля́ры** втере́ть очки́.

**НАСТА́ВІЦЬ** II *сов. (дать наставление)* наста́вить.

**НАСТАГНА́ЦЦА** *сов.* настона́ться.

**НАСТА́ЛІЦЬ** *сов. тех.* наста́лить.

**НАСТАЛІ́ЦЬ** *сов.* настла́ть потоло́к.

**НАСТА́ЛЬВАЦЬ** *несов. тех.* наста́ливать.

**НАСТАЛЬГІ́ЧНЫ** ностальги́ческий.

**НАСТАЛЬГІ́Я** *ж. книжн.* ностальги́я.

**НАСТАРА́ЦЦА** *сов.* настара́ться, наусе́рдствоваться.

**НАСТАЎЛЕ́ННЕ** *ср. (инструкция)* наставле́ние; руково́дство.

**НАСТА́ЎЛЕНЫ** **1.** наста́вленный; **2.** вы́ставленный; **3.** устремлённый; **4.** насторо́женный; **5.** насторо́женный, насторожённый, навострённый; **6.** по́днятый; **7.** поста́вленный; 1—7 *см.* **наста́віць** I.

**НАСТАЎЛЯ́ЦЦА** *несов. страд.* настора́живаться; *см.* **настаўля́ць** 4.

**НАСТАЎЛЯ́ЦЬ** I *несов.* **1.** *в разн. знач.* наставля́ть; **2.** *(выдвигать вперёд)* выставля́ть; **3.** *(взгляд и т. п.)* уставля́ть; устремля́ть; **4.** *охот. (капкан, западню)* настора́живать; **5.** *(уши)* настора́живать, нава́стривать; **6.** *(воротник)* поднима́ть; **7.** *разг. (самовар)* ста́вить; 1—7 *см.* **наста́віць** I.

**НАСТАЎЛЯ́ЦЬ** II *несов. (давать наставление)* наставля́ть; *см.* **наста́віць** II.

**НАСТАЎЛЯ́ЦЬ** III *сов. разг. (поставить во множестве)* наста́вить, понаста́вить; **н. тале́рак на стол** наста́вить (понаста́вить) таре́лок на стол.

**НАСТА́ЎНІК** *м.* **1.** *(преподаватель)* учи́тель; **2.** *(руководитель)* наста́вник, учи́тель.

**НАСТА́ЎНІЦА** *ж.* **1.** *(преподавательница)* учи́тельница; **2.** *(руководительница)* наста́вница.

**НАСТА́ЎНІЦКАЯ** *сущ.* учи́тельская.

**НАСТА́ЎНІЦКІ 1.** учи́тельский; **н. калекты́ў** учи́тельский коллекти́в; **2.** наста́внический; **н. тон** наста́внический тон.

**НАСТА́ЎНІЦТВА** *ср.* **1.** учи́тельство; **2.** наста́вничество.

**НАСТА́ЎНІЧАННЕ** *ср.* учи́тельствование.

**НАСТА́ЎНІЧАЦЬ** *несов.* учи́тельствовать.

**НАСТА́ЎНІЧЫХА** *ж. разг. (жена учителя)* учи́тельша.

**НАСТА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(о времени — начаться)* наста́ть, наступи́ть; **~та́ў жада́ны час** наста́ло (наступи́ло) жела́нное вре́мя; **2.** *обл. (с требованием, просьбой и т. п.)* приста́ть; **так ~та́ў, што я адмо́віць не мог** так приста́л, что я не мог отказа́ть.

**НАСТАЯ́ЦЕЛЬ** *м. церк.* настоя́тель.

**НАСТАЯ́ЦЦА** *сов.* настоя́ться.

**НАСТАЯ́ЦЬ** *сов.* настоя́ть; **н. на сваі́м** настоя́ть на своём.

**НАСТВАРА́ЦЬ** *сов. (во множестве)* созда́ть.

**НАСТО́ЕНЫ** насто́янный; *см.* **насто́яць.**

**НАСТО́ЕЧНЫ** насто́ечный.

**НАСТО́Й, -то́ю** *м.* насто́й.

**НАСТО́ЙВАННЕ** I *ср.* наста́ивание; *см.* **насто́йваць** I.

**НАСТО́ЙВАННЕ** II *ср.* наста́ивание; *см.* **насто́йваць** II.

**НАСТО́ЙВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* наста́иваться; *см.* **насто́яцца, насто́йваць** I.

**НАСТО́ЙВАЦЬ** I *несов.* наста́ивать; *см.* **насто́яць.**

**НАСТО́ЙВАЦЬ** II *несов.* наста́ивать; *см.* **настая́ць.**

**НАСТО́ЙКА** *ж.* насто́йка.

**НАСТО́ЙЛІВА** *нареч.* насто́йчиво; настоя́тельно.

**НАСТО́ЙЛІВАСЦЬ** *ж.* насто́йчивость; настоя́тельность.

**НАСТО́ЙЛІВЫ** насто́йчивый; настоя́тельный.

**НАСТО́ЛІЦЬ** *сов. см.* **насталі́ць.**

**НАСТО́ЛЬКІ** *нареч.* насто́лько, столь.

**НАСТО́ЛЬНІК** *м.* ска́терть *ж.*

**НАСТО́ЛЬНІЦА** *ж. см.* **насто́льнік.**

**НАСТО́ЛЬНЫ** *в разн. знач.* насто́льный; **~ная ля́мпа** насто́льная ла́мпа; **н. тэ́ніс** насто́льный те́ннис; **~ная кні́га** насто́льная кни́га.

**НАСТО́РЧ** *нареч.* **1.** торчко́м, торчмя́; **2.** *(о кладке кирпича)* тычко́м.

**НАСТО́ЧВАЦЬ** *сов. (во множестве)* **1.** стача́ть; сшить; **2.** срасти́ть; связа́ть; 1, 2 *см.* **стачы́ць** III.

**НАСТО́ЯЦЦА** *сов.* настоя́ться; **чай не паспе́ў н.** чай не успе́л настоя́ться.

**НАСТО́ЯЦЬ** *сов.* настоя́ть; **н. чай** настоя́ть чай; **н. гно́ю** настоя́ть наво́за.

**НАСТРАЛЯ́НЫ** настре́лянный; наби́тый; *см.* **настраля́ць.**

**НАСТРАЛЯ́ЦЦА** *несов.* настреля́ться.

**НАСТРАЛЯ́ЦЬ** *сов.* настреля́ть; наби́ть; **н. дзічы́ны** настреля́ть (наби́ть) ди́чи.

**НАСТРА́МАК, -мка** *м. обл.* небольшо́й воз се́на (соло́мы и т. п.).

**НАСТРАМІ́ЦЬ** *сов. разг. (наложить высоко и как попало)* нагромозди́ть.

**НАСТРАСА́ЦЬ** *сов. (во множестве)* стрясти́, стряхну́ть; *см.* **стрэ́сці** 1.

**НАСТРАЧЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** *порт.* настрочи́ть; **н. манжэ́ты** настрочи́ть манже́ты; **2.** *разг. (написать)* настрочи́ть.

**НАСТРА́ШАНЫ** напу́ганный.

**НАСТРА́ШЫЦЬ** *сов. (настращать)* напуга́ть.

**НАСТРО́ЕНАСЦЬ** *ж.* настро́енность.

**НАСТРО́ЕНЫ** настро́енный; вооружённый; восстано́вленный; *см.* **настро́іць.**

**НАСТРО́ІЦЦА** *сов. в разн. знач.* настро́иться; **радыёпрыёмнік лёгка ~ро́іўся** радиоприёмник легко́ настро́ился; **н. на мі́рны лад** настро́иться на ми́рный лад; ◊ **н. на і́ншы лад** настро́иться на друго́й лад.

**НАСТРО́ІЦЬ** *сов. в разн. знач.* настро́ить; *(против кого-л.— ещё)* вооружи́ть, восстанови́ть; **н. радыёпрыёмнік** настро́ить радиоприёмник; **н. скры́пку** настро́ить скри́пку; **н. каго́-не́будзь на разва́гі** настро́ить кого́-л. на размышле́ния; **н. усі́х супро́ць сябе́** настро́ить (вооружи́ть, восстанови́ть) всех про́тив себя́.

**НАСТРО́Й, -ро́ю** *м.* настрое́ние *ср.;* настро́енность *ж.;* ◊ **чамада́нны н.** чемода́нное настрое́ние; **быць (не) у ~ро́і** быть (не) в ду́хе, быть (не) в настрое́нии.

**НАСТРО́ЙВАННЕ** *ср.* настра́ивание; **н. на радыёхва́лю** настра́ивание на радиоволну́.

**НАСТРО́ЙВАЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* настра́иваться; *см.* **настро́іцца; 2.** *страд.* настра́иваться; вооружа́ться, восстана́вливаться; *см.* **настро́йваць.**

**НАСТРО́ЙВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* настра́ивать; *(против кого-л.— ещё)* вооружа́ть, восстана́вливать; *см.* **настро́іць.**

**НАСТРО́ЙКА** *ж.* настро́йка.

**НАСТРО́ЙШЧЫК** *м.* настро́йщик.

**НАСТРО́ЙШЧЫЦА** *ж.* настро́йщица.

**НАСТРО́ЧАНЫ 1.** *порт.* настро́ченный; **2.** *разг.* настро́ченный; 1, 2 *см.* **настрачы́ць.**

**НАСТРО́ЧВАЦЬ** *несов. порт.* настра́чивать; *см.* **настрачы́ць** 1.

**НАСТРУ́ГА́НЫ 1.** настро́ганный; **2.** *обл.* начи́щенный; 1, 2 *см.* **наструга́ць** 1, 2.

**НАСТРУГА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(наготовить строганием)* настрога́ть; **н. до́шак** настрога́ть досо́к; **2.** *обл.* начи́стить; **н. бу́льбы** начи́стить карто́феля; **3.** строга́я, насори́ть.

**НАСТРУ́ГВАЦЦА** *несов. страд.* настра́гиваться; начища́ться, чи́ститься; *см.* **настру́гваць** 1, 2.

**НАСТРУ́ГВАЦЬ** *несов.* **1.** *(наготавливать строганием)* настра́гивать; **2.** *обл.* начища́ть, чи́стить; **3.** строга́я, сори́ть; 1—3 *см.* **наструга́ць.**

**НАСТРЫ́Г, -гу** *м. с.-х.* на́стриг.

**НАСТРЫГА́ЦЦА** *несов. страд.* настрига́ться.

**НАСТРЫГА́ЦЬ** *несов.* настрига́ть.

**НАСТРЫ́ГЧЫ** *сов.* настри́чь.

**НАСТРЫ́ЖАНЫ** настри́женный.

**НАСТРЫФІКА́ЦЫЯ** *ж. спец.* нострифика́ция.

**НАСТРЭ́ЛЬВАЦЬ** *несов.* настре́ливать; набива́ть; *см.* **настраля́ць.**

**НАСТРЭ́СВАЦЬ** *сов. см.* **настраса́ць.**

**НАСТУ́ДЖАНЫ** *в разн. знач. разг.* насту́женный, охлаждённый; *см.* **настудзі́ць.**

**НАСТУ́ДЖВАЦЬ** *несов. разг.* насту́живать, охлажда́ть.

**НАСТУДЗІ́ЦЬ** *сов. в разн. знач. разг. (дать остыть кому-чему-л.)* насту́ди́ть, охлади́ть; **н. пакóй** настуди́ть ко́мнату.

**НАСТУ́КАНЫ** насту́канный; *см.* **насту́каць** 1.

**НАСТУ́КАЦЦА** *сов.* настуча́ться.

**НАСТУ́КАЦЬ** *сов.* **1.** *(обнаружить постукиванием)* насту́кать; **н. пустату́ ў сцяне́** насту́кать пустоту́ в стене́; **2.** *прост.* надава́ть тумако́в.

**НАСТУ́КВАЦЬ** *несов. (обнаруживать постукиванием)* насту́кивать; *см.* **насту́каць** 1.

**НА́СТУП, -пу** *м. в разн. знач.* наступле́ние *ср.;* **перамо́жны н.** победоно́сное наступле́ние; **пача́ць н.** нача́ть наступле́ние; **н. на цалі́ну** наступле́ние на целину́.

**НАСТУПА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* наступа́тельность.

**НАСТУПА́ЛЬНЫ** наступа́тельный.

**НАСТУПА́ЦЬ** *несов.* **1.** *(ступать на кого-что-л.)* наступа́ть; **2.** *прям., перен. (приближаться с целью нападения)* наступа́ть; **паступі́ў зага́д н.** поступи́л прика́з наступа́ть; **звер гро́зна ~па́ў на чалаве́ка** зверь гро́зно наступа́л на челове́ка; **чалаве́к ~па́е на пусты́ню** челове́к наступа́ет на пусты́ню; **3.** *перен.* наступа́ть, надвига́ться; **лес то ~па́ў, то расступа́ўся** лес то надвига́лся (наступа́л), то расступа́лся; ◊ **н. на пя́ты** *каму* наступа́ть на пя́тки *кому.*

**НАСТУПА́ЮЧЫ 1.** *прич.* наступа́ющий; **2.** *прил.* наступа́ющий; **3.** *сущ.* наступа́ющий; **4.** *деепр.* наступа́я.

**НАСТУПІ́ЦЬ** *сов. (ступить на кого-что-л.)* наступи́ть; ◊ **н. на нагу́** *каму* наступи́ть на́ ногу *кому;* **н. на хвост** *каму* наступи́ть на хвост *кому;* **мядзве́дзь на ву́ха ~пі́ў** *каму* медве́дь на́ ухо наступи́л *кому;* **н. на го́рла** *каму* наступи́ть на го́рло *кому;* **н. на (любі́мы) мазо́ль** *каму* наступи́ть на (люби́мую) мозо́ль *кому.*

**НАСТУПЛЕ́ННЕ** *ср. в разн. знач.* наступле́ние; **н. па ўсіх франта́х** наступле́ние на всех фронта́х; **н. на бало́та** наступле́ние на боло́то.

**НАСТУ́ПНАЕ** *ср.* сле́дующее; **ён прапанава́ў н.** он предложи́л сле́дующее.

**НАСТУ́ПНІК** *м. уст.* прее́мник, насле́дник.

**НАСТУ́ПНІЦА** *ж. уст.* прее́мница, насле́дница.

**НАСТУ́ПНЫ 1.** *прил.* сле́дующий; после́дующий; **н. ну́мар газе́ты** сле́дующий но́мер газе́ты; **хто н.?** кто сле́дующий?; **~ныя чле́ны прапо́рцыі** после́дующие чле́ны пропо́рции; **пра гэ́та гавары́лі ва ўсіх ~ных выступле́ннях** об э́том говори́ли во всех после́дующих выступле́ниях; **2.** *прил.* сле́дующий, нижесле́дующий; **я прапану́ю**

**н. план** я предлагáю слéдующий (нижеслéдующий) план; **3.** *в знач. сущ.* слéдующий.

**НАСТУРÁН, -ну** *м. мин.* настурáн.

**НАСТУ́РКА** *ж. бот.* настýрция.

**НАСТУ́РКАВЫЯ** *сущ. мн. бот.* настýрциевые.

**НАСТУ́РЦЫЯ** *ж. бот. см.* **настýрка.**

**НАСТЫВÁЦЬ** *несов. в разн. знач.* настывáть; *см.* **насты́ць.**

**НАСТЫ́ЛЫ** насты́вший.

**НАСТЫРÁЦЦА** *несов. разг.* вздóрить.

**НАСТЫ́РНА** *нареч. разг.* напóристо, настóйчиво, насты́рно.

**НАСТЫ́РНАСЦЬ** *ж.* напóристость, настóйчивость, насты́рность.

**НАСТЫ́РНЫ** *разг.* напóристый, настóйчивый, насты́рный.

**НАСТЫ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* насты́ть, насты́нуть; **хáта ~ты́ла** дом насты́л; **рýкі ~ты́лі** рýки насты́ли.

**НАСУДЗІ́ЦЦА** *сов. разг.* насудúться.

**НАСУКÁНЫ** насýченный.

**НАСУКÁЦЬ** *сов. (во множестве)* насучи́ть; **н. ні́так** насучи́ть ни́ток.

**НАСУ́КВАННЕ** *ср.* насýчивание.

**НАСУ́КВАЦЦА** *несов. страд.* насýчиваться.

**НАСУ́КВАЦЬ** *несов.* насýчивать.

**НАСУМАВÁЦЦА** *сов. разг.* наскучáться; нагрусти́ться; натосковáться.

**НАСУ́НУТЫ 1.** нагребённый; **2.** надви́нутый; насýнутый; нахлобýченный; 1, 2 *см.* **насýнуць** 1, 2.

**НАСУ́НУЦЦА** *сов.* **1.** надви́нуться, насýнуться; *(о головном уборе)* нахлобýчиться; **2.** *разг.* наткнýться, набрести́.

**НАСУ́НУЦЬ** *сов.* **1.** нагрести́; **н. кýчу лíсця** нагрести́ кýчу ли́стьев; **2.** надви́нуть; *(надеть — ещё)* насýнуть; *(головной убор — ещё)* нахлобýчить; **н. шáпку** нахлобýчить шáпку; **3.** *безл. разг.* стать пáсмурным; **былó я́сна, а пóтым ~нула** бы́ло я́сно, а потóм стáло пáсмурно.

**НАСУ́ПА** *м. и ж. разг.* бýка.

**НАСУ́ПЕРАК 1.** *нареч. разг.* наперекóр; **рабíць н.** дéлать наперекóр; **2.** *предлог с дат.* наперекóр, вопреки́; **н. звы́чаям** наперекóр (вопреки́) обы́чаям.

**НАСУ́ПІЦЦА** *сов.* **1.** насýпиться, нахмýриться; **2.** *перен.* нахмýриться; **нéба ~пілася** нéбо нахмýрилось.

**НАСУ́ПІЦЬ** *сов.* насýпить, нахмýрить; **н. брóвы** насýпить (нахмýрить) брóви.

**НАСУ́ПЛЕНЫ** насýпленный, нахмýренный.

**НАСУ́ПЛІВАЦЦА** *несов.* **1.** насýпливаться, нахмýриваться; **2.** *перен.* нахмýриваться, хмýриться; 1, 2 *см.* **насýпіцца.**

**НАСУ́ПЛІВАЦЬ** *несов.* насýпливать, нахмýривать.

**НАСУ́ПРАЦЬ 1.** *нареч.* напрóтив; **падысці́ да дóма н.** подойти́ к дóму напрóтив; **2.** *предлог с род.* напрóтив, прóтив; **сядзéць н. акнá** сидéть напрóтив (прóтив) окнá; **3.** *предлог с род. (навстречу движению чего-л.)* прóтив; **ісці́ н. вéтру** идти́ прóтив вéтра.

**НЕПАКО́РАНЫ** непокорённый.

**НЕПАКО́РЛІВА** *нареч. см.* **непако́рна.**

**НЕПАКО́РЛІВАСЦЬ** *ж. см.* **непако́рнасць.**

**НЕПАКО́РЛІВЫ** *см.* **непако́рны.**

**НЕПАКО́РНА** *нареч.* непоко́рно.

**НЕПАКО́РНАСЦЬ** *ж.* непоко́рность, непоко́рство *ср.*

**НЕПАКО́РНЫ** непоко́рный.

**НЕПАКРЫ́ТЫ** непокры́тый.

**НЕПАЛАВАСПЕ́ЛЫ** неполовозре́лый.

**НЕПАЛА́ДКІ, -ла́дак,** *ед.* **непала́дка** *ж.* непола́дки.

**НЕПАЛАХЛІ́ВЫ** непугли́вый.

**НЕПАЛІЎНЫ́** *с.-х.* неполивно́й.

**НЕПАЛО́ХАНЫ** непу́ганый.

**НЕПАЛЯГА́ЮЧЫ** *прил. с.-х.* неполега́ющий.

**НЕПАМЕ́РНА** *нареч.* непоме́рно, безме́рно.

**НЕПАМЕ́РНАСЦЬ** *ж.* непоме́рность, безме́рность.

**НЕПАМЕ́РНЫ** непоме́рный, безме́рный.

**НЕПАМЕ́ЧАНЫ** непоме́ченный.

**НЕПАМЫ́СНА** *нареч. в знач. сказ.* неприя́тно, доса́дно, го́рестно; **яму́ зрабі́лася ве́льмі н.** ему́ ста́ло о́чень неприя́тно (доса́дно, го́рестно).

**НЕПАМЫ́СНАСЦЬ** *ж.* неприя́тность, доса́да, го́ресть; *см.* **непамы́сны.**

**НЕПАМЫ́СНЫ** неприя́тный, доса́дный, го́рестный; **~ныя ду́мкі** неприя́тные (доса́дные, го́рестные) мы́сли.

**НЕПАМЯРКО́ЎНАСЦЬ** *ж.* несгово́рчивость, неусту́пчивость, непокла́дистость.

**НЕПАМЯРКО́ЎНЫ** несгово́рчивый, неусту́пчивый, непокла́дистый.

**НЕПАНА́ДНА** *нареч. в знач. сказ.* непова́дно; **каб н. было́** что́бы непова́дно бы́ло.

**НЕПАПАДА́ННЕ** *ср. воен.* непопада́ние.

**НЕПАПРА́ЎНА** *нареч.* непоправи́мо; неисправи́мо.

**НЕПАПРА́ЎНАСЦЬ** *ж.* непоправи́мость, неисправи́мость.

**НЕПАПРА́ЎНЫ** непоправи́мый; неисправи́мый.

**НЕПАПСАВА́НЫ** непопо́рченный; неповреждённый.

**НЕПАПУЛЯ́РНАСЦЬ** *ж.* непопуля́рность.

**НЕПАПУЛЯ́РНЫ** непопуля́рный.

**НЕПАРА́ДАК, -дку** *м.* непоря́док, беспоря́док.

**НЕПАРАЖА́ЛЬНЫ** *воен.* непоража́емый; **~ная прасто́ра** непоража́емое простра́нство.

**НЕПАРАЗУМЕ́ННЕ** *ср.* недоразуме́ние.

**НЕПАРАЎНА́ЛЬНА** *нареч.* несравни́мо, несоизмери́мо; несравне́нно; *см.* **непараўна́льны.**

**НЕПАРАЎНА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* несравни́мость, несоизмери́мость; несравне́нность; *см.* **непараўна́льны.**

**НЕПАРАЎНА́ЛЬНЫ** несравни́мый, несоизмери́мый; несравне́нный.

**НЕПАРАЎНА́НА** *нареч. см.* **непараўна́льна.**

**НЕПАРАЎНА́НАСЦЬ** *ж. см.* **непараўна́льнасць.**

**НЕПАРАЎНА́НЫ** *см.* **непараўна́льны.**

**НЕПАРУ́ШНА** *нареч.* **1.** неруши́мо, ненаруши́мо; незы́блемо; непрело́жно; **2.** неприкоснове́нно; 1, 2 *см.* **непару́шны.**

**НЕПАРУ́ШНАСЦЬ** *ж.* **1.** неруши́мость, ненаруши́мость; незы́блемость; непрело́жность; **2.** неприкоснове́нность; 1, 2 *см.* **непару́шны.**

**НЕПАРУ́ШНЫ 1.** *(такой, который не может быть нарушен)* неруши́мый, ненаруши́мый; незы́блемый; непрело́жный; **2.** *(сохраняемый в целости)* неприкоснове́нный.

**НЕПАРЫ́ЎНА** *нареч.* неразры́вно; нерасторжи́мо.

**НЕПАРЫ́ЎНАСЦЬ** *ж.* неразры́вность; нерасторжи́мость.

**НЕПАРЫ́ЎНЫ** неразры́вный; нерасторжи́мый.

**НЕПАСЕ́ДА** *м. и ж. разг.* непосе́да, юла́, егоза́.

**НЕПАСЕ́ДЛІВАСЦЬ** *ж.* непосе́дливость; неповинове́ние *ср.*; неподчине́ние *ср.*

**НЕПАСЕ́ДЛІВЫ** непосе́дливый; неуси́дчивый; неугомо́нный.

**НЕПАСІ́ЛЬНЫ** непоси́льный.

**НЕПАСЛУ́ЖЛІВАСЦЬ** *ж.* неуслу́жливость.

**НЕПАСЛУ́ЖЛІВЫ** неуслу́жливый.

**НЕПАСЛУХМЯ́НА** *нареч.* непослу́шно.

**НЕПАСЛУХМЯ́НАСЦЬ** *ж.* непослуша́ние *ср.*

**НЕПАСЛУХМЯ́НЫ** непослу́шный.

**НЕПАСЛУШЭ́НСТВА** *ср.* непослуша́ние; неповинове́ние; неподчине́ние.

**НЕПАСЛЯДО́ЎНА** *нареч.* непосле́довательно.

**НЕПАСЛЯДО́ЎНАСЦЬ** *ж.* непосле́довательность.

**НЕПАСЛЯДО́ЎНЫ** непосле́довательный.

**НЕПАСПРАБАВА́НЫ** неиспро́бованный.

**НЕПАСПЯВА́ЮЧЫ 1.** *прил.* неуспева́ющий; **2.** *в знач. сущ.* неуспева́ющий.

**НЕПАСПЯХО́ВА** *нареч.* неуспе́шно, безуспе́шно.

**НЕПАСПЯХО́ВАСЦЬ** *ж.* **1.** безуспе́шность; **2.** неуспева́емость.

**НЕПАСПЯХО́ВЫ** неуспе́шный, безуспе́шный.

**НЕПАСРЭ́ДНА** *нареч.* **1.** непосре́дственно, пря́мо; **2.** непосре́дственно; *см.* **непасрэ́дны.**

**НЕПАСРЭ́ДНАСЦЬ** *ж.* непосре́дственность; *см.* **непасрэ́дны** 2.

**НЕПАСРЭ́ДНЫ 1.** непосре́дственный, прямо́й; **н. нача́льнік** непосре́дственный (прямо́й) нача́льник; **гэ́та яго́ н. абавя́зак** э́то его́ непосре́дственная (пряма́я) обя́занность; **2.** *(свободный, естественный)* непосре́дственный.

**НЕПАСТАЯ́ННЫ** непостоя́нный.

**НЕПАСТАЯ́НСТВА** *ср.* непостоя́нство.

**НЕПАТАПЛЯ́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* непотопля́емость.

**НЕПАТАПЛЯ́ЛЬНЫ** непотопля́емый.

**НЕПАТРАБАВА́ЛЬНА** *нареч.* нетре́бовательно, невзыска́тельно; непритяза́тельно, неприхотли́во.

**НЕПАТРАБАВА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* нетре́бовательность, невзыска́тельность; непритяза́тельность, неприхотли́вость.

**НЕПАТРАБАВА́ЛЬНЫ** нетре́бовательный, невзыска́тельный; *(довольствующийся малым — ещё)* непритяза́тельный, неприхотли́вый.

**НЕПАТРЭ́БНА** *нареч. в знач. сказ.* не ну́жно, не на́до, не на́добно.

**НЕПАТРЭ́БНАСЦЬ** *ж.* нену́жность, нена́добность.

**НЕПАТРЭ́БНЫ** нену́жный, нена́добный.

**НЕПАТРЭ́БШЧЫНА** *ж. разг.* нена́добность.

**НЕПАЎНАВА́ЖКІ** неполнове́сный.

**НЕПАЎНАЗУ́БЫЯ** *сущ. мн. зоол.* неполнозу́бые.

**НЕПАЎНАЛЕ́ТНІ 1.** *прил.* несовершеннолéтний; **2.** *в знач. сущ.* несовершеннолéтний.

**НЕПАЎНАЛЕ́ТНЯЯ** *сущ.* несовершеннолéтняя.

**НЕПАЎНАЛЕ́ЦЦЕ** *ср.* несовершеннолéтие.

**НЕПАЎНАПРА́ЎЕ** *ср.* неполнопра́вие.

**НЕПАЎНАПРА́ЎНА** *нареч.* неполнопра́вно.

**НЕПАЎНАПРА́ЎНАСЦЬ** *ж.* неполнопра́вность.

**НЕПАЎНАПРА́ЎНЫ** неполнопра́вный.

**НЕПАЎНАТА́** *ж.* неполнота́; **н. звéстак** неполнота́ свéдений.

**НЕПАЎНАЦЭ́ННАСЦЬ** *ж.* неполноцéнность.

**НЕПАЎНАЦЭ́ННЫ** неполноцéнный.

**НЕПАЎТО́РНА** *нареч.* неповтори́мо.

**НЕПАЎТО́РНАСЦЬ** *ж.* неповтори́мость, неповторя́емость.

**НЕПАЎТО́РНЫ** неповтори́мый, неповторя́емый.

**НЕПАФАРБАВА́НЫ** некра́шеный; непокра́шенный.

**НЕПАХАВА́НЫ** непогребённый.

**НЕПАХВА́ЛЬНА 1.** *нареч.* непохва́льно, неодобри́тельно; **2.** *в знач. сказ.* непохва́льно.

**НЕПАХВА́ЛЬНЫ** непохва́льный, неодобри́тельный; **н. ўчы́нак** непохва́льный посту́пок.

**НЕПАХІ́СНА** *нареч.* непоколеби́мо, непрекло́нно, незы́блемо; *см.* **непахі́сны.**

**НЕПАХІ́СНАСЦЬ** *ж.* непоколеби́мость, непрекло́нность, незы́блемость; *см.* **непахі́сны.**

**НЕПАХІ́СНЫ** непоколеби́мый, непрекло́нный, незы́блемый; **~ная во́ля** непрекло́нная (непоколеби́мая) во́ля; **~нае рашэ́нне** непоколеби́мое (непрекло́нное) решéние.

**НЕПАЧА́ТЫ** непоча́тый; ◊ **н. край** непоча́тый край.

**НЕПАЧЦІ́ВА** *нареч.* непочти́тельно, неучти́во, неуважи́тельно.

**НЕПАЧЦІ́ВАСЦЬ** *ж.* непочти́тельность, неучти́вость, неуважи́тельность.

**НЕПАЧЦІ́ВЫ** непочти́тельный, неучти́вый, неуважи́тельный.

**НЕПАШÁНА** *ж.* непочтéние *ср.*, непочти́тельность, неуважéние *ср.*

**НЕПАШКÓДЖАНАСЦЬ** *ж.* невреди́мость.

**НЕПАШКÓДЖАНЫ** невреди́мый; неповреждённый.

**НЕПЕДАГАГІ́ЧНА** *нареч.* непедагоги́чно.

**НЕПЕДАГАГІ́ЧНЫ** непедагоги́чный.

**НЕПЕРААДÓЛЬНАСЦЬ** *ж.* непреодоли́мость.

**НЕПЕРААДÓЛЬНЫ** непреодоли́мый.

**НЕПЕРАБÓРЛІВА** *нареч.* неприверéдливо; неприхотли́во; непритязáтельно; неразбóрчиво.

**НЕПЕРАБÓРЛІВАСЦЬ** *ж. разг.* неприверéдливость; неприхотли́вость; непритязáтельность; неразбóрчивость.

**НЕПЕРАБÓРЛІВЫ** *разг.* неприверéдливый; неприхотли́вый; непритязáтельный; неразбóрчивый.

**НЕПЕРАБРÁНЫ** неперéбранный.

**НЕПЕРАВЫ́ШАНАСЦЬ** *ж.* непревзойдённость.

**НЕПЕРАВЫ́ШАНЫ** непревзойдённый; **н. ўзор мастáцтва** непревзойдённый образéц искýсства.

**НЕПЕРАДАВÁЛЬНЫ** непередавáемый, неизъясни́мый.

**НЕПЕРАКАНÁЛЬНА** *нареч. см.* **неперакана́ўча.**

**НЕПЕРАКАНÁЛЬНАСЦЬ** *ж. см.* **неперакана́ўчасць.**

**НЕПЕРАКАНÁЛЬНЫ** *см.* **неперакана́ўчы.**

**НЕПЕРАКАНÁЎЧА** *нареч.* неубеди́тельно.

**НЕПЕРАКАНÁЎЧАСЦЬ** *ж.* неубеди́тельность.

**НЕПЕРАКАНÁЎЧЫ** неубеди́тельный.

**НЕПЕРАКЛАДÁЛЬНАСЦЬ** *ж.* непереводи́мость.

**НЕПЕРАКЛАДÁЛЬНЫ** непереводи́мый; **н. вы́раз** непереводи́мое выражéние.

**НЕПЕРАЛІ́ЎКІ** *разг. см.* **непярэ́ліўкі.**

**НЕПЕРАМÓЖНА** *нареч.* непобеди́мо, неодоли́мо.

**НЕПЕРАМÓЖНАСЦЬ** *ж.* непобеди́мость, неодоли́мость.

**НЕПЕРАМÓЖНЫ** непобеди́мый, неодоли́мый.

**НЕПЕРАЎЗЫ́ДЗЕНЫ** непревзойдённый.

**НЕПЕРАХÓДНАСЦЬ** *ж. грам.* непереxóдность.

**НЕПЕРАХÓДНЫ** *грам.* непереxóдный; **н. дзеяслóў** непереxóдный глагóл.

**НЕПЕРСПЕКТЫ́ЎНЫ** неперспекти́вный.

**НЕПЕРЫЯДЫ́ЧНЫ** непериоди́ческий.

**НЕПІСЬМÉННА** *нареч.* негрáмотно, безгрáмотно.

**НЕПІСЬМÉННАСЦЬ** *ж.* негрáмотность, безгрáмотность; *см.* **непісьмéнны** 1.

**НЕПІСЬМÉННАЯ** *ж. сущ.* негрáмотная.

**НЕПІСЬМÉННЫ 1.** *прил.* негрáмотный, безгрáмотный; **гэ́ты чалавéк зусíм н.** э́тот человéк совсéм негрáмотный (безгрáмотный); **н. мастáк** неграмóтный (безгрá-

мотный) худо́жник; **2.** *в знач. сущ.* негра́мотный.

**НЕПІТУ́ШЧЫ** *разг.* **1.** *прил.* непью́щий; **2.** *в знач. сущ.* непью́щий, тре́звенник.

**НЕПЛАНАМЕ́РНА** *нареч.* непланоме́рно.

**НЕПЛАНАМЕ́РНАСЦЬ** *ж.* непланоме́рность.

**НЕПЛАНАМЕ́РНЫ** непланоме́рный.

**НЕПЛАЦЁЖ, -цяжу́** *м.* неплатёж.

**НЕПЛАЦЕЖАЗДО́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* неплатёжеспосо́бность.

**НЕПЛАЦЕЖАЗДО́ЛЬНЫ** неплатёжеспосо́бный.

**НЕПЛАЦЁЖНЫ** неплатёжный.

**НЕПЛАЦЕ́ЛЬШЧЫК** *м.* непла́тельщик.

**НЕПЛАЦЕ́ЛЬШЧЫЦА** *ж.* непла́тельщица.

**НЕПРАБІВА́ЛЬНЫ** непробива́емый.

**НЕПРАБІЎНЫ** *прям., перен.* непробива́емый.

**НЕПРАБУ́ДНА** *нареч.* непробу́дно, беспробу́дно, беспробы́пно.

**НЕПРАБУ́ДНЫ** непробу́дный, беспробу́дный, беспросы́пный; **спаць ~ным сном** спать непробу́дным (беспросы́пным) сном; **н. п'я́ніца** непробу́дный (беспросы́пный) пья́ница.

**НЕПРАВАДНІ́К, -ка́** *м. физ.* непроводни́к.

**НЕПРАВАЗДО́ЛЬНАСЦЬ** *ж. юр.* неправоспосо́бность.

**НЕПРАВАЗДО́ЛЬНЫ** *юр.* неправоспосо́бный.

**НЕПРАВАМЕ́РНА** *нареч.* неправоме́рно.

**НЕПРАВАМЕ́РНАСЦЬ** *ж.* неправоме́рность.

**НЕПРАВАМЕ́РНЫ** неправоме́рный.

**НЕПРАВАМО́ЦНАСЦЬ** *ж. юр.* неправомо́чность.

**НЕПРАВАМО́ЦНЫ** *юр.* неправомо́чный.

**НЕПРАВАСУ́ДДЗЕ** *ср. юр.* неправосу́дие.

**НЕПРАВАСУ́ДНЫ** *юр.* неправосу́дный.

**НЕПРАВЕ́РАНЫ** непрове́ренный.

**НЕПРАВЕ́ТРАНЫ** непрове́тренный.

**НЕПРАВО́ДНАСЦЬ** *ж. физ.* непроводи́мость.

**НЕПРАГЛЯ́ДНА** *нареч.* непрогля́дно, беспросве́тно; непроница́емо; *см.* **непрагля́дны.**

**НЕПРАГЛЯ́ДНАСЦЬ** *ж.* непрогля́дность, беспросве́тность; непроница́емость; *см.* **непрагля́дны.**

**НЕПРАГЛЯ́ДНЫ** непрогля́дный, беспросве́тный; *(не пропускающий свет и т. п.)* непроница́емый.

**НЕПРАДБА́ЧАНА** *нареч.* непредви́денно.

**НЕПРАДБА́ЧАНАСЦЬ** *ж.* непредви́денность.

**НЕПРАДБА́ЧАНЫ** непредви́денный.

**НЕПРАДБА́ЧЛІВА** *нареч.* непредусмотри́тельно, недальнови́дно.

**НЕПРАДБА́ЧЛІВАСЦЬ** *ж.* непредусмотри́тельность, недальнови́дность.

**НЕПРАДБА́ЧЛІВЫ** непредусмотри́тельный, недальнови́дный.

**НЕПРАДКАЗА́ЛЬНЫ** непредсказу́емый.

**НЕПРАДУГЛЕ́ДЖАНЫ** непредусмо́тренный.

**НЕПРАДУЗЯ́ТА** *нареч.* беспристра́стно, непредубеждённо, нелицеприя́тно.

**НЕПРАДУЗЯ́ТАСЦЬ** *ж.* беспристра́стность, непредубеждённость, нелицеприя́тность.

**НЕПРАДУЗЯ́ТЫ** беспристра́стный, непредубеждённый, нелицеприя́тный.

**НЕПРАДУКТЫ́ЎНАСЦЬ** *ж. грам.* непродукти́вность.

**НЕПРАДУКТЫ́ЎНЫ** *грам.* непродукти́вный; **н. су́фікс** непродукти́вный су́ффикс.

**НЕПРАДУКЦЫ́ЙНА** *нареч.* непроизводи́тельно; непродукти́вно.

**НЕПРАДУКЦЫ́ЙНАСЦЬ** *ж.* непроизводи́тельность; непродукти́вность.

**НЕПРАДУКЦЫ́ЙНЫ** непроизводи́тельный; непродукти́вный.

**НЕПРАДУ́МАНЫ** непроду́манный, необду́манный.

**НЕПРАЕ́ЗДЖЫ** непрое́зжий; **~жая даро́га** непрое́зжая доро́га.

**НЕПРАЕ́ЗНЫ** *см.* **непрае́зджы.**

**НЕПРАЖАВА́НЫ** непрожёванный.

**НЕПРАЗО́РЛІВА** *нареч.* недальнови́дно.

**НЕПРАЗО́РЛІВАСЦЬ** *ж.* недальнови́дность.

**НЕПРАЗО́РЛІВЫ** недальнови́дный.

**НЕПРАЗРЫ́СТЫ** непрозра́чный.

**НЕПРАКТЫ́ЧНА** *нареч.* непракти́чно.

**НЕПРАКТЫ́ЧНАСЦЬ** *ж.* непракти́чность.

**НЕПРАКТЫ́ЧНЫ** непракти́чный.

**НЕПРАЛА́ЗНЫ** непрола́зный, невыла́зный.

**НЕПРАМАКА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* непромока́емость.

**НЕПРАМАКА́ЛЬНЫ** непромока́емый.

**НЕПРАНІКА́ЛЬНА** *нареч.* непроница́емо.

**НЕПРАНІКА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* непроница́емость.

**НЕПРАНІКА́ЛЬНЫ** *прям., перен.* непроница́емый; **н. гушча́р** непроница́емая ча́ща; **~ная перагаро́дка** непроница́емая перегоро́дка; **~ная та́йна** непроница́емая та́йна.

**НЕПРАПАРЦЫЯНА́ЛЬНА** *нареч. в разн. знач.* непропорциона́льно; *см.* **непрапарцыяна́льны.**

**НЕПРАПАРЦЫЯНА́ЛЬНАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* непропорциона́льность; *см.* **непрапарцыяна́льны.**

**НЕПРАПАРЦЫЯНА́ЛЬНЫ** *в разн. знач.* непропорциона́льный; **н. целаскла́д** непропорциона́льное телосложе́ние; **~нае развіццё** непропорциона́льное разви́тие.

**НЕПРАПІ́САНЫ** непропи́санный.

**НЕПРАСО́ХЛЫ** непросо́хший.

**НЕПРАТО́ЧНЫ** непрото́чный.

**НЕПРАТРУ́ЧАНЫ** непротра́вленный.

**НЕПРАЎДАПАДО́БНА** *нареч.* неправдоподо́бно.

**НЕПРАЎДАПАДО́БНАСЦЬ** *ж.* неправдоподо́бие *ср.*

**НЕПРАЎДАПАДО́БНЫ** неправдоподо́бный.

**НЕПРАЎДЗІ́ВА** *нареч.* неправди́во.

**НЕПРАЎДЗІ́ВАСЦЬ** *ж.* неправди́вость.

**НЕПРАЎДЗІ́ВЫ** неправди́вый.

**НЕПРАФЕСІ́ЙНА** *нареч.* непрофессиона́льно.

**НЕПРАФЕСІ́ЙНАСЦЬ** *ж.* непрофессиона́льность.

**НЕПРАФЕСІ́ЙНЫ** непрофессиона́льный.

**НЕПРАФІЛЮ́ЮЧЫ** *прил.* непрофили́рующий.

**НЕПРАХО́ДНАСЦЬ** *ж.* непроходи́мость.

**НЕПРАХО́ДНЫ** непроходи́мый; **н. лес** непроходи́мый лес.

**НЕПРАЦАВІ́ТЫ** неработя́щий.

**НЕПРАЦАЗДО́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* нетрудоспосо́бность, неработоспосо́бность.

**НЕПРАЦАЗДО́ЛЬНЫ** нетрудоспосо́бный, неработоспосо́бный.

**НЕПРАЦЁРТЫ** *в разн. знач.* непротёртый.

**НЕПРАЦІЎЛЕ́НЕЦ, -нца** *м.* непротивле́нец.

**НЕПРАЦІЎЛЕ́ННЕ: н. злу (насі́ллем)** непротивле́ние злу (наси́лием).

**НЕПРАЦІЎЛЕ́НСКІ** непротивле́нческий.

**НЕПРАЦІЎЛЕ́НСТВА** *ср.* непротивле́нчество.

**НЕПРАЦО́ЎНЫ 1.** нетрудово́й; **~ныя дахо́ды** нетрудовы́е дохо́ды; **2.** нетрудово́й, нетрудя́щийся; **н. элеме́нт** нетрудово́й (нетрудя́щийся) элеме́нт.

**НЕПРАЦУ́ЮЧЫ** *прил.* нерабо́тающий.

**НЕПРЫБРА́НЫ** неприбранный, неу́бранный.

**НЕПРЫБЫТКО́ВАСЦЬ** *ж.* непри́быльность.

**НЕПРЫБЫТКО́ВЫ** непри́быльный.

**НЕПРЫБЫЦЦЁ** *ср.* неприбы́тие.

**НЕПРЫВА́БНА** *нареч.* непривлека́тельно, непригля́дно.

**НЕПРЫВА́БНАСЦЬ** *ж.* непривлека́тельность, непригля́дность.

**НЕПРЫВА́БНЫ** непривлека́тельный, непригля́дный; незама́нчивый.

**НЕПРЫВЕ́ТЛІВА** *нареч.* неприве́тливо.

**НЕПРЫВЕ́ТЛІВАСЦЬ** *ж.* неприве́тливость.

**НЕПРЫВЕ́ТЛІВЫ** неприве́тливый.

**НЕПРЫВЕ́ТНА** *нареч. см.* **непрыве́тліва.**

**НЕПРЫВЕ́ТНАСЦЬ** *ж. см.* **непрыве́тлівасць.**

**НЕПРЫВЕ́ТНЫ** *см.* **непрыве́тлівы.**

**НЕПРЫВЫ́КЛЫ** непривы́кший.

**НЕПРЫВЫ́ЧКА** *ж.* непривы́чка.

**НЕПРЫВЫ́ЧНА** *нареч.* непривы́чно.

**НЕПРЫВЫ́ЧНЫ** непривы́чный.

**НЕПРЫГЛЯ́ДНА** *нареч.* непригля́дно, невзра́чно.

**НЕПРЫГЛЯ́ДНАСЦЬ** *ж.* непригля́дность, невзра́чность.

**НЕПРЫГЛЯ́ДНЫ** непригля́дный, невзра́чный.

**НЕПРЫГО́ДНАСЦЬ** *ж.* неприго́дность, него́дность.

**НЕПРЫГО́ДНЫ** неприго́дный, него́дный.

**НЕПРЫГО́ЖА** *нареч.* **1.** *в разн. знач.* некраси́во; невзра́чно; **2.** неизя́щно; 1, 2 *см.* **непрыго́жы; 3.** *в знач. сказ. (неприлично)* некраси́во.

**НЕПРЫГО́ЖЫ 1.** *в разн. знач.* некраси́вый; *(о внешности — ещё)* невзра́чный; **н. по́чырк** некраси́вый по́черк; **н. вы́гляд** невзра́чный вид; **н. ўчы́нак** некраси́вый посту́пок; **2.** неизя́щный; **~жая рэч** неизя́щная вещь.

**НЕПРЫДА́ТНАСЦЬ** *ж.* него́дность, неприго́дность.

**НЕПРЫДА́ТНЫ** него́дный, неприго́дный; неподходя́щий.

**НЕПРЫЕ́МНА** *нареч. в знач. сказ.* неприя́тно.

**НЕПРЫЕ́МНАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* неприя́тность; **пачуццё ~ці** чу́вство неприя́тности; **н. па слу́жбе** неприя́тность по слу́жбе.

**НЕПРЫЕ́МНЫ** *в разн. знач.* неприя́тный; **~нае адчува́нне** неприя́тное ощуще́ние; **н. чалаве́к** неприя́тный челове́к.

**НЕПРЫЗВЫЧА́ЕНАСЦЬ** *ж. разг.* непривы́чность.

**НЕПРЫЗВЫЧА́ЕНЫ** *разг.* **1.** *прил.* непривы́чный; **2.** *прич.* непривы́кший.

**НЕПРЫЗНА́НАСЦЬ** *ж.* непри́знанность.

**НЕПРЫЗНА́ННЕ** *ср.* непризна́ние.

**НЕПРЫЗНА́НЫ** непри́знанный.

**НЕПРЫКА́ЯНЫ** *разг.* неприка́янный.

**НЕПРЫКМЕ́ТНА** *нареч. см.* **непрыме́тна.**

**НЕПРЫКМЕ́ТНАСЦЬ** *ж. см.* **непрыме́тнасць.**

**НЕПРЫКМЕ́ТНЫ** *см.* **непрыме́тны.**

**НЕПРЫКРЫ́ТЫ** неприкры́тый.

**НЕПРЫМА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* неприе́млемость.

**НЕПРЫМА́ЛЬНЫ** неприе́млемый.

**НЕПРЫМА́ННЕ** *ср.* неприя́тие.

**НЕПРЫМЕ́ТНА** *нареч.* **1.** незаме́тно, неприме́тно; **2.** незаме́тно, неосяза́емо, нечувстви́тельно, неощути́мо.

**НЕПРЫМЕ́ТНАСЦЬ** *ж.* **1.** незаме́тность, неприме́тность; **2.** непримеча́тельность; *см.* **непрыме́тны** 2; **3.** неосяза́емость, нечувстви́тельность, неощути́мость.

**НЕПРЫМЕ́ТНЫ 1.** незаме́тный, неприме́тный; неви́дный; **2.** *(ничем не выделяющийся)* непримеча́тельный; **3.** незаме́тный, неосяза́емый, нечувстви́тельный, неощути́мый.

**НЕПРЫМІРЫ́МА** *нареч.* непримири́мо.

**НЕПРЫМІРЫ́МАСЦЬ** *ж.* непримири́мость.

**НЕПРЫМІРЫ́МЫ** *в разн. знач.* непримири́мый; **~мыя супярэ́чнасці** непримири́мые противоре́чия; **~мая няна́вісць** непримири́мая не́нависть; **н. во́раг** непримири́мый враг.

**НЕПРЫНЦЫПО́ВЫ** непринципиа́льный.

**НЕПРЫНЯ́ТЫ** непри́нятый.

**НЕПРЫНЯ́ЦЦЕ** *ср.* неприня́тие; **н. бо́ю** *воен.* неприня́тие бо́я.

**НЕПРЫСТАСАВА́НАСЦЬ** *ж.* неприспосо́бленность.

**НЕПРЫСТАСАВА́НЫ** неприспосо́бленный.

**НЕПРЫСТАСО́ВАНЫ** *см.* **непрыстасава́ны.**

**НЕПРЫСТО́ЙНА** *нареч. в знач. сказ.* непристо́йно, неприли́чно.

**НЕПРЫСТО́ЙНАСЦЬ** *ж.* **1.** непристо́йность, неприли́чие *ср.; см.* **непрысто́йны; 2.** *(непристойное поведение, выражение)* непристо́йность, неприли́чие *ср.*; **гавары́ць ~ці** говори́ть непристо́йности; **не дапуска́ць ~цей** не допуска́ть непристо́йностей (неприли́чий).

**НЕПРЫСТО́ЙНЫ** непристо́йный, неприли́чный; **н. ўчы́нак** непристо́йный (неприли́чный) посту́пок.

**НЕПРЫСТУ́ПНАСЦЬ** *ж.* непристу́пность.

**НЕПРЫСТУ́ПНЫ** непристу́пный.

**НЕПРЫТВО́РНА** *нареч.* непритво́рно, неподде́льно.

**НЕПРЫТВО́РНАСЦЬ** *ж.* непритво́рность, неподде́льность.

**НЕПРЫТВО́РНЫ** непритво́рный, неподде́льный.

**НЕПРЫТО́МНАСЦЬ** *ж.* **1.** о́бморок *м.*, беспа́мятство *ср.*; потёря созна́ния; **да ~ці** до потёри созна́ния; **2.** исступле́ние *ср.*, неистовство *ср.*; 1, 2 *см.* **непрыто́мны.**

**НЕПРЫТО́МНЫ 1.** о́бморочный; бессозна́тельный; *(о человеке)* потеря́вший созна́ние; **у ~ным ста́не** в о́бморочном (бессозна́тельном) состоя́нии; **2.** исступлённый; неистовый.

**НЕПРЫТУ́ЛЬНА** *нареч. см.* **няўту́льна.**

**НЕПРЫТУ́ЛЬНАСЦЬ** *ж. см.* **няўту́льнасць.**

**НЕПРЫТУ́ЛЬНЫ** *см.* **няўту́льны.**

**НЕПРЫХАВА́НЫ** неприкры́тый, нескрыва́емый; **~нае жу́льніцтва** неприкры́тое жу́льничество; **~ная няна́вісць** неприкры́тая (нескрыва́емая) не́нависть.

**НЕПРЫХІ́ЛЬНА** *нареч.* **1.** недоброжела́тельно, неблагожела́тельно, неблагоскло́нно; неприя́зненно; **2.** неодобри́тельно; **вы́казацца н.** вы́сказаться неодобри́тельно.

**НЕПРЫХІ́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* **1.** нерасположе́ние *ср.*, недоброжела́тельность, недоброжела́тельство *ср.*, неблагожела́тельность, неблагоскло́нность; неприя́зненность, неприя́знь; **адчува́ць н.** чу́вствовать нерасположе́ние; **2.** неодобри́тельность.

**НЕПРЫХІ́ЛЬНЫ 1.** нерасполо́женный, недоброжела́тельный, неблагожела́тельный, неблагоскло́нный; неприя́зненный; **2.** *(выказывающий неодобрение)* неодобри́тельный.

**НЕПРЫЦЭ́ЛЬНЫ** неприце́льный.

**НЕПРЫЧАСА́НЫ** непричёсанный.

**НЕПРЫЧЫ́НЕНЫ** неприкры́тый, непритво́ренный.

**НЕПРЫЧЫ́ННАСЦЬ** *ж.* непричастность.

**НЕПРЫЧЫ́ННЫ** непричастный.

**НЕПРЫЧЭ́САНЫ** *см.* **непрычаса́ны.**

**НЕПРЫЯ́ЗНА** *нареч.* неприя́зненно; недружелю́бно, недоброжела́тельно.

**НЕПРЫЯ́ЗНАСЦЬ** *ж.* неприя́знь, неприя́зненность; недружелю́бие *ср.*, недоброжела́тельность, недоброжела́тельство *ср.*

**НЕПРЫЯ́ЗНЫ** неприя́зненный; недружелю́бный, недоброжела́тельный.

**НЕ́ПРЫЯЦЕЛЬ** *м.* недоброжела́тель, не́друг.

**НЕПРЫЯ́ЦЕЛЬ** *м. воен.* неприя́тель.

**НЕПРЫЯ́ЦЕЛЬКА** *ж.* недоброжела́тельница.

**НЕПРЫЯ́ЦЕЛЬСКІ** *воен.* неприя́тельский.

**НЕПРЭЗЕНТА́БЕЛЬНАСЦЬ** *ж.* непрезента́бельность.

**НЕПРЭЗЕНТА́БЕЛЬНЫ** непрезента́бельный.

**НЕПРЭСТЫ́ЖНЫ** непрести́жный.

**НЕПРЭТЭНЦЫЁЗНЫ** непретенцио́зный.

**НЕПТУ́Н** *м. астр., миф.* Нептýн.

**НЕПТУ́НІЙ, -нію** *м. хим.* нептýний.

**НЕПЯРЭ́ЛІЎКІ, -лівак** *разг.*, пло́хо де́ло; **ба́чыць, што н.** ви́дит, что пло́хо де́ло.

**НЕРАБО́ЧЫ** *в разн. знач.* нерабо́чий; **н. чалаве́к** нерабо́чий челове́к; **н. дзень** нерабо́чий день; **н. час** нерабо́чее вре́мя; **~чая жывёла** нерабо́чий скот; **н. настро́й** нерабо́чее настрое́ние.

**НЕРАЗАБРА́НЫ** *спец.* неразде́ланный.

**НЕРАЗБА́ЎЛЕНЫ** неразба́вленный.

**НЕРАЗБО́РЛІВА** *нареч. в разн. знач.* неразбо́рчиво; невня́тно; *см.* **неразбо́рлівы.**

**НЕРАЗБО́РЛІВАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* неразбо́рчивость; невня́тность; *см.* **неразбо́рлівы.**

**НЕРАЗБО́РЛІВЫ** *в разн. знач.* неразбо́рчивый; *(о речи и т. п.— ещё)* невня́тный.

**НЕРАЗБУРА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* неразруши́мость.

**НЕРАЗБУРА́ЛЬНЫ** неразруши́мый.

**НЕРАЗБЯРЫ́ХА** *ж.* неразбери́ха.

**НЕРАЗВА́ЖЛІВА** *нареч., в знач. сказ.* нерассуди́тельно, неблагоразу́мно; опроме́тчиво.

**НЕРАЗВА́ЖЛІВАСЦЬ** *ж.* нерассуди́тельность, неблагоразу́мие *ср.*; опроме́тчивость.

**НЕРАЗВА́ЖЛІВЫ** нерассуди́тельный, неблагоразу́мный; опроме́тчивый.

**НЕРАЗВА́ЖНА** *нареч. см.* **неразва́жліва.**

**НЕРАЗВА́ЖНАСЦЬ** *ж. см.* **неразва́жлівасць.**

**НЕРАЗВА́ЖНЫ** *см.* **неразва́жлівы.**

**НЕРАЗВЕ́ДАНЫ** неразве́данный.

**НЕРАЗВЕ́ДЗЕНЫ** неразба́вленный; *(о молоке)* це́льный.

**НЕРАЗВІ́ТЫ** *(о верёвке и т. п.)* нераскру́ченный.

**НЕРАЗВІТЫ́** *в разн. знач.* неразвито́й; **~то́е дзіця́** неразвито́й ребёнок; **~та́я прамысло́васць** неразвита́я промы́шленность; **н. сказ** нераспространённое предложе́ние.

**НЕРАЗГАДА́НАСЦЬ** *ж.* неразга́данность.

**НЕРАЗГАДА́НЫ** неразга́данный.

**НЕРАЗДЗЕ́ЛЕНЫ** неразделённый.

**НЕРАЗДЗЕ́ЛЬНА** *нареч.* неразде́льно.

**НЕРАЗДЗЕ́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* неразде́льность.

**НЕРАЗДЗЕ́ЛЬНЫ** нерадде́льный.

**НЕРАЗЛУ́ЧНА** *нареч.* неразлу́чно.

**НЕРАЗЛУ́ЧНАСЦЬ** *ж.* неразлу́чность.

**НЕРАЗЛУ́ЧНЫ** неразлу́чный; **~ныя сябры́** неразлу́чные друзья́.

**НЕРАЗМЕ́ННАСЦЬ** *ж.* неразме́нность.

**НЕРАЗМЕ́ННЫ** неразме́нный; **~ная мане́та** неразме́нная моне́та.

**НЕРАЗРЫ́ЎНА** *нареч.* неразры́вно, неруши́мо; нерасторжи́мо; *см.* **неразры́ўны** 2.

**НЕРАЗРЫ́ЎНАСЦЬ** *ж.* неразры́вность, неруши́мость; нерасторжи́мость; *см.* **неразры́ўны** 2.

**НЕРАЗРЫ́ЎНЫ 1.** неразры́вный; **2.** неразры́вный, неруши́мый; нерасторжи́мый.

**НЕРАЗУМЕ́ННЕ** *ср.* непонима́ние, неразуме́ние.

**НЕРАЗУ́МНА** *нареч.* **1.** глу́по, неу́мно́; **2.** неразу́мно, неблагоразу́мно; 1, 2 *см.* **неразу́мны.**

**НЕРАЗУ́МНЫ 1.** глу́пый, неу́мный; **н. чалаве́к** глу́пый (неу́мный) челове́к; **2.** неразу́мный, неблагоразу́мный; **~ныя паво́дзіны** неразу́мное (неблагоразу́мное) поведе́ние.

**НЕРАЛІ́Н, -ну** *м. хим.* нероли́н.

**НЕРАСКЛАДА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* неразложи́мость.

**НЕРАСКЛАДА́ЛЬНЫ** неразложи́мый.

**НЕРАСКРЫ́ТЫ** нераскры́тый.

**НЕРАСПАЗНАВА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* неразличи́мость.

**НЕРАСПАЗНАВА́ЛЬНЫ** неразличи́мый.

**НЕРАСПАЗНА́НЫ** нераспо́знанный.

**НЕРАСПАКАВА́НЫ** нераспако́ванный.

**НЕРАСПАРА́ДЛІВАСЦЬ** *ж.* нераспоряди́тельность.

**НЕРАСПАРА́ДЛІВЫ** нераспоряди́тельный.

**НЕРАСПРАЦАВА́НАСЦЬ** *ж.* неразрабо́танность.

**НЕРАСПРАЦАВА́НЫ** неразрабо́танный.

**НЕРАСПРЭ́ЖАНЫ** нераспряжённый.

**НЕРАСПЯЧА́ТАНЫ** нераспеча́танный.

**НЕРАССЯДЛА́НЫ** нерассёдланный.

**НЕ́РАСТ, -ту** *м.* не́рест, икромета́ние *ср.*

**НЕРАСТАВА́ННЕ** *ср.* нерестова́ние, икромета́ние, икромёт *м.*

**НЕРАСТАВА́ЦЬ** *несов.* нерести́ться, мета́ть икру́.

**НЕ́РАСТАВЫ** не́рестовый.

**НЕРАСТАРО́ПНАСЦЬ** *ж.* нерасторо́пность.

**НЕРАСТАРО́ПНЫ** нерасторо́пный.

**НЕРАСТВАРА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* нерастворимость.

**НЕРАСТВАРА́ЛЬНЫ** нераствори́мый.

**НЕРАСТРА́ЧАНЫ** нерастра́ченный, неизрасхо́дованный.

**НЕРАСЦІ́ЛІШЧА** *ср.* нерести́лище.

**НЕРАСЧАСА́НЫ** нерасчёсанный.

**НЕРАСЧЭ́САНЫ** *см.* **нерасчаса́ны.**

**НЕ́РАТ** *м. рыб.* мерёжа *ж.*; ве́рша *ж.*; ◊ **папа́ўся (тра́піў) у н.— ні ўзад ні ўпе́рад** *посл.* ни туда́ ни сюда́.

**НЕРАЎНАБЕ́ДРАНЫ** *мат.* неравнобе́дренный.

**НЕРАЎНАДУ́ШНЫ** неравноду́шный.

**НЕРАЎНАЗНА́ЧНЫ** неравнозна́чный.

**НЕРАЎНАМЕ́РНА** *нареч.* неравноме́рно.

**НЕРАЎНАМЕ́РНАСЦЬ** *ж.* неравноме́рность.

**НЕРАЎНАМЕ́РНЫ** неравноме́рный.

**НЕРАЎНАПРА́ЎЕ** *ср.* неравнопра́вие.

**НЕРАЎНАПРА́ЎНАСЦЬ** *ж.* неравнопра́вность.

**НЕРАЎНАПРА́ЎНЫ** неравнопра́вный.

**НЕРАЎНАСТАРО́ННІ** *мат.* неравносторо́нний.

**НЕРАЎНАЦЭ́ННЫ** неравноце́нный.

**НЕРАЎНУ́ЮЧЫ** *вводн. сл.* прости́те за сравне́ние.

**НЕРАЎНЯ́** *м. и ж.* неро́вня́; **ён ёй н.** он ей неро́вня́.

**НЕРАЦЫЯНА́ЛЬНА** *нареч.* нерациона́льно.

**НЕРАЦЫЯНА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* нерациона́льность.

**НЕРАЦЫЯНА́ЛЬНЫ** нерациона́льный.

**НЕРАШУ́ЧА** *нареч.* нереши́тельно.

**НЕРАШУ́ЧАСЦЬ** *ж.* нереши́тельность.

**НЕРАШУ́ЧЫ** нереши́тельный.

**НЕРВ** *м.* **1.** нерв; **зро́кавы н.** зри́тельный нерв; **трайні́чны н.** тройни́чный нерв; **2.** *только мн.* не́рвы; **3.** *перен. (центр чего-л.)* нерв; ◊ **жале́зныя не́рвы** желе́зные не́рвы; **дзе́йнічаць на не́рвы** де́йствовать на не́рвы; **ігра́ць на не́рвах** игра́ть на не́рвах; **псава́ць не́рвы** по́ртить не́рвы; **трапа́ць не́рвы** трепа́ть не́рвы.

**НЕРВАВА́ННЕ** *ср.* **1.** нерви́рование; *см.* **нервава́ць; 2.** не́рвничание; *см.* **нервава́цца.**

**НЕРВАВА́ЦЦА** *несов.* не́рвничать.

**НЕРВАВА́ЦЬ** *несов.* нерви́ровать.

**НЕРВА́ЦЫЯ** *ж. бот.* нерва́ция.

**НЕРВІ́ЗМ, -му** *м. физиол.* нерви́зм.

**НЕРВО́ВА** *нареч.* не́рвно.

**НЕРВО́ВА-МЫ́ШАЧНЫ** *мед.* не́рвно-мы́шечный.

**НЕРВО́ВА-ПАРАЛІТЫ́ЧНЫ** *хим.* не́рвно-паралити́ческий.

**НЕРВО́ВА-ПСІХІЯТРЫ́ЧНЫ** *мед.* не́рвно-психиатри́ческий.

**НЕРВО́ВА-ПСІХІ́ЧНЫ** *мед.* не́рвно-психи́ческий.

**НЕРВО́ВА-САСУ́ДЗІСТЫ** *мед.* не́рвно-сосу́дистый.

**НЕРВО́ВАСЦЬ** *ж.* не́рвность, нерво́зность.

**НЕРВОВАХВО́РАЯ** *сущ.* нервнобольна́я.

**НЕРВОВАХВО́РЫ** *сущ.* нервнобольно́й.

**НЕРВО́ВЫ** *в разн. знач.* не́рвный; **~вая сістэ́ма** не́рвная систе́ма; **~выя кле́ткі (тка́нкі)** не́рвные кле́тки (тка́ни); **н. прыпа́дак** не́рвный припа́док; **н. стан** не́рвное состоя́ние; **н. рух** не́рвное движе́ние; **н. чалаве́к** не́рвный челове́к.

**НЕРВО́ЗНАСЦЬ** *ж.* нерво́зность.

**НЕРВО́ЗНЫ** нерво́зный.

**НЕРВЮ́РА** *ж. ав., архит.* нервю́ра.

**НЕРЖАВЕ́ЙКА** *ж. разг.* нержаве́йка.

**НЕРЖАВЕ́ЮЧЫ** *прил.* нержаве́ющий; **~чая сталь** нержаве́ющая сталь.

**НЕ́РКА** *ж. зоол.* не́рка.

**НЕРО́Л, -лу** *м. хим.* неро́л.

**НЕРО́ЛІЕВЫ** *хим.* неро́лиевый.

**НЕ́РПА** *ж. зоол.* не́рпа.

**НЕ́РПАВЫ** не́рповый.

**НЕРПЯНЁ** *см.* **нерпяня́.**

**НЕРПЯНЯ́** *и* **НЕРПЯНЁ, -няці** *ср.* нерпёнок *м.*

**НЕРУКАТВО́РНЫ** *поэт.* нерукотво́рный.

**НЕРУПЛІ́ВА** *нареч.* нерачи́тельно, ненради́во.

**НЕРУПЛІ́ВАСЦЬ** *ж.* нерачи́тельность, неради́вость, нераде́ние *ср.*

**НЕРУПЛІ́ВЫ** нерачи́тельный, неради́вый.

**НЕРУХА́ВА** *нареч.* неподви́жно; неповоро́тливо, медли́тельно.

**НЕРУХА́ВАСЦЬ** *ж.* неподви́жность; неповоро́тливость; медли́тельность.

**НЕРУХА́ВЫ** неподви́жный; неповоро́тливый, медли́тельный.

**НЕРУХО́МА** *нареч.* неподви́жно, недви́жно, недви́жимо.

**НЕРУХО́МАСЦЬ** *ж.* неподви́жность, недви́жность, недви́жимость.

**НЕРУХО́МЫ 1.** неподви́жный, недви́жный, недви́жимый; **2.** *юр.* недви́жимый; **~мая маёмасць** недви́жимое иму́щество.

**НЕ́РУШ** *ж. разг. (что-л. дикое, нетронутое)* цели́к *м.; (о земле — ещё)* целина́; *(о лесе — ещё)* де́вственный лес.

**НЕРЫТМІ́ЧНА** *нареч.* неритми́чно.

**НЕРЫТМІ́ЧНАСЦЬ** *ж.* неритми́чность.

**НЕРЫТМІ́ЧНЫ** неритми́чный.

**НЕРЭАЛІЗАВА́НЫ** нереализо́ванный.

**НЕРЭАЛІСТЫ́ЧНЫ** нереалисти́ческий.

**НЕРЭА́ЛЬНА** *нареч.* нереа́льно.

**НЕРЭА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* нереа́льность; *см.* **нерэа́льны.**

**НЕРЭА́ЛЬНЫ** *в разн. знач.* нереа́льный; **~ная прапано́ва** нереа́льное предложе́ние; **свет ~ных істо́т** мир нереа́льных существ.

**НЕРЭГУЛЯ́РНА** *нареч.* нерегуля́рно.

**НЕРЭГУЛЯ́РНАСЦЬ** *ж.* нерегуля́рность.

**НЕРЭГУЛЯ́РНЫ** нерегуля́рный.

**НЕРЭ́ІДА** *ж.* **1.** *миф.* нереида; **2.** *мн. зоол.* нереиды.

**НЕРЭ́ІДАВЫЯ** *сущ. мн. зоол.* нереидовые.

**НЕРЭНТА́БЕЛЬНА** *нареч.* нерента́бельно.

**НЕРЭНТА́БЕЛЬНАСЦЬ** *ж.* нерента́бельность.

**НЕРЭНТА́БЕЛЬНЫ** нерента́бельный.

**НЕСАБРА́НЫ** неу́бранный.

**НЕСАКРУША́ЛЬНА** *нареч.* несокруши́мо.

**НЕСАКРУШАЛЬНАСЦЬ** *ж.* несокрушимость.

**НЕСАКРУШАЛЬНЫ** несокрушимый.

**НЕСАЛЁНЫ** несолёный.

**НЕСАЛІДАРНЫ** несолидарный.

**НЕСАЛІДНА** *нареч.* несолидно.

**НЕСАЛІДНЫ** несолидный.

**НЕСАЛОДКІ** несладкий.

**НЕСАМАВІТА** *нареч.* **1.** невзрачно, неприглядно, неказисто; **2.** предосудительно; 1, 2 *см.* **несамавіты; 3.** *в знач. сказ.* неважно.

**НЕСАМАВІТАСЦЬ** *ж.* **1.** невзрачность, неприглядность, неказистость; **2.** предосудительность; 1, 2 *см.* **несамавіты.**

**НЕСАМАВІТЫ 1.** невидный, невзрачный, неприглядный, неказистый; непредставительный; **н. з выгляду** невидный (невзрачный, неприглядный, неказистый, непредставительный) с виду; **2.** предосудительный; **н. ўчынак** предосудительный поступок.

**НЕСАМАКІРАВАЛЬНЫ** *прил. полит.* несамоуправляющийся.

**НЕСАМАКРЫТЫЧНЫ** несамокритический, несамокритичный.

**НЕСАМАСТОЙНА** *нареч.* несамостоятельно.

**НЕСАМАСТОЙНАСЦЬ** *ж.* несамостоятельность.

**НЕСАМАСТОЙНЫ** несамостоятельный.

**НЕСАМАХОДНЫ** несамоходный.

**НЕСАПРАЎДНАСЦЬ** *ж.* недействительность; *см.* **несапраўдны** 1.

**НЕСАПРАЎДНЫ 1.** *(не имеющий силы)* недействительный; **дакументы прызнаны ~нымі** документы признаны недействительными; **2.** *(поддельный)* ненастоящий; **~нае срэбра** ненастоящее серебро; **3.** *(в названиях растений, животных, болезней и т. п.)* ложный; **н. скарпіён** *зоол.* ложный скорпион; **~ныя крышталі** *мин.* ложные кристаллы; **4.** *(внешне сходный с чем-л.)* ложный; **~нае сонца** ложное солнце.

**НЕСАПСАВАНАСЦЬ** *ж.* неиспорченность.

**НЕСАПСАВАНЫ** неиспорченный.

**НЕСАРДЭЧНА** *нареч.* нерадушно.

**НЕСАРДЭЧНАСЦЬ** *ж.* нерадушность, нерадушие *ср.*

**НЕСАРДЭЧНЫ** нерадушный.

**НЕСАРТАВЫ** *(о зерне, товаре и т. п.)* несортовой.

**НЕСВАБОДА** *ж.* несвобода.

**НЕСВАБОДНЫ** несвободный.

**НЕСВОЕЧАСОВА** *нареч.* несвоевременно; не вовремя.

**НЕСВОЕЧАСОВАСЦЬ** *ж.* несвоевременность.

**НЕСВОЕЧАСОВЫ** несвоевременный.

**НЕСВЯДОМА** *нареч.* **1.** несознательно; **2.** безотчётно, бессознательно; 1, 2 *см.* **несвядомы.**

**НЕСВЯДОМАСЦЬ** *ж.* **1.** несознательность; **2.** безотчётность, бессознательность; 1, 2 *см.* **несвядомы.**

**НЕСВЯДОМЫ 1.** несознательный; **н. работнік** несознательный работник; **~мыя адносіны да сваіх абавязкаў** несознательное отношение к своим обязанностям; **2.** *(инстинктивный)* безотчётный, бессознательный; **н. страх** безотчётный (бессознательный) страх.

**НЕСІМЕТРЫ́ЧНА** *нареч.* несимметри́чно.

**НЕСІМЕТРЫ́ЧНАСЦЬ** *ж.* несимметри́чность.

**НЕСІМЕТРЫ́ЧНЫ** несимметри́чный, несимметри́ческий.

**НЕСІМПАТЫ́ЧНА** *нареч.* несимпати́чно.

**НЕСІМПАТЫ́ЧНАСЦЬ** *ж.* несимпати́чность.

**НЕСІМПАТЫ́ЧНЫ** несимпати́чный.

**НЕСКАНЧО́НА** *нареч.* нескончáемо, бесконéчно.

**НЕСКАНЧО́НАСЦЬ** *ж.* нескончáемость, бесконéчность.

**НЕСКАНЧО́НЫ** нескончáемый, бесконéчный.

**НЕСКАРАЧА́ЛЬНЫ** *мат.* несократи́мый.

**НЕСКАРЫСТА́ННЕ** *ср.* неиспóльзование.

**НЕСКАРЫСТА́НЫ** неиспóльзованный.

**НЕСКЛАДА́НА** *нареч.* неслóжно, нехи́тро, незатéйливо.

**НЕСКЛАДА́НЫ** неслóжный, нехи́трый, незатéйливый.

**НЕСКЛАДО́ВЫ** *лингв.* неслоговóй.

**НЕСКЛАНЯ́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* *грам.* несклоня́емость.

**НЕСКЛАНЯ́ЛЬНЫ** *грам.* несклоня́емый; **н. назо́ўнік** несклоня́емое и́мя существи́тельное.

**НЕСКЛІКА́ННЕ** *ср.* несозы́в *м.*

**НЕСЛУЖБО́ВЫ** неслужéбный.

**НЕ́СЛУХ** *м. разг.* **1.** *(непослушный человек)* нéслух, ослу́шник; **2.** *(строптивый человек)* стропти́вец, ослу́шник.

**НЕСЛУХМЯ́НЫ** *см.* **непаслухмяны.**

**НЕСМЯРО́ТНАСЦЬ** *ж.* бессмéртие *ср.*

**НЕСМЯРО́ТНЫ** бессмéртный.

**НЕСМЯЯ́НА** *ж.* *нар.-поэт.* несмея́на.

**НЕСПАГА́ДЛІВА** *нареч.* нечу́тко, неотзы́вчиво.

**НЕСПАГА́ДЛІВАСЦЬ** *ж.* нечу́ткость, неотзы́вчивость.

**НЕСПАГА́ДЛІВЫ** нечу́ткий, неотзы́вчивый.

**НЕСПАГА́ДНА** *нареч.* *см.* **неспага́дліва.**

**НЕСПАГА́ДНАСЦЬ** *ж.* *см.* **неспага́длівасць.**

**НЕСПАГА́ДНЫ** *см.* **неспага́длівы.**

**НЕСПАДЗЕ́ЎКА** *ж.* *разг.* неожи́данность.

**НЕСПАДЗЕ́ЎКІ** *нареч.* *разг.* внезáпно, неожи́данно.

**НЕСПАДЗЯВА́НА** *нареч.* внезáпно, неожи́данно, нечáянно, непредви́денно.

**НЕСПАДЗЯВА́НАСЦЬ** *ж.* внезáпность, неожи́данность, нечáянность, непредви́денность.

**НЕСПАДЗЯВА́НКА** *ж.* *разг.* неожи́данность.

**НЕСПАДЗЯВА́НЫ** внезáпный, неожи́данный, нечáянный, непредви́денный.

**НЕСПАЗНА́НЫ** неиспы́танный, неизвéданный.

**НЕСПАКО́Й, -ко́ю** *м.* **1.** тревóга *ж.*, беспокóйство *ср.*; **яго́ ахапі́ў н.** его́ охвати́ла тревóга (охвати́ло беспокóйство); **2.** *(недовольство)* брожéние *ср.*, волнéние *ср.*; ◊ **за**

**дурно́й галаво́й нага́м н.** *посл.* дурна́я голова́ нога́м поко́я не даёт.

**НЕСПАКО́ЙНА** *нареч.* **1.** беспоко́йно, неспоко́йно; **2.** неспоко́йно, неугомо́нно; **3.** *в знач. сказ.* трево́жно; **у го́радзе н.** в го́роде трево́жно.

**НЕСПАКО́ЙНЫ 1.** беспоко́йный, неспоко́йный; **н. хара́ктар** беспоко́йный (неспоко́йный) хара́ктер; **2.** *(такой, который не может угомониться)* неспоко́йный, неугомо́нный; **н. хло́пец** неспоко́йный (неугомо́нный) па́рень; **3.** *(исполненный тревоги)* трево́жный, беспоко́йный; **4.** *(о погоде и т. п.)* неспоко́йный, ве́треный.

**НЕСПЕЦЫЯЛІ́СТ** *м.* неспециали́ст.

**НЕСПРАБАВА́НЫ** неиспы́танный.

**НЕСПРАВЯДЛІ́ВА** *нареч.* несправедли́во.

**НЕСПРАВЯДЛІ́ВАСЦЬ** *ж.* несправедли́вость.

**НЕСПРАВЯДЛІ́ВЫ** несправедли́вый.

**НЕСПРАГА́ЛЬНАСЦЬ** *ж. грам.* неспряга́емость.

**НЕСПРАГА́ЛЬНЫ** *грам.* неспряга́емый.

**НЕСПРАКТЫКАВА́НАСЦЬ** *ж.* нео́пытность, неискушённость.

**НЕСПРАКТЫКАВА́НЫ** нео́пытный, неискушённый.

**НЕСПРЫЯ́ЛЬНА** *нареч.* **1.** неблагоприя́тно; **абста́віны скла́ліся н.** обстоя́тельства сложи́лись неблагоприя́тно; **2.** недоброжела́тельно, неблагожела́тельно, неблагоскло́нно; **да яго́ аднёсліся н.** к нему́ отнесли́сь недоброжела́тельно (неблагожела́тельно, неблагоскло́нно).

**НЕСПРЫЯ́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* **1.** неблагоприя́тность; **2.** недоброжела́тельность, недоброжела́тельство *ср.*, неблагожела́тельность, неблагоскло́нность.

**НЕСПРЫЯ́ЛЬНЫ 1.** неблагоприя́тный; **~ныя ўмо́вы** неблагоприя́тные усло́вия; **2.** недоброжела́тельный, неблагожела́тельный, неблагоскло́нный; **н. адка́з** недоброжела́тельный (неблагожела́тельный, неблагоскло́нный) отве́т.

**НЕСТАБІ́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* нестаби́льность.

**НЕСТАБІ́ЛЬНЫ** нестаби́льный.

**НЕСТАВА́ЦЬ** *несов. безл.* недостава́ть, не хвата́ть; **ча́су ~тае́** вре́мени недостаёт (не хвата́ет); **сіл ~тае́** сил не хвата́ет.

**НЕСТАНДА́РТ, -ту** *м. разг.* нестанда́рт.

**НЕСТАНДА́РТНАСЦЬ** *ж.* нестанда́ртность.

**НЕСТАНДА́РТНЫ** нестанда́ртный.

**НЕСТАНДАРТЫЗАВА́НЫ** нестандартизи́рованный.

**НЕСТАНДАРТЫЗО́ВАНЫ** *см.* **нестандартызава́ны.**

**НЕСТАРЫ́** нестА́рый.

**НЕСТРАЯВІ́К** *м. разг.* нестроеви́к.

**НЕСТРАЯВЫ́** *воен.* **1.** *прил.* нестроево́й; **2.** *в знач. сущ.* нестроево́й.

**НЕСУВЫМЕ́РНАСЦЬ** *ж.* несоизмери́мость.

**НЕСУВЫМЕ́РНЫ** несоизмери́мый.

**НЕСУГУ́ЧНЫ** несозву́чный.

**НЕСУДЗІ́МАСЦЬ** *ж. юр.* несуди́мость.

**НЕСУДЗІ́МЫ** *юр.* несуди́мый.

**НЕСУДНАХО́ДНАСЦЬ** *ж.* несудохо́дность.

**НЕСУДНАХО́ДНЫ** несудохо́дный.

**НЕСУЛА́ДНА** *нареч.* несогласо́ванно, нестро́йно, негармони́чно.

**НЕСУЛА́ДНАСЦЬ** *ж.* несогласо́ванность, нестро́йность, негармони́чность.

**НЕСУЛА́ДНЫ** несогласо́ванный, нестро́йный, негармони́ческий, негармони́чный.

**НЕСУМЛЕ́ННА** *нареч.* нече́стно, недобросо́вестно, бессо́вестно.

**НЕСУМЛЕ́ННАСЦЬ** *ж.* нече́стность, недобросо́вестность, бессо́вестность.

**НЕСУМЛЕ́ННЫ** нече́стный, недобросо́вестный, бессо́вестный.

**НЕСУМНЕ́ННА** *нареч.* несомне́нно.

**НЕСУМНЕ́ННАСЦЬ** *ж.* несомне́нность.

**НЕСУМНЕ́ННЫ** несомне́нный.

**НЕСУМЯШЧА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* несовмести́мость.

**НЕСУМЯШЧА́ЛЬНЫ** несовмести́мый.

**НЕСУПАДА́ЮЧЫ** *прил.* несовпада́ющий.

**НЕСУПАДЗЕ́ННЕ** *ср.* несовпаде́ние.

**НЕСУПАСТАЎЛЯ́ЛЬНЫ** несопостави́мый.

**НЕСУПЫ́ННА** *нареч. см.* **няспы́нна.**

**НЕСУПЫ́ННАСЦЬ** *ж. см.* **няспы́ннасць.**

**НЕСУПЫ́ННЫ** *см.* **няспы́нны.**

**НЕСУРАЗМЕ́РНА** *нареч.* несоразме́рно.

**НЕСУРАЗМЕ́РНАСЦЬ** *ж.* несоразме́рность.

**НЕСУРАЗМЕ́РНЫ** несоразме́рный.

**НЕСУР'ЁЗНА** *нареч.* несерьёзно; *см.* **несур'ёзны.**

**НЕСУР'ЁЗНАСЦЬ** *ж.* несерьёзность; *см.* **несур'ёзны.**

**НЕСУР'ЁЗНЫ** *в разн. знач.* несерьёзный; **н. чалаве́к** несерьёзный челове́к; **~ная ра́на** несерьёзная ра́на.

**НЕСУСВЕ́ТНЫ** *разг.* несусве́тный; **~ная хлусня́** несусве́тное враньё.

**НЕСУСВЕ́ЦІЦА** *ж. разг.* несусве́тица, несура́зица.

**НЕСУЦЕ́ШНА** *нареч.* неуте́шно.

**НЕСУЦЕ́ШНАСЦЬ** *ж.* неуте́шность.

**НЕСУЦЕ́ШНЫ** неуте́шный.

**НЕСУЦІ́ШНЫ** **1.** неумолка́емый, неумо́лчный, несмолка́емый, несмолка́ющий; **н. ро́кат мо́ра** неумолка́емый (неумо́лчный, несмолка́емый, несмолка́ющий) ро́кот мо́ря; **2.** *(о боли)* неуёмный.

**НЕСУЦЯШЛА́ЛЬНЫ** неутеши́тельный.

**НЕ́СЦІ** I *несов.* **1.** *в разн. знач.* нести́; *(убытки — ещё)* терпе́ть; **н. дзіця́ на рука́х** нести́ ребёнка на рука́х; **н. адка́знасць** нести́ отве́тственность; **н. ва́рту** нести́ карау́л; **н. пакара́нне** нести́ наказа́ние; **н. культу́ру ў ма́сы** нести́ культу́ру в ма́ссы; **н. лухту́** нести́ вздор; **2.** *(увлекать за собой)* нести́, уноси́ть, мчать; **ве́цер нясе́ пыл** ве́тер несёт пыль; **3.** *безл. (о холоде, запахе и*

*т. п.)* тянуть; нести; **4.** *разг.* держаться, держать себя; **высока сябе н.** держаться (держать себя) высокомерно; ◊ **нясе як з бочкі** несёт (тянет) как из бочки; **н. свой крыж** нести свой крест; **куды ногі нясуць** куда ноги несут.

**НЕСЦІ** II *несов. (класть яйца — о птицах)* нести.

**НЕСЦІСКАЛЬНАСЦЬ** *ж.* несжимаемость.

**НЕСЦІСКАЛЬНЫ** несжимаемый.

**НЕСЦІСЯ** I *несов.* **1.** *(быстро двигаться)* нестись, мчаться; *(удаляться)* уноситься; **2.** *страд.* нестись; *см.* **несці** I 1, 2.

**НЕСЦІСЯ** II *несов. (о птице)* нестись, класть яйца.

**НЕСЦІХАНА** *нареч.* неумолкаемо, неумолчно, несмолкаемо, без умолку.

**НЕСЦІХАНАСЦЬ** *ж.* неумолкаемость, несмолкаемость.

**НЕСЦІХАНЫ** неумолкаемый, неумолчный, несмолкаемый, безумолчный.

**НЕСЦЭНІЧНАСЦЬ** *ж.* несценичность.

**НЕСЦЭНІЧНЫ** несценичный.

**НЕСЯБРОЎСКІ** нетоварищеский, недружеский.

**НЕСЯМЕЙНЫ** несемейный, бессемейный.

**НЕТА** *прил. нескл. торг.* нетто.

**НЕТА-БАЛАНС,** нета-балансу *м. спец.* нетто-баланс.

**НЕТА-ВАГА** *ж. спец.* нетто-вес *м.*

**НЕТАВАРЫСКІ** **1.** нетоварищеский; **н. ўчынак** нетоварищеский поступок; **2.** необщительный; **н. чалавек** необщительный человек.

**НЕТАКТОЎНА** *нареч. см.* **нетактычна.**

**НЕТАКТОЎНАСЦЬ** *ж. см.* **нетактычнасць.**

**НЕТАКТОЎНЫ** *см.* **нетактычны.**

**НЕТАКТЫЧНА** *нареч.* нетактично.

**НЕТАКТЫЧНАСЦЬ** *ж.* нетактичность.

**НЕТАКТЫЧНЫ** нетактичный.

**НЕТАЛЕНАВІТЫ** неталантливый.

**НЕТА-МАСА** *ж. спец.* нетто-масса.

**НЕТАПЫР** *м. зоол.* нетопырь.

**НЕТАРЫФНЫ** нетарифный.

**НЕТРАДЫЦЫЙНЫ** нетрадиционный.

**НЕТРЫ, -раў** *ед. нет* **1.** недра; **распрацоўка ~раў** разработка недр; **2.** *(труднопроходимое место)* дебри, чаща *ж.*; **3.** *перен.* недра; **у ~рах Палесся** в недрах Полесья.

**НЕТРЫВАЛА** *нареч.* непрочно, ненадёжно.

**НЕТРЫВАЛАСЦЬ** *ж.* непрочность, ненадёжность.

**НЕТРЫВАЛЫ** **1.** непрочный, ненадёжный; 2. *(о продукте)* скоропортящийся; **3.** невыносливый, нестойкий; **н. чалавек** невыносливый (нестойкий) человек; **4.** *разг. (о пище)* непитательный; несытный.

**НЕТРЫМАННЕ** *ср.*: **н. мачы** *мед.* недержание мочи.

**НЕТУТЭЙШЫ** нездешний.

**НЕТЫПОВЫ** нетипичный.

**НЕЎВЯДАЛЬНАСЦЬ** *ж.* неувядаемость.

**НЕЎВЯДАЛЬНЫ** неувядаемый; **~ная краса** неувядаемая красота.

**НЕЎГАМО́ННА** *нареч.* неугомо́нно.

**НЕЎГАМО́ННАСЦЬ** *ж.* неугомо́нность.

**НЕЎГАМО́ННЫ** неугомо́нный.

**НЕЎГРУНТАВА́НАСЦЬ** *ж.* необосно́ванность.

**НЕЎГРУНТАВА́НЫ** необосно́ванный; *см.* **угрунтава́ць** 2.

**НЕЎДАСКАНА́ЛЕНАСЦЬ** *ж.* неусоверше́нствованность.

**НЕЎДАСКАНА́ЛЕНЫ** неусоверше́нствованный.

**НЕЎЖЫВА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* неупотреби́тельность.

**НЕЎЖЫВА́ЛЬНЫ** неупотреби́тельный.

**НЕЎЖЫВА́ННЕ** *ср.* неупотребле́ние.

**НЕЎЖЫВА́НЫ** не бы́вший в употребле́нии.

**НЕЎЗАБА́ВЕ** *нареч.* вско́ре, в ско́ром вре́мени.

**НЕЎЗАМЕ́ТКІ** *нареч. разг. см.* **неўзаме́тку.**

**НЕЎЗАМЕ́ТКУ** *нареч. разг.* незаме́тно.

**НЕЎЗАРА́НЫ** невспа́ханный, нераспа́ханный.

**НЕЎЗГАРА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* невозгора́емость, невоспламеня́емость.

**НЕЎЗГАРА́ЛЬНЫ** невозгора́емый, невоспламеня́емый.

**НЕЎЗДАГА́Д** *нареч. в знач. сказ. разг.* невдомёк.

**НЕЎЗЛЮБІ́ЦЬ** *сов.* невзлюби́ть.

**НЕЎКАМПЛЕКТАВА́НАСЦЬ** *ж.* неукомплекто́ванность.

**НЕЎКАМПЛЕКТАВА́НЫ** неукомплекто́ванный.

**НЕЎКЛЮЧЭ́ННЕ** *ср.* невключе́ние.

**НЕЎЛАДКАВА́НАСЦЬ** *ж.* **1.** неупоря́доченность; **2.** неустро́енность.

**НЕЎЛАДКАВА́НЫ** **1.** неупоря́доченный; **2.** неустро́енный.

**НЕЎЛАСЦІ́ВА** *нареч., в знач. сказ.* несво́йственно.

**НЕЎЛАСЦІ́ВАСЦЬ** *ж.* несво́йственность.

**НЕЎЛАСЦІ́ВЫ** несво́йственный.

**НЕЎМАЛО́ТНЫ** *с.-х.* неумоло́тный; **сёлета ~нае жы́та** в э́том году́ неумоло́тная рожь.

**НЕЎМАЦАВА́НЫ** неукреплённый.

**НЕЎМАЦО́ВАНЫ** *см.* **неўмацава́ны.**

**НЕЎМІРУ́ЧАСЦЬ** *ж.* бессме́ртие *ср.*, бессме́ртность.

**НЕЎМІРУ́ЧЫ** бессме́ртный; **~чая сла́ва** бессме́ртная сла́ва.

**НЕЎМЯША́ННЕ** *ср.* невмеша́тельство; **палі́тыка ~ння** поли́тика невмеша́тельства.

**НЕЎНАРМАВА́НАСЦЬ** ненорми́рованность.

**НЕЎНАРМАВА́НЫ** ненорми́рованный.

**НЕЎНЯСЕ́ННЕ** *ср.* невнесе́ние.

**НЕЎПАПА́Д** *нареч.* невпопа́д.

**НЕЎПАРА́ДКАВАНАСЦЬ** *ж.* **1.** неупоря́доченность; **2.** неустро́енность, неустро́йство *ср.*; **3.** неблагоустро́енность; 1—3 *см.* **неўпара́дкаваны.**

**НЕЎПАРА́ДКАВАНЫ** **1.** неупоря́доченный; **~ная гаспада́рка** неупоря́доченное хозя́йство; **2.** *(неулаженный)* неустро́енный; **~ныя**

**спра́вы** неустро́енные дела́; **3.** *(лишённый многих удобств)* неблагоустро́енный.

**НЕЎПЛЫВО́ВЫ** невлия́тельный.

**НЕЎПРЫЦЯ́М** *нареч. разг.* **1.** незаме́тно, неприме́тно; **н. заснуў** незаме́тно засну́л; **2.** *в знач. сказ. разг.* невдомёк; **а яму́ і н.** а ему́ и невдомёк.

**НЕЎРАДЖА́Й, -джа́ю** *м.* неурожа́й.

**НЕЎРАДЖА́ЙНАСЦЬ** *ж.* неурожа́йность.

**НЕЎРАДЖА́ЙНЫ** неурожа́йный.

**НЕЎРАДЛІ́ВАСЦЬ** *ж.* **1.** неплодоро́дность; **2.** неурожа́йность; 1, 2 *см.* **неўрадлі́вы.**

**НЕЎРАДЛІ́ВЫ 1.** неплодоро́дный; **~вая глеба** неплодоро́дная по́чва; **2.** неурожа́йный; **н. год** неурожа́йный год.

**НЕЎРАДЫСПАНСЕ́Р** *м. мед.* невродиспансе́р.

**НЕЎРАЗУМЕ́ЛА** *нареч.* недоуме́нно.

**НЕЎРАЗУМЕ́ЛЫ** недоуме́нный.

**НЕЎРАЗУМЕ́ННЕ** *ср.* недоуме́ние.

**НЕЎРАЛАГІ́ЧНЫ** неврологи́ческий.

**НЕЎРАЛАГІ́ЧНЫ** невралги́ческий.

**НЕЎРАЛГІ́Я** *ж. мед.* невралги́я.

**НЕЎРАЛО́ГІЯ** *ж. мед.* невроло́гия.

**НЕЎРАНА́Л, -лу** *м. фарм.* неврона́л.

**НЕЎРАПА́Т** *м. разг.* невропа́т.

**НЕЎРАПАТАЛАГІ́ЧНЫ** невропатологи́ческий.

**НЕЎРАПАТАЛО́ГІЯ** *ж. мед.* невропатоло́гия.

**НЕЎРАПА́ТКА** *ж. разг.* невропа́тка.

**НЕЎРАПАТО́ЛАГ** *м. мед.* невропато́лог.

**НЕЎРАПАТЫ́ЧНЫ** невропати́ческий.

**НЕЎРАПА́ТЫЯ** *ж. мед.* невропа́тия.

**НЕЎРАСТЭ́НІК** *м. мед.* неврасте́ник.

**НЕЎРАСТЭНІ́ЧКА** *ж. мед.* неврастени́чка.

**НЕЎРАСТЭНІ́ЧНЫ** неврастени́чный, неврастени́ческий.

**НЕЎРАСТЭНІ́Я** *ж. мед.* неврастени́я.

**НЕЎРАТАМІ́Я** *ж. мед.* невротоми́я.

**НЕЎРАТЫЗА́ЦЫЯ** *ж. мед.* невротиза́ция.

**НЕЎРАТЫ́ЧНЫ** невроти́ческий.

**НЕЎРАЎНАВА́ЖАНА** *нареч.* неуравнове́шенно.

**НЕЎРАЎНАВА́ЖАНАСЦЬ** *ж.* неуравнове́шенность.

**НЕЎРАЎНАВА́ЖАНЫ** неуравнове́шенный.

**НЕЎРО́З, -зу** *м. мед.* невро́з.

**НЕЎРО́ЛАГ** *м. мед.* невро́лог.

**НЕЎРО́МА** *ж. мед.* невро́ма.

**НЕЎРО́Н** *м. анат.* невро́н.

**НЕЎРО́ТЫК** *м. мед.* невро́тик.

**НЕЎРУЧЭ́ННЕ** *ср.* невруче́ние.

**НЕЎРЫЛЕ́МА** *ж. анат.* нейриле́мма, неврилемма.

**НЕЎРЫ́Н, -ну** *м. хим.* неври́н.

**НЕЎРЫ́Т, -ту** *м. мед.* неври́т.

**НЕЎСВЯДО́МЛЕНА** *нареч.* неосо́знанно, бессозна́тельно, безотчётно; *см.* **неўсвядо́млены** 1.

**НЕЎСВЯДО́МЛЕНЫ 1.** неосо́знанный, бессозна́тельный, безотчётный; **н. страх** неосо́знанный (бессозна́тельный, безотчётный) страх; **2.** *(непонятный)* неосо́знанный.

**НЕЎСПРЫМА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* невосприи́мчивость.

**НЕЎСПРЫМА́ЛЬНЫ** невосприи́мчивый.

**НЕЎСТАЛЯВА́НЫ 1.** неустанови́вшийся; **н. хара́ктар** неустанови́вшийся хара́ктер; **2.** неустро́енный; ненала́женный; **~нае жыццё** неустро́енная (ненала́женная) жизнь.

**НЕЎСТАНО́ЎЛЕНЫ** неустано́вленный.

**НЕЎСТРЫМА́ННЕ** *ср.* невоздержа́ние.

**НЕЎТАЙМАВА́НА** *нареч.* неукроти́мо, неугомо́нно, необу́зданно.

**НЕЎТАЙМАВА́НАСЦЬ** *ж.* неукроти́мость, неугомо́нность, необу́зданность.

**НЕЎТАЙМАВА́НЫ** неукрощённый, неугомонённый, необу́зданный.

**НЕЎТАЙМО́ЎНА** *нареч.* неукроти́мо, неугомо́нно, неуёмно.

**НЕЎТАЙМО́ЎНАСЦЬ** *ж.* неукроти́мость, неугомо́нность, неуёмность.

**НЕЎТАЙМО́ЎНЫ** неукроти́мый, неугомо́нный, неуёмный.

**НЕЎЦІХАМІ́РАНЫ** неукрощённый, неутихоми́ренный.

**НЕФ** *м. архит.* неф.

**НЕФАРБАВА́НЫ** некра́шеный.

**НЕФАРМА́ЛЫ, -аў,** *разг. ед.* **нефарма́л** *м.* неформа́лы.

**НЕФАРМА́ЛЬНЫ** неформа́льный; **н. адка́з** неформа́льный отве́т; ○ **~нае аб'ядна́нне** нефо̀рма́льное объедине́ние.

**НЕФАСКО́П** *м. метеор.* нефоско́п.

**НЕФЕЛІ́Н, -ну** *м. мин.* нефели́н.

**НЕФЕЛІ́НАВЫ** нефели́новый.

**НЕФРАЛАГІ́ЧНЫ** нефрологи́ческий.

**НЕФРАЛІТЫЯ́З, -зу** *м. мед.* нефролитиа́з.

**НЕФРАЛО́ГІЯ** *ж. мед.* нефроло́гия.

**НЕФРО́ЛАГ** *м. мед.* нефро́лог.

**НЕФРЫ́Т I, -ту** *м. мед.* нефри́т.

**НЕФРЫ́Т II, -ту** *м. мин.* нефри́т.

**НЕФРЫ́ТАВЫ** нефри́товый; *см.* **нефры́т** II.

**НЕХАДАВЫ́** неходово́й.

**НЕХАЦЕ́ННЕ** *ср.* нехоте́ние.

**НЕ́ХАЦЯ** *нареч.* не́хотя.

**НЕХЛЯМЯ́ЖА** *нареч.* неуклю́же, нескла́дно.

**НЕХЛЯМЯ́ЖАСЦЬ** *ж.* неуклю́жесть, нескла́дность; плюга́вость; коря́вость; *см.* **нехлямя́жы.**

**НЕХЛЯМЯ́ЖЫ** неуклю́жий, нескла́дный; *(о человеке — ещё)* плюга́вый.

**НЕ́ХРЫСЦЬ** *м. разг. уст.* не́христь.

**НЕХРЫШЧО́НЫ** *сущ.* некрещёный.

**НЕ́ХТА** *род., вин.* **не́кага,** *дат.* **не́каму,** *твор., предл.* **не́кім** *мест. неопр.* кто́-то; *(некий человек — ещё)* не́кто; **н. пасту́каў у акно́** кто́-то постуча́л в окно́; **мне здало́ся,**

**што вы гаварылі з некім** мне почудилось, что вы говорили с кем-то; **падышоў н. ў чорным** подошёл некто в чёрном.

**НЕЦВЯРО́ЗА** *нареч. прям., перен.* нетрезво.

**НЕЦВЯРО́ЗАСЦЬ** *ж. прям., перен.* нетрезвость.

**НЕЦВЯРО́ЗЫ** *прям., перен.* нетрезвый; **у ~зым стане** в нетрезвом состоянии; **н. погляд на рэчы** нетрезвый взгляд на вещи.

**НЕ́ЦЕЛЬ** *ж.* нетель.

**НЕЦІКА́ВА** *нареч.* **1.** неинтересно; незанимательно; нелюбопытно; *см.* **нецікавы** 1; **2.** *разг. (не очень хорошо)* неважно; **н. атрымалася** неважно получилось.

**НЕЦІКА́ВЫ 1.** неинтересный; *(такой, который не увлекает — ещё)* незанимательный; *(не вызывающий любопытства — ещё)* нелюбопытный; **н. субяседнік** неинтересный собеседник; **~вая аповесць** неинтересная (незанимательная) повесть; **2.** *разг. (не очень хороший)* неважный; **н. сёлета ўраджай** неважный в этом году урожай.

**НЕЦІКА́ЎНАСЦЬ** *ж.* нелюбознательность.

**НЕЦІКА́ЎНЫ** нелюбознательный, нелюбопытный.

**НЕЦЫРЫМО́ННЫ** нецеремонный.

**НЕЦЬМЯНЕ́ЮЧЫ** *прил.* немеркнущий.

**НЕЦЭНЗУ́РНА** *нареч.* нецензурно.

**НЕЦЭНЗУ́РНАСЦЬ** *ж.* нецензурность.

**НЕЦЭНЗУ́РНЫ** *прям., перен.* нецензурный.

**НЕЦЯРПЕ́ННЕ** *ср.* нетерпение.

**НЕЦЯРПІ́МА** *нареч.* нетерпимо.

**НЕЦЯРПІ́МАСЦЬ** *ж.* нетерпимость.

**НЕЦЯРПІ́МЫ** нетерпимый.

**НЕЦЯРПЛІ́ВА** *нареч.* нетерпеливо.

**НЕЦЯРПЛІ́ВАСЦЬ** *ж.* нетерпеливость; нетерпение *ср.*; **чакаць з ~сцю** ждать с нетерпением.

**НЕЦЯРПЛІ́ВЫ** нетерпеливый.

**НЕ́ЧАГА I 1.** *мест. отриц. в род. п.* нечего; **н. чытаць** нечего читать; **2.** *мест. неопр. в род. п.* чего-то; *см.* **нешта I**; **3.** *частица разг.* уж лучше; по крайней мере; кстати; **узяў бы н. ўсё** взял бы уж лучше всё; **забяры н. і гэта** забери уж и это.

**НЕ́ЧАГА II** *в знач. сказ. (не следует)* нечего; *(нет смысла — ещё)* незачем, не к чему; **ды тут і думаць н.** да тут и думать нечего; **н. спяшацца** нечего (незачем, не к чему) спешить; **н. крычаць** нечего (незачем) кричать; **н. было туды хадзіць** нечего (незачем) было туда ходить.

**НЕЧАКА́НА** *нареч.* неожиданно, нежданно; ◊ **н.-негадана** нежданно-негаданно.

**НЕЧАКА́НАСЦЬ** *ж.* неожиданность, нежданность.

**НЕЧАКА́НЫ** неожиданный, нежданный.

**НЕЧАЛАВЕ́ЧНА** *нареч.* нечеловечно.

**НЕЧАЛАВЕ́ЧНАСЦЬ** *ж.* нечеловечность.

**НЕЧАЛАВЕ́ЧНЫ** нечеловечный.

**НЕЧАЛАВЕ́ЧЫ 1.** *(не свойственный человеку, чрезмерный)* нечеловеческий; **~чыя намаганні** нечеловеческие усилия; **2.** *(негуманный)*

**ПАЎЗВАЛА́КВАЦЬ** *сов. см.* **паўзвалака́ць.**

**ПАЎЗВЕ́РХ** *предлог с род.* пове́рх; **вада́ ішла́ п.** лёду вода́ шла пове́рх льда.

**ПАЎЗВО́ДНА** *нареч. воен.* повзво́дно.

**ПАЎЗДЗІРА́ЦЬ** *сов. (о многом)* **1.** *(отрывая, поднять)* отодра́ть; **2.** *разг. (залежь)* подня́ть.

**ПАЎЗДЗІРА́ЦЦА** *сов. (о многом)* отодра́ться; подня́ться.

**ПАЎЗДЫМА́ЦЦА** *сов. см.* **паўзніма́цца.**

**ПАЎЗДЫМА́ЦЬ** *сов. см.* **паўзніма́ць.**

**ПАЎЗДЫХА́ЦЬ** *сов. прям., перен.* повздыха́ть.

**ПАЎЗІРА́ЦЦА** *сов. (нек-рое время)* вгля́дываться, всма́триваться.

**ПАЎЗКО́М** *нареч.* ползко́м.

**ПАЎЗЛА́ЗІЦЬ** *сов. (наверх — о многих)* влезть; взобра́ться, взгромозди́ться.

**ПАЎЗМЕ́НЫ** полсме́ны.

**ПАЎЗМРО́К, -ку** *м.* полусу́мрак.

**ПАЎЗМРО́ЧНЫ** *(не освещённый)* темнова́тый.

**ПА́ЎЗНІК** *м. лит.* па́узник.

**ПАЎЗНІМА́ЦЦА** *сов.* **1.** *(взойти, занять, более высокое место — о многих)* подня́ться; *(взлететь — ещё, о многих)* вознести́сь; **взви́ться;** **2.** *(встать — о многих)* подня́ться; **3.** *(о многом)* возвы́ситься, вознести́сь.

**ПАЎЗНІМА́ЦЬ** *сов. (о многом) в разн. знач.* подня́ть; *(флаги — ещё)* водрузи́ть.

**ПА́ЎЗНЫ** па́узный.

**ПАЎЗРАСТА́ЦЬ** *сов. (о многих)* вы́расти; *(о растениях — ещё)* произрасти́.

**ПАЎЗРУЙНАВА́НЫ** полуразру́шенный, полуразорённый.

**ПАЎЗРЫВА́НЫ** взо́рванный; *см.* **паўзрыва́ць** II.

**ПАЎЗРЫВА́ЦЬ** I *сов. (всё, многое)* взрыть *(рылом — о животных).*

**ПАЎЗРЫВА́ЦЬ** II *сов. (разрушить взрывом — о многом)* взорва́ть.

**ПАЎЗУ́Н, -на́** *м.* **1.** *разг. (о ребёнке)* ползу́н; **2.** *тех.* ползу́н.

**ПАЎЗУНКІ́, -ко́ў** *ед. нет разг.* ползунки́.

**ПАЎЗУНКО́ВЫ** *тех.* ползунко́вый.

**ПАЎЗУНО́К, -нка** *м.* **1.** *разг. (о ребёнке)* ползуно́к; **2.** *тех.* ползуно́к.

**ПАЎЗУНЫ́** *мн. зоол.* пресмыка́ющиеся.

**ПАЎЗУ́ХА** *ж. разг.* ползу́нья.

**ПАЎЗУ́ЧАСЦЬ** *ж.* ползу́честь.

**ПАЎЗУ́ЧЫ** *в разн. знач.* ползу́чий; **п. гад** ползу́чий гад; **~чыя расліны** ползу́чие расте́ния; **п. дым** ползу́чий дым; **~чыя льды** ползу́чие льды; О **п. эмпірызм** ползу́чий эпмири́зм.

**ПАЎЗЦІ́** *несов.* **1.** *в разн. знач.* ползти́ *(медленно идти — ещё)* плести́сь; **жук ~зе́ на зямлі́** жук ползёт по земле́; **аўто́бус ~зе́ ад прыпы́нку да прыпы́нку** авто́бус ползёт от остано́вки к остано́вке; **чо́рныя хма́ры ~злі́ па не́бе** чёрные ту́чи ползли́ по не́бу; **грунт ~зе́** грунт ползёт; **це́ста ~зе́ з дзяжы́** те́сто ползёт из квашни́; **чу́ткі ~злі ва ўсе бакі́** слу́хи ползли́ во все сто́роны; **2.** *(удаляться ползком)* уполза́ть.

**ПАЎЗЫХО́ДЗІЦЬ** *сов.* **1.** *(на что-л. высокое — о многих)* взойти́. подня́ться; **2.** *(о многих небесных светилах)* взойти́.

**ПАЎІЛЬНЯНЫ́** полульняно́й.

**ПАЎІМПЕРЫЯ́Л** *м. ист.* полуимпериа́л.

**ПАЎІНТЭЛІГЕ́НТНЫ** полуинтеллиге́нтный.

**ПАЎКАЖУ́ШАК, -шка** *м.* полушу́бок.

**ПАЎКАЛАНІЯ́ЛЬНЫ** полуколониа́льный.

**ПАЎКАЛО́НА** *ж. архит.* полуколо́нна.

**ПАЎКАЛО́НІЯ** *ж.* полуколо́ния.

**ПАЎКАПЕ́ЙКІ** *(о монете — уст.)* полкопе́йки.

**ПАЎКАПЫ́ I** полкопны́.

**ПАЎКАПЫ́ II** *уст.* три́дцать (штук).

**ПАЎКА́РЛІКАВЫ** полука́рликовый.

**ПАЎКАФТА́Н** *м.* полукафта́н.

**ПАЎКАЧАВЫ́** полукочево́й.

**ПАЎКАЧЭ́ЎНІК** полукоче́вник.

**ПАЎКАШТО́ЎНЫ** полудрагоце́нный.

**ПАЎКВА́РТЫ** *уст.* че́тверть што́фа.

**ПАЎКЕ́ДЫ,** *ед.* **паўке́д** *м.* полуке́ды.

**ПАЎКІДА́ЦЬ** *сов. (о многом, о многих)* бро́сить, вбро́сить, вкида́ть.

**ПАЎКІ́ДВАЦЬ** *сов. см.* **паўкіда́ць.**

**ПАЎКІЛАГРА́МА** полкилогра́мма.

**ПАЎКІЛА́МЕ́ТРА** полкиломе́тра.

**ПАЎКІСА́ЦЬ** *сов. (о многом)* заки́снуть, уки́снуть.

**ПАЎКЛАДА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(внутрь чего-л.)* вложи́ть; всу́нуть; **2.** *(положить спать — многих)* уложи́ть; **3.** *(сложить в определённом порядке — о многом)* уложи́ть.

**ПАЎКЛА́ДВАЦЬ** *сов. см.* **паўклада́ць.**

**ПАЎКЛЕ́ЙВАНЫ 1.** вкле́енный; **2.** укле́енный; 1, 2 *см.* **паўкле́йваць.**

**ПАЎКЛЕ́ЙВАЦЬ** *сов. (о многом)* **1.** вкле́ить; **2.** укле́ить.

**ПАЎКО́КС, -су** *м.* полуко́кс.

**ПАЎКО́ЛА** *ср.* полукольцо́; полукру́г *м.*

**ПАЎКО́ЛЬЦА** *ср.* полукольцо́.

**ПАЎКО́ПВАНЫ** вры́тый, вко́панный; *см.* **паўко́пваць.**

**ПАЎКО́ПВАЦЬ** *сов. (о многом)* врыть, вкопа́ть.

**ПАЎКО́ЧВАНЫ** вка́ченный; *см.* **паўко́чваць.**

**ПАЎКО́ЧВАЦЬ** *сов. (о многом)* вкати́ть.

**ПАЎКРАІ́НЫ** полстраны́.

**ПАЎКРО́ВАК, -ро́ўка** *м. спец.* полукро́вок.

**ПАЎКРО́К, -ку** полуша́г.

**ПАЎКРО́КУ** *м.* полша́га.

**ПАЎКРО́ЎКА** *ж. спец.* полукро́вка.

**ПАЎКРО́ЎНЫ** полукро́вный.

**ПАЎКРУ́Г** *м.* полукру́г.

**ПАЎКРУ́ГА** полкру́га.

**ПАЎКРУ́ГАМ** *нареч.* полукру́гом.

**ПАЎКРУ́ГЛЫ** полукру́глый.

**ПАЎКРУ́ЖЖА** *ср.* полукру́жие.

**ПАЎКРУ́ЖНЫ** *анат.* полукру́жный; **п. кана́л** полукру́жный кана́л.

**ПАЎКРУ́ЧВАНЫ 1.** вви́нченный, ввёрнутый, вкру́ченный; **2.** заку-

танный, завёрнутый; укýтанный; обмóтанный, обёрнутый; 1,2 *см.* **паўкрýчваць.**

**ПАЎКРЎЧВАЦЦА** *сов.* **1.** *(о многом)* ввинтúться, ввернýться, вкрутúться; **2.** *(во что-л.— о многом, о многих)* закýтаться, завернýться; укýтаться *(чем-л.)* обмотáться, обернýться.

**ПАЎКРЎЧВАЦЬ** *сов.* **1.** *(о многом)* ввинтúть, ввернýть, вкрутúть; **2.** *(во что-л.— о многом, о многих)* закýтать, завернýть; укýтать; *(чем-л.)* обмотáть, обернýть.

**ПАЎКРЫВÁЦЦА** *сов. (о многом, о многих)* укры́ться, накры́ться. покры́ться; усéяться; скры́ться.

**ПАЎКРЫВÁЦЬ** *сов. (о многих, о многом)* **1.** укры́ть, накры́ть; **2.** *(сплошь)* покры́ть, усéять; **3.** *(утаить, спрятать, защитить)* укры́ть.

**ПАЎКРЫШТАЛÍЧНЫ** полукристаллúческий.

**ПАЎЛАДÁРЫЦЬ** *сов.* повлáствовать.

**ПАЎЛАДКÓЎВАЦЦА** *сов. разг.* устрóиться *(на работу и т. п.).*

**ПАЎЛАДКÓЎВАЦЬ** *сов. разг.* устрóить *(на работу и т. п.).*

**ПАЎЛÁЗІЦЬ** *сов.* **1.** *(о многих)* влезть; **2.** воткнýться. вонзúться.

**ПАЎЛЕГÁЛЬНЫ** полулегáльный.

**ПАЎЛЕГКАВАГАВÍК, -кá** *м. спорт.* полулегковéс.

**ПАЎЛЁГКІ** *спорт.* полулёгкий.

**ПАЎЛІВÁНЫ** влúтый; *см.* **паўлівáць.**

**ПАЎЛІВÁЦЬ** *сов. (о многом)* влить.

**ПАЎЛÍН** *м. зоол.* павлúн.

**ПАЎЛÍНАВЫ** павлúний; ○ **~ва вóка** павлúний глаз; ◊ **варóна ў паўлíнавым пéр'і** ворóна в павлúньих пéрьях.

**ПАЎЛІПÁЦЬ** *сов. (о многом)* влúпнуть.

**ПАЎЛÍТРА** пол-лúтра.

**ПАЎЛІТРÓВЫ** полулитрóвый.

**ПАЎЛІТРÓЎКА** *ж. разг.* поллитрóвка.

**ПАЎЛЫ́ЖКІ** пол-лóжки.

**ПАЎЛЮ́КС** *м.* полулю́кс.

**ПАЎЛЯЖÁЦЬ** *несов.* полулежáть.

**ПАЎЛЯЖÁЧЫ** полулежáчий.

**ПАЎМÁЗВАНЫ** **1.** вмáзанный; **2.** *(у што)* умáзанный *(чем),* вы́мазанный *(чем);* вы́пачканный; 1,2 *см.* **паўмáзваць.**

**ПАЎМÁЗВАЦЦА** *(у што) сов.* *(выпачкаться сплошь — о многих)* умáзаться *(чем),* вы́мазаться *(чем);* вы́пачкаться.

**ПАЎМÁЗВАЦЬ** *сов. (о многом)* **1.** вмáзать; **2.** *(у што)* умáзать *(чем),* вы́мазать *(чем);* вы́пачкать.

**ПАЎМÁЛПА** *ж.* полуобезья́на.

**ПАЎМÁСА** *ж. спец.* полумасса.

**ПАЎМÁСКА** *ж.* полумáска.

**ПАЎМАЦÓЎВАНЫ** укреплённый; упрóченный; *см.* **паўмацóўваць.**

**ПАЎМАЦÓЎВАЦЬ** *сов. (о многом) в разн. знач.* укрепúть; *(сделать прочным — ещё)* упрóчить.

**ПАЎМÉРА** *ж.* полумéра.

**ПАЎМÉСЯЦ** *м.* полумéсяц.

**ПАЎМÉСЯЦА** **1.** полмéсяца; **2.** половúна луны́.

**ПАЎМÉСЯЧНЫ** полумéсячный.

**ПАЎМÉТРА** полмéтра.

**ПАЎМЕТРÓВЫ** полуметрóвый.

**ПАЎМЕХАНІЗАВА́НЫ** полумеханизи́рованный.

**ПАЎМЕ́РТВЫ** полумёртвый.

**ПАЎМІ́ЛІ** полми́ли.

**ПАЎМІЛЬЁНА** полмиллио́на.

**ПАЎМІЛЬЁННЫ** полумиллио́нный.

**ПАЎМІНУ́ТЫ** полмину́ты.

**ПАЎМІРА́ЦЬ** *сов. (о многих)* умере́ть.

**ПАЎМІ́САК, -ска** *м.* неглубо́кая ми́ска.

**ПАЎМУРО́ЎВАЦЬ** *сов.* **1.** *(о многом)* вмурова́ть; **2.** *чаще безл. перен. (льдом)* закова́ть, скова́ть.

**ПАЎМЫВА́НЫ** умы́тый, вы́мытый.

**ПАЎМЫВА́ЦЦА** *сов. (о многих)* **умы́ться.**

**ПАЎМЫВА́ЦЬ** *сов. (о многом, о многих)* умы́ть, вы́мыть.

**ПАЎМЯ́ККІ** полумя́гкий.

**ПАЎМЯРЗА́ЦЬ** *сов. (о многом)* **1.** *(во что-л.)* вмёрзнуть; **2.** *(затвердеть на большую глубину)* промёрзнуть.

**ПАЎНАВА́ГАВАСЦЬ** *ж.* полнове́сность; *см.* **паўнава́гавы.**

**ПАЎНАВА́ГАВЫ** *(имеющий полный вес)* полнове́сный.

**ПАЎНАВА́ЖКАСЦЬ** *ж.* полнове́сность; *см.* **паўнава́жкі.**

**ПАЎНАВА́ЖКІ** *(тяжёлый)* полнове́сный.

**ПАЎНАВА́ТЫ** **1.** *(почти полный)* полнова́тый; **2.** полнова́тый, тучнова́тый.

**ПАЎНАВО́ДДЗЕ** *ср.* полново́дье.

**ПАЎНАВО́ДНАСЦЬ** *ж.* полново́дность.

**ПАЎНАВО́ДНЫ** полново́дный.

**ПАЎНАГРУ́ДЫ** полногрудый.

**ПАЎНАГУ́ЧНА** *нареч.* полнозву́чно.

**ПАЎНАГУ́ЧНАСЦЬ** *ж.* полнозву́чность, полнозву́чие *ср.*

**ПАЎНАГУ́ЧНЫ** полнозву́чный.

**ПАЎНАГУ́ЧЧА** *ср.* полнозву́чие.

**ПАЎНАЗНА́ЧНЫ** *грам.* полнозна́чный.

**ПАЎНАКРО́ЎНА** *нареч.* полнокро́вно.

**ПАЎНАКРО́ЎНАСЦЬ** *ж.* полнокро́вие *ср.*, полнокро́вность.

**ПАЎНАКРО́ЎНЫ** *прям., перен.* полнокро́вный.

**ПАЎНАЛЕ́ТНІ** совершеннолетний.

**ПАЎНАЛЕ́ЦЦЕ** *ср.* совершеннолетие.

**ПАЎНАМЕ́РНЫ** полноме́рный.

**ПАЎНАМЁК, -ку** *м.* полунамёк.

**ПАЎНАМО́ЦНЫ** полномо́чный; **~ны прадстаўні́к** полномо́чный представи́тель; ○ **п. мі́ністр** *дип.* полномо́чный мини́стр.

**ПАЎНАМО́ЦТВА** *ср.* полномо́чие.

**ПАЎНАПРА́ЎЕ** *ср.* полнопра́вие.

**ПАЎНАПРА́ЎНА** *нареч.* полнопра́вно.

**ПАЎНАПРА́ЎНАСЦЬ** *ж.* полнопра́вность.

**ПАЎНАПРА́ЎНЫ** полнопра́вный.

**ПАЎНАСМЕ́ШЛІВЫ** полунасме́шливый.

**ПАЎНАСЫ́ЧАНЫ** полунасы́щенный.

**ПАЎНАТА́** *ж.* **1.** *в разн. знач.* полнота́; **п. ўла́ды** полнота́ вла́сти; **п. маста́цкага выражэ́ння** полнота́

худо́жественного выраже́ния; **2.** полнота́, ту́чность; **нездаро́вая п.** нездоро́вая полнота́ (ту́чность); ◊ **ад ~ты́ пачу́щяў** от избы́тка чувств.

**ПАЎНАТВА́РЫ** полноли́цый.

**ПАЎНАТУРА́ЛЬНЫ** полунату-ра́льный.

**ПАЎНАЦЕ́ЛЫ** полноте́лый.

**ПАЎНАЦЭ́ННАСЦЬ** *ж.* полноце́нность.

**ПАЎНАЦЭ́ННЫ** полноце́нный.

**ПАЎНАШЧО́КІ** полнощёкий.

**ПАЎНЕ́БА** полне́ба.

**ПАЎНЕ́Й** *нареч. сравнит. ст.* полне́е.

**ПАЎНЕ́ЙШЫ** *прил. сравнит. ст.* полне́е, бо́лее по́лный.

**ПАЎНЕПРЫТО́МНАСЦЬ** *ж.* полуо́бморок *м.*

**ПАЎНЕПРЫТО́МНЫ** полуо́бморочный.

**ПАЎНЕ́ЦЬ** *несов.* **1.** *(становиться более полным)* наполня́ться; **2.** полне́ть, тучне́ть, толсте́ть.

**ПАЎНО́СІЦЬ** *сов. (о многом, о многих)* внести́.

**ПАЎНО́ЧНА-ЗАХО́ДНІ** се́веро-за́падный.

**ПАЎНОЧНАМО́РСКІ** северомо́рский.

**ПАЎНО́ЧНА-ЎСХО́ДНІ** се́веро-восто́чный.

**ПАЎНО́ЧНІК** I *м. (житель севера)* северя́нин.

**ПАЎНО́ЧНІК** II *м. разг.* полуно́чник.

**ПАЎНО́ЧНІК** III, **-ку** *м. бот.* короста́вник.

**ПАЎНО́ЧНІЦА** I *ж. (жительница севера)* северя́нка.

**ПАЎНО́ЧНІЦА** II *ж. разг.* полуно́чница.

**ПАЎНО́ЧНІЧАЦЬ** *несов. разг.* полуно́чничать.

**ПАЎНО́ЧНЫ** I се́верный; ○ **п. ўсход** се́веро-восто́к; **п. за́хад** се́веро-за́пад; **~ная шырата́** се́верная широта́; ○ **~нае ззя́нне** се́верное сия́ние.

**ПАЎНО́ЧНЫ** II полно́чный, полуно́чный.

**ПАЎНО́ЧЫ** полно́чи.

**ПАЎНЮ́СЕНЬКА** *нареч. разг.* полнёхонько, полнёшенько; по́лны́м-полно́.

**ПАЎНЮ́СЕНЬКІ** *разг.* полнёхонький, полнёшенький; полны́м-по́лон.

**ПАЎНЮ́ТКА** *нареч.* полнёхонько.

**ПАЎНЮ́ТКІ** полнёхонький.

**ПАЎПАВАРО́Т, -ту** *м.* **1.** полуповоро́т; **2.** *воен., спорт.* полуоборо́т.

**ПАЎПАВАРО́ТА** *нескл. воен., спорт.* пол-оборо́та.

**ПАЎПАВЕ́РХ** *м.* полуэта́ж.

**ПАЎПАДВА́Л** *м.* полуподва́л.

**ПАЎПАДВА́ЛЬНЫ** полуподва́льный.

**ПАЎПАКЛО́Н, -ну** *м.* полупокло́н.

**ПАЎПАЛІТО́** *нескл., ср.* полупальто́.

**ПАЎПА́НАК** *м. разг. ирон.* полупа́нок.

**ПАЎПАНТО́Н** *м.* полупонто́н.

**ПАЎПАПА́Р, -ру** *м. с.-х.* полупа́р.

**ПАЎПАРО́ЖНІ** полупусто́й.

**ПА́ЎПЕР** *м. книжн.* па́упер.

**ПАЎПЕРЫЗА́ЦЫЯ** *ж. книжн.* пауперизáция.

**ПАЎПЕРЫ́ЗМ, -му** *м. книжн.* пауперúзм.

**ПАЎПЕРЫ́МЕТР** *м. мат.* полуперúметр.

**ПАЎПЕРЫСТЫ́ЧНЫ** *книжн.* пауперистúческий.

**ПАЎПІВА́ЦЦА** *сов. разг. (о многих) прям., перен.* упúться; **2.** *(о многих, о многом)* впúться; **п'яўкі ~ва́ліся ў нагу́** пиявки впилúсь в нóгу.

**ПАЎПІРА́ЦЦА** *сов.* **1.** *(о многих, о многом)* уперéться; **2.** *(нек-рое время)* поупóрствовать; поупрямиться, поупрямствовать, поартáчиться.

**ПАЎПІ́СВАНЫ** впúсанный; *см.* **паўпі́сваць.**

**ПАЎПІ́СВАЦЬ** *сов. (о многом, о многих)* вписáть.

**ПАЎПІСЬМЕ́ННЫ** полугрáмотный.

**ПАЎПІХА́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** *(о многом)* впихнýть; впихáть; сýнуть, засýнуть; **2.** *(заставить войти — многих)* втолкнýть, впихнýть.

**ПАЎПІ́ХВАЦЬ** *сов. см.* **паўпіха́ць.**

**ПАЎПЛЕ́СКВАЦЬ** *сов. разг. (о многом)* прибúть; **2.** *(в грязь и т. п.)* вбить, втоптáть.

**ПАЎПЛЫВА́ЦЬ** I *сов. (заплыть внутрь — о многих, о многом)* вплыть.

**ПАЎПЛЫВА́ЦЬ** II *сов.* повлиять.

**ПАЎПЛЯТА́НЫ** вплетённый; ввúтый; ввязанный; *см.* **паўплята́ць.**

**ПАЎПЛЯТА́ЦЦА** *сов.* **1.** *(о многом — ввиться)* вплестúсь; **2.** *разг. (о многих — за што, у што)* вцепúться *(во что)*, уцепúться *(за что)*; **3.** *разг. (о многих)* увязáться *(за кем-л.)*.

**ПАЎПЛЯТА́ЦЬ** *сов. (о многом)* вплестú; ввить; ввязáть.

**ПАЎПЛЯ́ШКІ** полбутылки.

**ПАЎПО́РЦЫІ** полпóрции.

**ПАЎПРАВАДНІ́К, -ка́** *м. физ.* полупроводнúк.

**ПАЎПРАВАДНІКО́ВЫ** *физ.* полупроводникóвый.

**ПАЎПРАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(о многом)* упрéть; **2.** *разг. (о многих)* вспотéть, упрéть.

**ПАЎПРАГА́НЫ** впряжённый; *см.* **паўпрага́ць.**

**ПАЎПРАГА́ЦЬ** *сов. (о многих)* впрячь.

**ПАЎПРАДУ́КТ, -ту** *м.* полупродýкт.

**ПАЎПРАЗРЫ́СТАСЦЬ** *ж.* полупрозрáчность.

**ПАЎПРАЗРЫ́СТЫ** полупрозрáчный.

**ПАЎПРАНІКА́ЛЬНЫ** полупроницáемый.

**ПАЎПРАЦЭ́НТА** полпроцéнта.

**ПАЎПРАЦЭ́НТНЫ** полупроцéнтный.

**ПАЎПРО́ФІЛЬ, -лю** *м.* полупрóфиль.

**ПАЎПРЫГО́ННІЦКІ** полукрепостнúческий.

**ПАЎПРЫЗНА́ННЕ** *ср.* полупризнáние.

**ПАЎПРЫСЯДА́ННЕ** *ср.* полуприседáние.

**ПАЎПРЫЧЭ́П** *м.* полуприцéп.

**ПАЎПРЭ́Д** *м. дип.* **(паўнамо́цны прадстаўні́к)** полпре́д (полномо́чный представи́тель).

**ПАЎПРЭ́ДСТВА** *ср. дип.* **(паўнамо́цнае прадстаўні́цтва)** полпре́дство (полномо́чное представи́тельство).

**ПАЎПУ́ДА** полпу́да.

**ПАЎПУДО́ВЫ** полупудо́вый.

**ПАЎПУСТЫ́** полупусто́й.

**ПАЎПУСТЫ́ННЫ** полупусты́нный.

**ПАЎПУСТЫ́НЯ** *ж.* полупусты́ня.

**ПАЎПУСТЭ́ЛЬНЫ** полупусты́нный.

**ПАЎП'Я́НЫ** полупья́ный.

**ПАЎРАДКО́ЎЕ** *ср. лит.* полусти́шие.

**ПАЎРАЗБУ́РАНЫ** полуразру́шенный, полуразорённый.

**ПАЎРАЗВА́ЛЕНЫ** полуразва́ленный.

**ПАЎРАЗДЗЕ́ТЫ** полуразде́тый.

**ПАЎРАЗЯ́ЎЛЕНЫ** *разг. (о рте)* полураскры́тый, полуоткры́тый.

**ПАЎРАСКРЫ́ТЫ** полураскры́тый.

**ПАЎРАСПА́Д, -ду** *м. физ.* полураспа́д.

**ПАЎРАСПЛЮ́ШЧАНЫ** *(о глазах)* полураскры́тый, полуоткры́тый.

**ПАЎРАСПРА́НЕНЫ** полуразде́тый.

**ПАЎРАСТА́ЦЬ** *сов. (о многом)* **1.** врасти́; **2.** зарасти́, порасти́.

**ПАЎРАСЧЫ́НЕНЫ** полураскры́тый, полуоткры́тый.

**ПАЎРО́БЛІВАЦЦА** *сов. разг. (о многих)* вы́пачкаться, испа́чкаться, изма́заться.

**ПАЎРО́БЛІВАЦЬ** *сов. разг. (о многом)* **1.** вы́пачкать, испа́чкать, изма́зать; **2.** *(вставить внутрь)* вде́лать.

**ПАЎРО́ТА** *ж. воен.* полуро́та.

**ПАЎРО́ТНЫ** *воен.* полуро́тный.

**ПАЎРО́ЧНА** *нареч.* поуро́чно.

**ПАЎРО́ЧНЫ** поуро́чный.

**ПАЎРУБЕ́ЛЬ, -бля́** *м. уст.* полти́нник.

**ПАЎРУБЛЁВЫ** *разг.* цено́ю в полти́нник.

**ПАЎРУБЛЁЎКА** *ж. разг.* полти́на.

**ПАЎРУБЛЯ́** полти́на *ж.*; ◊ **за мо́рам цяля́ — паўрубля́, ды сто перавóзу** *посл.* за мо́рем тёлу́шка — полу́шка, да рубль перево́зу.

**ПАЎСАБРА́НЫ** полусо́бранный.

**ПАЎСАГНУ́ТЫ** полусо́гнутый.

**ПАЎСА́ЛЬНЫ** *с.-х.* полуса́льный; **~ныя сві́нні** полуса́льные сви́ньи.

**ПАЎСАМАТУ́ЖНЫ** полукуста́рный.

**ПАЎСВЕ́Т, -ту** *м. уст. (общественная прослойка)* полусве́т.

**ПАЎСВЕ́ТУ** полми́ра, полсве́та.

**ПАЎСВЯДО́МЫ** полусозна́тельный.

**ПАЎСВЯТЛО́** *ср. (освещение)* полусве́т *м.*

**ПАЎСІНТЭТЫ́ЧНЫ** полусинтети́ческий.

**ПАЎСКА́КВАЦЬ** *сов.* **1.** *(быстро встать — о многих)* вскочи́ть; **2.** *(на что-л. — о многих)* вскочи́ть, вспры́гнуть; **3.** *(во что-л. — о*

*многих)* вскочи́ть, вспры́гнуть; **4.** *перен. разг. (о нарывах, волдырях и т. п.)* вскочи́ть.

**ПАЎСКА́Т** *м. ж.-д.* полуска́т.

**ПАЎСКА́ТНЫ** *ж.-д.* полуска́тный.

**ПАЎСКІДА́НЫ** забро́шенный, заки́нутый, взбро́шенный, вски́нутый; бро́шенный, ки́нутый; *см.* **паўскіда́ць.**

**ПАЎСКІДА́ЦЬ** *сов. (на что-л.— о многом)* забро́сить, заки́нуть, взбро́сить, вски́нуть; бро́сить, ки́нуть.

**ПАЎСКІ́ДВАНЫ** *см.* **паўскіда́ны.**

**ПАЎСКІ́ДВАЦЬ** *сов. см.* **паўскіда́ць.**

**ПАЎСКЛАДА́ЦЬ** *сов. (о многом)* **1.** *(на что-л)* положи́ть; **2.** *(венки и т. п.)* возложи́ть.

**ПАЎСКЛА́ДВАЦЬ** *сов. см.* **паўсклада́ць.**

**ПАЎСКО́КВАЦЬ** *сов. см.* **паўска́кваць.**

**ПАЎСКО́ПВАНЫ** взры́тый; вско́панный; взрыхлённый; *см.* **паўско́пваць.**

**ПАЎСКО́ПВАЦЬ** *сов. (о многом)* взрыть; вскопа́ть; взрыхли́ть.

**ПАЎСЛО́ВА** *в разн. знач.* полсло́ва, полусло́во; ◊ **на п.** на полсло́ва; **спыні́цца на ~ве** останови́ться на полусло́ве; **зразуме́ць з п.** поня́ть с полсло́ва (с полусло́ва).

**ПАЎСЛЯПЫ́** полуслепо́й.

**ПАЎСМЕ́РЦЬ: да паўсме́рці** до полусме́рти.

**ПАЎСО́Н, -сну́** *м.* полусо́н, полуя́вь *ж.*

**ПАЎСО́ННЫ** полусо́нный.

**ПАЎСО́ТНІ** полсо́тни.

**ПАЎСО́ТНЯ** *ж.* полусо́тня.

**ПАЎСПІРА́ЦЦА** *сов. разг. (о многих)* **1.** оперéться, облокоти́ться; **2.** взобра́ться; **3.** ра́но встать.

**ПАЎСПІРА́ЦЬ** *сов. разг. (о многом, о многих)* **1.** *(что-л. тяжёлое)* взвали́ть; **2.** *(надеть что-л. тесное, неподходящее)* напя́лить; **3.** взнести́, внести́.

**ПАЎСПЛЫВА́ЦЬ** *сов. прям., перен. (о многом, о многих)* всплыть.

**ПАЎСПО́РВАЦЦА** *сов. прост. (проснуться — о многих)* подня́ться, встать.

**ПАЎСПО́РВАЦЬ** *сов.* **1.** *(разрезая, вскрыть — о многом)* вспоро́ть; **2.** *прост. (разбудить, толкая — многих)* растолка́ть; подня́ть.

**ПАЎСПУХА́ЦЬ** *сов. (о многом)* вспу́хнуть; взду́ться.

**ПАЎСПУ́ШЧАНЫ** полуспу́щенный, приспу́щенный.

**ПАЎСТАВА́ЦЬ** I *сов. (о многих, о многом)* встать, подня́ться.

**ПАЎСТАВА́ЦЬ** II *несов.* **1.** *(поднимать восстание)* восстава́ть; *(на защиту)* встава́ть, поднима́ться; **2.** *перен.* появля́ться, возника́ть, встава́ть; *см.* **паўста́ць** 2.

**ПАЎСТАГО́ДДЗЯ** полве́ка, полстоле́тия.

**ПАЎСТА́НАК, -нка** *м.* полуста́нок.

**ПАЎСТА́НЕЦ, -нца** *м.* повста́нец.

**ПАЎСТА́НКАВЫ** полуста́нковый.

**ПАЎСТА́ННЕ** *ср.* восста́ние.

**ПАЎСТА́НЦКІ** повста́нческий.

**ПАЎСТА́НЦТВА** *ср.* повста́нчество.

**ПАЎСТА́ЎКІ** полста́вки.

**ПАЎСТАЎЛЯЦЬ** *сов. (о многом)* 1. *(поместить внутрь чего-л.)* вставить; **п. шыбы** вставить стёкла; 2. *(занять чем-л. всю площадь)* уставить; **п. сталы ядой** уставить столы едой.

**ПАЎСТАЦЫЯНАР** *м. мед.* полустационар.

**ПАЎСТАЦЬ** *сов.* 1. *(поднять восстание)* восстать; *(на защиту)* встать подняться; 2. *перен.* появиться, возникнуть, встать; **перад вачамі ~тала цікавая карціна** перед глазами возникла (встала) интересная картина; **~тала пытанне** встал вопрос.

**ПАЎСТОЛЬКІ** *нареч.* полстолька.

**ПАЎСТЫКАНЫ** 1. *разг.* насаженный; 2. *прост.* натянутый; 1,2 *см.* **паўстыкаць.**

**ПАЎСТЫКАЦЬ** *сов. (о многом)* 1. *разг.* насадить; 2. *прост. (обуть наскоро)* натянуть.

**ПАЎСУКНО** *ср.* полусукно.

**ПАЎСУКОННЫ** полусуконный.

**ПАЎСУР'ЁЗНА** *нареч.* полусерьёзно.

**ПАЎСУР'ЁЗНЫ** полусерьёзный.

**ПАЎСУТАК** полсуток.

**ПАЎСУТАЧНЫ** полусуточный.

**ПАЎСУХІ** полусухой.

**ПАЎСФЕРА** *ж.* полусфера.

**ПАЎСФЕРЫЧНЫ** полусферический.

**ПАЎСХОДЗІЦЬ** *сов. см.* **паўзыходзіць.**

**ПАЎСХОПЛІВАЦЦА** *сов.* 1. *(быстро встать — о многих)* вскочить, подняться; 2. *(о волдырях и т. п.)* вскочить.

**ПАЎСЦІЛАЦЬ** *сов. (о многом)* устлать.

**ПАЎСЦЯГВАНЫ** 1. втащенный, встащенный; 2. *разг.* натянутый, напяленный; 1,2 *см.* **паўсцягваць.**

**ПАЎСЦЯГВАЦЬ** *сов.* 1. *(наверх — о многом, о многих)* втащить, встащить; 2. *разг. (надеть с трудом — о многом)* натянуть, напялить.

**ПАЎСЫПАЦЬ** *сов. (о многом)* всыпать.

**ПАЎСЫРАВІНА** *ж.* полусырьё *ср.*

**ПАЎСЫХАЦЬ** *сов. (о многом)* засохнуть, зачахнуть; **дрэвы ~халі** деревья засохли (зачахли).

**ПАЎСЮДНА** *нареч.* повсеместно.

**ПАЎСЮДНАСЦЬ** *ж.* повсеместность.

**ПАЎСЮДНЫ** повсеместный.

**ПАЎСЯДЗЕЦЬ** *несов.* полусидеть.

**ПАЎСЯДЗЁННА** *нареч.* повседневно.

**ПАЎСЯДЗЁННАСЦЬ** *ж.* повседневность.

**ПАЎСЯДЗЁННЫ** повседневный.

**ПА-ЎСЯКАМУ** *нареч.* по-всякому.

**ПАЎСЯРЭДНІ** *спорт.* полусредний.

**ПАЎТАКТ** *м.* полутакт.

**ПАЎТАКТНЫ: ~ная нота** полутактная нота.

**ПАЎТАРА** *м. и ср.* полтора; **п. вядра** полтора ведра.

**ПАЎТАРАГАДОВЫ** 1. полуторагодичный; **~выя курсы** полуторагодичные курсы; 2. полуторагодовалый; **~вае дзіця** полуторагодовалый ребёнок.

**ПАЎТАРА́К, -ка́** *м. разг.* предме́т полу́торного разме́ра.

**ПАЎТАРА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* повто-ря́емость.

**ПАЎТАРАМЕ́СЯЧНЫ** полутора-ме́сячный.

**ПАЎТАРАМЕТРО́ВЫ** полутора-метро́вый.

**ПАЎТАРАПРАЦЭ́НТНЫ** полуто-рапроце́нтный.

**ПАЎТАРАТО́НКА** *ж. разг.* полуто-рато́нка, полу́торка.

**ПАЎТАРАТО́ННЫ** полуторато́н-ный.

**ПАЎТАРА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* повторя́ться; *см.* **паўтары́ц-ца, паўтара́ць.**

**ПАЎТАРА́ЦЬ** *несов.* повторя́ть; *см.* **паўтары́ць.**

**ПАЎТАРА́ЧКА** *ж. разг. в разн. знач.* полу́торка.

**ПАЎТАРА́ЧНЫ** *разг.* полу́торный; **п. ло́жак** полу́торная крова́ть; **у ~ным паме́ры** в полу́торном раз-ме́ре.

**ПАЎТАРЫ́** *ж.* полторы́; **п. ты́сячы** полторы́ ты́сячи.

**ПАЎТАРЫ́ЦЦА** *сов.* повтори́ться; **з ім ~ры́лася ле́ташняя гісто́рыя** с ним повтори́лась прошлого́дняя исто́рия; **стук ~рыу́ся** стук повто-ри́лся.

**ПАЎТАРЫ́ЦЬ** *сов.* повтори́ть; **п. ска́занае** повтори́ть ска́занное; **п. уро́к** повтори́ть уро́к.

**ПАЎТАРЭ́ННЕ** *ср. в разн. знач.* повторе́ние; **п. про́йдзенага матэ-рыя́лу** повторе́ние про́йденного материа́ла; **у кні́зе сустрака́юцца ~нні** в кни́ге встреча́ются повто-ре́ния.

**ПАЎТЛУ́СТЫ** *полигр.* полужи́р-ный.

**ПАЎТО́ЙВАЦЬ** *сов. (о многом)* утаи́ть, скрыть.

**ПАЎТО́Н, -ну** *м. муз., жив.* по-луто́н.

**ПАЎТО́НКА** *ж. разг.* полуто́нка.

**ПАЎТО́ННЫ** полуто́нный.

**ПАЎТО́ПТВАНЫ 1.** вто́птанный; **2.** уто́птанный; **3.** умя́тый; **4.** запи́ханный, впи́ханный; 1—4 *см.* **паўто́птваць.**

**ПАЎТО́ПТВАЦЬ** *сов. (о многом)* **1.** втопта́ть; **п. лі́сце ў гразь** втопта́ть ли́стья в грязь; **2.** утопта́ть, **п. зямлю́** утопта́ть зе́млю; **3.** *(сложить, приминая)* умя́ть; **п. се́на** умя́ть се́но; **4.** *разг.* запиха́ть, впи-ха́ть; **п. усё адзе́нне ў чамада́н** запиха́ть (впиха́ть) всю оде́жду в чемода́н.

**ПАЎТО́Р, -ру** *м.* повто́р.

**ПАЎТО́РАНЫ** повто́ренный, по-вторённый; *см.* **паўтары́ць.**

**ПАЎТО́РНА** *нареч.* повто́рно, вто-ри́чно.

**ПАЎТОРНАРО́ДЗЯЧАЯ** *мед.* **1.** *прил.* повторнородя́щая; **2.** *в знач. сущ.* повторнородя́щая.

**ПАЎТО́РНАСЦЬ** *ж.* повто́рность.

**ПАЎТО́РНЫ 1.** повто́рный, вто-ри́чный; **п. сход** повто́рное (вто-ри́чное) собра́ние; **2.** *(предназначенный для повторения)* повто-ри́тельный; **~нае практыкава́н-не** повтори́тельное упражне́ние; **3.** повторя́ющийся; **перыяды́чна ~ныя кры́зісы** периоди́чески по-вторя́ющиеся кри́зисы.

**ПАЎТРАЦЯ́** *разг. уст.* два с полови́ной.

**ПАЎТРЫЗНЕ́ННЕ** *ср.* полубре́д *м.*

**ПАЎТУ́ЗІНА** полдю́жины.

**ПАЎТУ́ЛЬВАЦЬ** *сов. (о многих, о многом)* **1.** спря́тать, уткну́ть; **2.** втяну́ть.

**ПАЎТЫКА́НЫ 1.** во́ткнутый; вонзённый; **2.** уты́канный; 1,2 *см.* **паўтыка́ць** 1,3.

**ПАЎТЫКА́ЦЦА** *сов. (о многом)* воткну́ться; вонзи́ться.

**ПАЎТЫКА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(о многом)* воткну́ть; вонзи́ть; **2.** *(о многих)* уткну́ть; **~ка́лі гало́вы ў паду́шкі** уткну́ли го́ловы в поду́шки; **3.** *разг.* уты́кать *(иголками и т. п.).*

**ПАЎТЫ́СЯЧЫ** полты́сячи.

**ПАЎУЗВО́Д** *м.* полувзво́д.

**ПАЎУСТА́Ў, -та́ва** *м. (письмо)* полууста́в.

**ПАЎУСТА́ЎНЫ** полууста́вный.

**ПАЎФАБРЫКА́Т, -ту** *м.* полуфабрика́т.

**ПАЎФІНА́Л, -лу** *м. спорт.* полуфина́л.

**ПАЎФІНАЛІ́СТ** *м.* полуфинали́ст.

**ПАЎФІНАЛІ́СТКА** *ж.* полуфинали́стка.

**ПАЎФІНА́ЛЬНЫ** *спорт.* полуфина́льный.

**ПАЎФУ́НТА** *уст.* полфу́нта.

**ПАЎХВІЛІ́НЫ** *ж.* **1.** *(короткий промежуток времени)* полмину́ты, моме́нт *м.*; **2.** *(мера времени)* полмину́ты.

**ПАЎХМЫЗНЯ́К, -ку́** *м.* полукуста́рник.

**ПАЎХМЫЗНЯКО́ВЫ** полукуста́рниковый.

**ПАЎХУ́ТВАНЫ** уку́танный; *см.* **паўху́тваць.**

**ПАЎХУ́ТВАЦЬ** *сов. (о многих, о многом)* уку́тать.

**ПАЎЦАЛЁВЫ** *уст.* полудюймо́вый.

**ПАЎЦАЛЁЎКА** *ж. уст. (о доске)* полудюймо́вка.

**ПАЎЦА́ЛІ** *уст.* полдю́йма.

**ПАЎЦАНЫ́** полцены́; **прада́ць за п.** прода́ть за полцены́.

**ПАЎЦА́РСТВА** полца́рства.

**ПАЎЦВЕРДАКРЫ́ЛЫЯ** *сущ. мн. зоол.* полужесткокры́лые.

**ПАЎЦВЁРДЫ** полужёсткий.

**ПАЎЦЕ́МРА** *ж.* полумра́к *м.*, полутьма́.

**ПАЎЦЕ́НЬ, -ню** *м.* полуте́нь *ж.*

**ПАЎЦЁМНЫ** полутёмный.

**ПАЎЦІРА́НЫ 1.** втёртый; **2.** утёртый, вы́тертый; 1,2 *см.* **паўціра́ць.**

**ПАЎЦІРА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(о мази и т. п.)* втере́ть; **2.** *(о многом, о многих)* утере́ть, вы́тереть.

**ПАЎЦІСКА́ЦЦА** *сов. (о многих)* **1.** вжа́ться, вдави́ться, вти́снуться; **2.** *(пробраться)* вти́снуться; **п. ў нато́ўп** вти́снуться в толпу́; **3.** затяну́ться; **~ка́ліся папру́гамі** затяну́лись ремня́ми.

**ПАЎЦІСКА́ЦЬ** *сов. (о многом)* **1.** вжать, вдави́ть, вти́снуть; **2.** *(уместить)* вти́снуть; **п. рэ́чы ў чамада́н** вти́снуть ве́щи в чемода́н; **3.** *(уменьшить в объёме, сжимая)* ужа́ть; *(связывая — ещё)* увяза́ть; **п. вазы́** ужа́ть (увяза́ть) возы́; **4.** *(о многих — вобрать)* втяну́ть; **~ка́лі**

**галóвы ў плéчы** втянýли гóловы в плéчи.

**ПАЎЦЫ́РКУЛЬНЫ** *архит.* полуци́ркульный.

**ПАЎЦЯ́ГВАЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач. (о многом, о многих)* втянýть; *(таща, волоча — ещё)* втащи́ть; *(привлечь к участию — ещё)* вовлéчь; **2.** *(о многом)* вдеть, вволóчь; **3.** *безл. (о многом)* подвести́; запáсть; **~вала жываты́** подвелó животы́; **~вала шчóкі** запáли щёки.

**ПАЎЦЯ́ЖКІ** *спорт.* полутяжёлый.

**ПАЎЦЯКА́ЦЬ** *сов. (о многих)* **1.** убежáть; удрáть; **2.** скры́ться, убежáть, уйти́; **3.** *(из ссылки, тюрьмы и т. п.)* соверши́ть побéг, бежáть, уйти́.

**ПА-ЎЧАРА́ШНЯМУ** *нареч.* по-вчерáшнему.

**ПАЎЧВАРТА́** *разг. уст.* три с полови́ной.

**ПАЎЧВЭ́РТКІ** *разг.* полчéтверти; *(о земле — ещё)* одна восьмáя часть волóки.

**ПАЎЧВЭ́РЦІ** *разг.* полчéтверти.

**ПАЎША́Р'Е** *ср.* полушáрие; **паўнóчнае (паўднёвае, усхóдняе, захóдняе) п.** сéверное (ю́жное, востóчное,зáпадное) полушáрие; О **~р'і галаўнóга мóзга** *анат.* полушáрия головнóго мóзга; **магдэбýргскія ~р'і** *физ.* магдебýргские полушáрия.

**ПАЎШАРСЦЯНЫ́** полушерстянóй.

**ПАЎШАЎКÓВЫ** полушёлковый.

**ПАЎШКЛЯ́НКІ** полстакáна *м.*

**ПАЎШÓРЫ** *ед. нет* шлеи́ *ж.*; шóры.

**ПАЎШÓЎК, -ку** *м.* полушёлк.

**ПАЎШТÓФ** *м. уст.* полуштóф.

**ПАЎШЧУВА́ЦЬ** *сов. (с воспитательной целью)* побрани́ть, пожури́ть, поучи́ть.

**ПА́ЎШЫ 1.** *сущ. высок. (погибший в бою)* пáвший; **2.** *(о крепости, городе)* пáвший; **3.** *(потерявший уважение)* пáдший.

**ПАЎШЫВА́ЦЬ** *сов. (о многом)* вшить; *(пуговицы — ещё)* приши́ть; **п. рукавы́** вшить рукавá; **п. гýзікі** приши́ть пýговицы.

**ПАЎШЭ́ПТ, -ту** *м.* полушёпот.

**ПАЎЭСКАДРÓН** *м. воен.* полуэскадрóн.

**ПАЎЮ́Т** *м. мор.* полую́т.

**ПАЎЯДА́ЦЦА** *сов. (о многом)* **1.** *(впитаться)* въéсться; **фáрба ~дáлася ў рýкі** крáска въéлась в рýки; **2.** врéзаться, впи́ться.

**ПАФ** *межд.* паф.

**ПАФАНАБЭ́РЫЦЦА** *сов.* почвáниться.

**ПАФАНТАЗІ́РАВАЦЬ** *сов.* пофантази́ровать.

**ПАФАРБАВА́НЫ** покрáшенный, окрáшенный, вы́крашенный.

**ПАФАРБАВА́ЦЦА** *сов.* покрáситься, окрáситься, вы́краситься.

**ПАФАРБАВА́ЦЬ** *сов.* покрáсить, окрáсить, вы́красить.

**ПАФАРБÓЎКА** *ж.* покрáска.

**ПАФАРСІ́ЦЬ** *сов.* пофорси́ть.

**ПА-ФАРЫСЕ́ЙСКУ** *нареч.* фарисéйски.

**ПА́ФАС, -су** *м.* пáфос.

**ПА́ФАСНАСЦЬ** *ж.* пáфосность.

**ПА́ФАСНЫ** пáфосный.

**ПАФАСТРЫГАВА́НЫ** *порт.* сметанный; *см.* **пафастрыгава́ць** 2.

**ПАФАСТРЫГАВА́ЦЬ** *сов. порт.* **1.** пометать; **2.** *(о многом)* сметать.

**ПА-ФІЛАСО́ФСКУ** *нареч.* философски.

**ПАФІЛАСО́ФСТВАВАЦЬ** *сов.* пофилософствовать.

**ПАФЛІРТАВА́ЦЬ** *сов.* пофлиртовать.

**ПА-ФЛО́ЦКУ** *нареч.* по-флотски.

**ПА-ФРАНТАВО́МУ** *нареч.* пофронтовому.

**ПАФРАНЦІ́ЦЬ** *сов. разг.* пофрантить, пощеголять.

**ПАФУ́КАЦЬ** *сов. разг.* подуть, пофукать.

**ПАФЫ́РКАЦЬ** *сов. прям., перен.* пофыркать.

**ПАФЫ́РКВАЦЬ** *несов. прям., перен.* пофыркивать.

**ПАХ,** *род.* **па́ху** *м.* запах; аромат, благоухание *ср.*

**ПА́ХА** *ж.* мышка, подмышка; **пад па́хамі (па́хай, па́хі, па́ху)** под мышками (мышкой, мышки, мышку); **трава́ па па́хі** трава до мышек (до подмышек); ◊ **ла́хі пад па́хі** шапку в охапку; убираться восвояси.

**ПАХА́БНА** *нареч. разг.* похабно.

**ПАХА́БНАСЦЬ** *ж. разг.* похабность.

**ПАХА́БНЫ** *разг.* похабный.

**ПАХА́БСТВА** *ср. разг.* похабство.

**ПАХА́БШЧЫНА** *ж. разг.* похабщина.

**ПАХАВА́ЛЬНАЯ** *сущ. ж.* похоронная.

**ПАХАВА́ЛЬНЫ** похоронный; погребальный.

**ПАХАВА́ННЕ** *ср.* похороны *ед. нет,* погребение; захоронение; **палі́ ~ння** *археол.* поля погребения.

**ПАХАВА́НЫ** I попрятанный, спрятанный; укрытый; *см.* **пахава́ць** I.

**ПАХАВА́НЫ** II **1.** похороненный, погребённый, захороненный; **2.** *перен.* похороненный; *см.* **пахава́ць** II 2.

**ПАХАВА́ЦЦА** *сов. (обо всех, многих)* попрятаться, спрятаться.

**ПАХАВА́ЦЬ** I *сов. (всё, многое)* попрятать, спрятать; *(многих — ещё)* спрятать, укрыть.

**ПАХАВА́ЦЬ** II *сов.* **1.** похоронить, погрести, захоронить; **2.** *перен. (предать забвению)* похоронить; **п. свае́ надзе́і** похоронить свои надежды.

**ПАХАДА́ЙНІЧАЦЬ** *сов.* походатайствовать; похлопотать.

**ПАХАДЖА́ЦЬ** *несов.* похаживать, расхаживать.

**ПАХА́ДЖВАЦЬ** *несов. см.* **пахаджа́ць.**

**ПАХАДЗІ́ЦЬ** *сов.* походить; *(без определённой цели — ещё)* побродить.

**ПАХАЛАДА́ННЕ** *ср.* похолодание.

**ПАХАЛАДА́ЦЬ** *сов. безл.* похолодать; **на дварэ́ ~да́ла** на дворе похолодало.

**ПАХАЛАДЗЕ́ЦЬ** *сов.* похолодеть.

**ПАХАЛАДНЕ́ЦЬ** *сов.* похолоднеть.

**ПА-ХА́МСКУ** *нареч.* по-хамски.

**ПАХАНДРЫ́ЦЬ** *сов.* похандрить.

**ПА-ХА́НЖАСКУ** *нареч.* ха́нжески.

**ПАХАПА́НЫ** похва́танный; перехва́танный.

**ПАХАПА́ЦЬ** *сов.* похвата́ть; перехвата́ть.

**ПАХАРАШЭ́ЦЬ** *сов.* похороше́ть; покрасиве́ть.

**ПАХА́РКАЦЬ** *сов.* поха́ркать.

**ПАХАРЧАВА́ЦЬ** *сов.* покорми́ть.

**ПА-ХА́ТНЯМУ** *нареч.* по-дома́шнему.

**ПАХВАЛА́** *ж.* похвала́; **адазва́цца пра каго-не́будзь з ~ло́й** отозва́ться о ко́м-л. с похвало́й.

**ПАХВА́ЛЕНЫ** похва́ленный.

**ПАХВАЛІ́ЦЦА** *сов.* похвали́ться, похва́статься, похва́стать; прихвастну́ть.

**ПАХВАЛІ́ЦЬ** *сов.* похвали́ть.

**ПАХВАЛЬБА́** *ж. мн. нет разг.* похвальба́, бахва́льство *ср.*

**ПАХВА́ЛЬВАЦЬ** *несов.* похва́ливать.

**ПАХВА́ЛЬНА** I *нареч.* похва́льно, ле́стно, одобри́тельно; **2.** *в знач. сказ.* похва́льно.

**ПАХВА́ЛЬНЫ 1.** *(содержащий похвалу)* похва́льный; ле́стный, одобри́тельный; **п. во́дзыў** похва́льный (ле́стный, одобри́тельный) о́тзыв; **2.** *(заслуживающий похвалы)* похва́льный; **п. наме́р** похва́льное наме́рение.

**ПАХВАЛЯВА́ЦЦА** *сов.* поволнова́ться.

**ПАХВАЛЯВА́ЦЬ** *сов.* поволнова́ть.

**ПАХВАЛЯ́ЦЦА** *несов. разг.* похваля́ться, хва́статься, хва́стать; *см.* **пахваліцца.**

**ПАХВАРЭ́ЦЬ** *сов.* **1.** поболе́ть, похвора́ть; **п. не́калькі дзён** поболе́ть (похвора́ть) не́сколько дней; **2.** *(на што і чым)* поболе́ть *(чем)*; **п. на грып** поболе́ть гри́ппом; **3.** *(стать больным — обо всех, многих)* заболе́ть, захвора́ть; **у мяне́ ўсе дама́шнія ~рэ́лі** у меня́ все дома́шние заболе́ли (захвора́ли); **4.** *(за кого-что-л.) перен. разг.* поболе́ть; **п. за сябро́ўку ў час экза́мену** поболе́ть за подру́гу во вре́мя экза́мена.

**ПАХВАСТА́НЫ** *разг.* переби́тый, переколо́ченный; *см.* **пахвастаць 2.**

**ПАХВАСТА́ЦЦА** *сов.* похлеста́ться.

**ПАХВАСТА́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** *(нек-рое время)* похлеста́ть, постега́ть; **2.** *(всё, многое)* переби́ть, переколоти́ть.

**ПАХВАТА́НЫ** *см.* **пахапа́ны.**

**ПАХВАТА́ЦЬ** *сов. см.* **пахапа́ць.**

**ПАХВІ́НА** *ж. анат.* пах *м.*

**ПАХВІ́ННЫ** *анат.* пахово́й, па́ховый.

**ПАХВО́РВАЦЬ** *несов. разг.* похва́ривать.

**ПАХВО́СТВАЦЬ** *несов.* похлёстывать, постёгивать.

**ПАХІ́БА** *ж. обл. см.* **хі́ба I.**

**ПАХІДЭ́РМІЯ** *ж. мед.* пахиде́рмия.

**ПАХІ́Л, -лу** *м.* скат, накло́н.

**ПАХІ́ЛА** *нареч.* накло́нно, ко́со, кри́во.

**ПАХІ́ЛАСЦЬ** *ж.* накло́н *м.*, ско́шенность.

**ПАХІ́ЛЕНЫ** склонённый, наклонённый.

**ПАХІЛІЦЦА** *сов.* склониться, наклониться.

**ПАХІЛІЦЬ** *сов.* склонить, наклонить.

**ПАХІЛЫ 1.** наклонённый, склонённый; **2.** *(о людях)* согбенный; **3.** покатый; **п. спуск** покатый спуск.

**ПАХІЛЯЦЬ** *несов.* склонять, наклонять.

**ПАХІСНУТЫ** поколебленный; *см.* **пахіснуць** 2.

**ПАХІСНУЦЦА** *сов.* **1.** покачнуться, пошатнуться; **2.** *(начать отступать)* дрогнуть; **вораг ~нуўся** враг дрогнул; **3.** *перен.* поколебаться, пошатнуться, покачнуться; **яго аўтарытэт ~нуўся** его авторитет поколебался (пошатнулся); **справы ~нуліся** дела пошатнулись.

**ПАХІСНУЦЬ** *сов.* **1.** покачнуть, пошатнуть; **2.** *перен.* поколебать, пошатнуть; **п. асновы** поколебать (пошатнуть) устои.

**ПАХІСТАЦЦА** *сов.* **1.** покачаться, пошататься, поколебаться; **2.** *перен.* поколебаться.

**ПАХІСТАЦЬ** *сов.* покачать, пошатать, поколебать.

**ПАХІСТВАННЕ** *ср.* покачивание.

**ПАХІСТВАЦЦА** *несов.* покачиваться, пошатываться.

**ПАХІСТВАЦЬ** *несов.* покачивать, пошатывать.

**ПАХІТРАВАЦЬ** *сов. см.* **пахітрыць.**

**ПАХІТРЫЦЬ** *сов.* похитрить.

**ПАХІХІКАЦЬ** *сов.* похихикать.

**ПАХІХІКВАЦЬ** *несов.* похихикивать.

**ПАХКАЦЬ** *несов. разг.* хлопать.

**ПАХКІ** *разг.* пахучий.

**ПА-ХЛАПЕЦКУ** *нареч.* по-мальчишески.

**ПАХЛІПАЦЬ** *сов. разг.* похлипать.

**ПАХЛУСІЦЬ** *сов.* поврать.

**ПАХЛЯБТАЦЬ** *сов. разг.* полакать.

**ПАХМЕЛКА** *ж. разг.* похмелка.

**ПАХМЕЛЛЕ** *ср. в разн. знач.* похмелье; ◊ **п. з чужога вяселля** в чужом пиру похмелье.

**ПАХМУРНА** *нареч.* **1.** пасмурно; ненастно; **2.** *перен.* мрачно, хмуро; 1,2 *см.* **пахмурны.**

**ПАХМУРНАСЦЬ** *ж.* **1.** пасмурность; **2.** *перен.* мрачность; 1,2 *см.* **пахмурны.**

**ПАХМУРНЕЦЬ** *сов. (стать хмурым)* помрачнеть.

**ПАХМУРНЫ 1.** *(о погоде)* пасмурный; ненастный; **2.** *перен. (о душевном состоянии)* мрачный, хмурый.

**ПАХМЯЛЕЦЬ** *сов. (обо всех, многих)* захмелеть, охмелеть.

**ПАХМЯЛІЦЦА** *сов.* опохмелиться, похмелиться.

**ПАХМЯЛЯЦЦА** *несов.* опохмеляться, похмеляться.

**ПАХНУЦЬ** I *несов. прям., перен.* пахнуть; *(о цветах — ещё)* благоухать; **астры не п.** астры не пахнут; **ты ведаеш, чым гэта ~не?** ты знаешь, чем это пахнет?; ◊ **~не смажаным** пахнет жареным; **~не порахам** пахнет порохом; **і не ~не** и не пахнет.

**ПАХНУЦЬ** II *сов. однокр. разг.* хлопнуть.

**ПАХНЫКАЦЬ** *сов. разг.* похныкать.

**ПАХО́ВАНЫ** *см.* **пахава́ны** I.

**ПАХО́Д, -ду** *в разн. знач.* похо́д; **туры́сцкі п.** туристи́ческий похо́д; **крыжо́вы п.** *ист., перен.* кресто́вый похо́д.

**ПАХО́ДЖАННЕ** *ср. в разн. знач.* происхожде́ние; **п. мо́вы** происхожде́ние языка́.

**ПАХО́ДЖВАЦЬ** *несов. см.* **пахаджа́ць.**

**ПАХО́ДЗІЦЬ** *несов.* происходи́ть; **ён п. з рабо́чай сям'і** он происхо́дит из рабо́чей семьи́.

**ПАХО́ДКА** *ж.* похо́дка.

**ПАХО́ДНЫ** *в разн. знач.* похо́дный; **~ная ку́хня** похо́дная ку́хня; **~ная амуні́цыя** похо́дное снаряже́ние; **~ная кало́на** похо́дная коло́нна.

**ПАХО́ДНЯ** *ж. уст.* фа́кел *м.*; фона́рь *м.*

**ПАХРАБРЫ́ЦЦА** *сов.* похрабри́ться.

**ПАХРАБРЭ́ЦЬ** *сов.* похрабре́ть, стать храбре́е.

**ПАХРАБУСТА́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** *(пожевать с хрустом)* похрусте́ть; **2.** *(всё, многое)* съесть *(с хрустом).*

**ПАХРАБУСЦЕ́ЦЬ** *сов. см.* **пахрабуста́ць** 1.

**ПАХРА́ПВАЦЬ** *несов.* похра́пывать.

**ПАХРАПЦІ́** *сов.* похрапе́ть.

**ПАХРУ́МСТАЦЬ** *сов. см.* **пахрабуста́ць.**

**ПАХРУ́СТАЦЬ** *сов.* похру́стывать.

**ПАХРУ́СТВАЦЬ** *несов.* похру́стывать.

**ПАХРЫПЕ́ЦЬ** *сов.* похрипе́ть.

**ПАХРЫ́ПНУЦЬ** *сов. (о многих)* охри́пнуть.

**ПАХРЫСТО́САВАЦЦА** *сов. рел.* похристо́соваться.

**ПАХРЫСЦІ́ЦЦА** *сов.* покрести́ться.

**ПАХРЫСЦІ́ЦЬ** *сов.* покрести́ть.

**ПА-ХРЫСЦІЯ́НСКУ** *нареч.* по-христиа́нски.

**ПАХУДЗЕ́ЛЫ** похуде́вший, похуде́лый.

**ПАХУДЗЕ́ННЕ** *ср.* похуде́ние.

**ПАХУДЗЕ́ЦЬ** *сов.* похуде́ть.

**ПАХУ́КАЦЬ** *сов.* подыша́ть *(на что-л.)*; **п. на ру́кі** подыша́ть на ру́ки.

**ПАХУ́КВАЦЬ** *несов. (ртом)* подува́ть.

**ПАХУ́ЧАСЦЬ** *ж.* паху́честь, души́стость; арома́т *м.*, благоуха́ние *ср.*

**ПАХУ́ЧЫ** паху́чий, души́стый; арома́тный, благоуха́нный.

**ПАЦАДЗІ́ЦЬ** *сов.* поцеди́ть.

**ПАЦАЛАВА́НЫ** поцело́ванный.

**ПАЦАЛАВА́ЦЦА** *сов.* поцелова́ться.

**ПАЦАЛАВА́ЦЬ** *сов.* поцелова́ть.

**ПАЦАЛУ́НАК, -нка** *м.* поцелу́й; ◊ **п. Ю́ды** поцелу́й Иу́ды; **паве́траны п.** возду́шный поцелу́й.

**ПАЦАЛУ́НКАВЫ** поцелу́йный; **п. абра́д** *этн.* поцелу́йный обря́д.

**ПАЦА́ПАЦЦА** *сов. прост.* поца́паться.

**ПАЦАРАВА́ЦЬ** *сов. см.* **пацა́рстваваць.**

**ПА-ЦА́РСКУ** *нареч.* по-ца́рски.

**ПАЦА́РСТВАВАЦЬ** *сов.* поца́рствовать.

**ПАЦА́ЦКАЦЦА** *сов. разг.* поня́ньчиться, повози́ться.

**ПАЦВЕ́ЛЬВАЦЦА** *(з кім) несов. разг.* подра́знивать *(кого).*

**ПАЦВЕ́ЛЬВАЦЬ** *несов. разг.* подра́знивать.

**ПАЦВЕРАЗЕ́ЦЬ** *сов.* протрезве́ть, стать трезве́е.

**ПАЦВЕ́РДЖАНЫ** подтверждённый.

**ПАЦВЕ́РДЗІЦЦА** *сов.* подтверди́ться; **фа́кты ~дзіліся** фа́кты подтверди́лись.

**ПАЦВЕ́РДЗІЦЬ** *сов.* подтверди́ть; **п. ду́мку пры́кладам** подтверди́ть мысль приме́ром; **п. паказа́нні на судзе́** подтверди́ть показа́ния на суде́.

**ПАЦВІСЦІ́** I *сов. (нек-рое время)* поцвести́.

**ПАЦВІСЦІ́** II *сов. (покрыться плесенью — о многом)* запле́сневеть.

**ПАЦВЫ́РКАЦЬ** *сов.* **1.** *(о птицах)* почири́кать; **2.** *(о кузнечиках и т. п.)* пострекота́ть.

**ПАЦВЯЛІ́ЦЦА** *(з кім) сов. разг.* подразни́ть. *(кого).*

**ПАЦВЯЛІ́ЦЬ** *сов. разг.* подразни́ть.

**ПАЦВЯРДЖА́ЛЬНЫ** подтверди́тельный.

**ПАЦВЯРДЖА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* подтвержда́ться.

**ПАЦВЯРДЖА́ЦЬ** *несов.* подтвержда́ть.

**ПАЦВЯРДЖЭ́ННЕ** *ср.* подтвержде́ние.

**ПАЦВЯРДЗЕ́ЦЬ** *сов. (стать твёрже)* потверде́ть.

**ПАЦЕЛЯПА́ЦЦА** *сов. разг.* поболта́ться.

**ПАЦЕЛЯПА́ЦЬ** *сов. разг.* поболта́ть, помота́ть.

**ПАЦЕ́ННЕ** *ср.* поте́ние.

**ПАЦЕ́ПВАННЕ** *ср.* подёргивание.

**ПАЦЕ́ПВАЦЦА** *несов.* поёживаться, подёргиваться; вздра́гивать.

**ПАЦЕ́ПВАЦЬ** *несов.* подёргивать, пожима́ть *(плечами).*

**ПАЦЕРАБІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(всё, многое)* обруби́ть; почи́стить, обре́зать; **2.** *(нек-рое время)* поруби́ть, почи́стить; пообруба́ть; пообреза́ть; потереби́ть, подёргать.

**ПА́ЦЕРАЧКА** *ж. уменьш.-ласк.* **1.** бу́синка; **2.** *(мелкая стеклянная)* би́серинка.

**ПА́ЦЕРКА** *ж.* **1.** бу́синка; **2.** *(мелкая стеклянная)* би́серина.

**ПА́ЦЕРКІ, -рак,** *ед.* **па́церка** *ж.* **1.** бу́сы; **2.** *(мелкие стеклянные)* би́сер *м.*; **3.** чётки.

**ПАЦЕРУШЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** посы́пать, потруси́ть; **2.** *(о дожде)* помороси́ть, покра́пать; **3.** *(о снеге)* попороши́ть.

**ПАЦЕ́РЦІ** *сов.* **1.** потере́ть; **п. руко́й шчаку́** потере́ть руко́й щеку́; **п. во́чы** потере́ть глаза́; **2.** растере́ть; **п. фа́рбу** растере́ть кра́ску **3.** *(лён, коноплю)* перемя́ть; **4.** *(ягоды и т. п.)* помя́ть, подави́ть; **5.** *(повредить трением)* натере́ть, стере́ть.

**ПАЦЕ́РЦІСЯ** *сов.* **1.** потере́ться; **п. мача́лкай** потере́ться моча́лкой; **2.** истере́ться; **тыту́нь пацёрся на парашо́к** таба́к истёрся в порошо́к; **3.** *(о ягодах)* помя́ться, подави́ться;

**4.** *перен. разг. (побывать где-л., пообщаться с кем-л.)* потере́ться.

**ПА́ЦЕРЫ, -раў** *ед. нет разг.* моли́тва *ж.*

**ПАЦЕ́ХА** *ж.* **1.** поте́ха, заба́ва; **2.** *в знач. сказ.* поте́ха, умо́ра; **ну і п.!** ну и умо́ра!; **вось п.!** вот поте́ха!; ◊ **з ла́скі на ~ху** здо́рово живёшь; ни за что́ ни про что́.

**ПАЦЕ́ЦЬ** *несов.* **1.** поте́ть; **2.** *перен. разг. (трудиться)* поте́ть; **3.** *(покрываться капельками пара)* поте́ть, запотева́ть.

**ПАЦЕ́ШЛІВЫ** увесели́тельный.

**ПАЦЕ́ШНА** *нареч.* поте́шно, заба́вно.

**ПАЦЕ́ШНІК** *м.* зате́йник, заба́вник.

**ПАЦЕ́ШНІЦА** *ж.* зате́йница, заба́вница.

**ПАЦЕ́ШНЫ** поте́шный, заба́вный.

**ПАЦЕ́ШНЫЯ,** *ед.* **паце́шны** *сущ. ист.* поте́шные.

**ПАЦЕ́ШЫЦЦА** *сов.* **1.** *(кім-чым, з каго-чаго и без доп.)* поте́шиться *(над кем-чем и без доп.)*, позаба́виться *(кем-чем и без доп.)*, наслади́ться *(кем-чем и без доп.)*; пора́доваться *(кому-чему)*; **2.** уте́шиться; **3.** *(з каго-чаго)* поиздева́ться *(над кем-чем)*; **4.** помилова́ться.

**ПАЦЕ́ШЫЦЬ** *сов.* **1.** пора́довать, обра́довать; **п. навіно́ю** пора́довать (обра́довать) но́востью; **2.** поласка́ть; **п. во́ка** поласка́ть взор; **3.** позаба́вить. поте́шить; увесели́ть; услади́ть.

**ПАЦЁРТАСЦЬ** *ж.* потёртость.

**ПАЦЁРТЫ 1.** *прич.* потёртый; **2.** *прич.* растёртый; **3.** *прич.* перемя́тый; **4.** *прил.* помя́тый, пода́вленный; **5.** *прич.* натёртый, стёртый; 1—5 *см.* **пацёрці; 6.** *прил. (об одежде)* потёртый, потрёпанный; **7.** *прил. перен.* потрёпанный, потёртый; **п. вы́гляд** потрёпанный (потёртый) вид.

**ПАЦЁХКАЦЬ** *сов. разг. (о птицах)* пощёлкать.

**ПАЦЁХКВАЦЬ** *несов. разг. (о птицах)* пощёлкивать.

**ПАЦІКАВА́ЦЬ** *сов.* последи́ть, понаблюда́ть.

**ПАЦІКА́ВІЦЦА** *сов.* поинтересова́ться, полюбопы́тствовать.

**ПА́ЦІНА** *ж. спец.* па́тина.

**ПАЦІНІ́РАВАННЕ** *ср. спец.* патини́рование.

**ПАЦІНІ́РАВАНЫ** *спец.* патини́рованный.

**ПАЦІНІ́РАВАЦЦА** *несов. страд. спец.* патини́роваться.

**ПАЦІНІ́РАВАЦЬ** *сов. и несов. спец.* патини́ровать.

**ПАЦІ́Р** *м. церк.* поти́р.

**ПАЦІРА́ЦЬ** *несов.* потира́ть; **п. ру́кі** потира́ть ру́ки.

**ПАЦІСКА́ННЕ** *ср.* пожима́ние.

**ПАЦІ́СКАНЫ** пожа́тый; пода́вленный, помя́тый.

**ПАЦІСКА́ЦЦА** *несов. (от холода и т. п.)* пожима́ться, поёживаться, ёжиться.

**ПАЦІ́СКАЦЬ** *сов.* пожа́ть; подави́ть, помя́ть; *(прижимая)* поти́скать.

**ПАЦІСКА́ЦЬ** *несов.* **1.** нажима́ть; нада́вливать; **2.** *(руку)* пожима́ть; 1,2 *см.* **паці́снуць** 1, 2; ◊ **п. плячамі** пожима́ть плеча́ми.

**ПАЦІ́СНЕНЫ** *см.* **паці́снуты.**

**ПАЦІ́СНУТЫ** **1.** нажа́тый; нада́вленный; **2.** пожа́тый; **3.** переда́вленный; **4.** *разг.* потеснённый; 1—4 *см.* **паці́снуць** 1—3,5.

**ПАЦІ́СНУЦЦА** *сов.* **1.** передави́ться; **слі́вы ~нуліся** сли́вы передави́лись; **2.** потесни́ться.

**ПАЦІ́СНУЦЬ** *сов.* **1.** нажа́ть; надави́ть; **п. кно́пку званка́** нажа́ть (надави́ть) кно́пку звонка́; **2.** *(руку)* пожа́ть; **3.** *(смять многое)* передави́ть; **4.** *(жать нек-рое время)* пожа́ть, подави́ть; **п. вінагра́д** пожа́ть (подави́ть) виногра́д; **5.** *разг. (отодвигая, прижать к чему-л.)* потесни́ть.

**ПАЦІ́ХЕНЬКУ** *нареч. разг.* потихо́ньку.

**ПАЦІ́ХНУЦЬ** *сов. (о многих, о многом)* сти́хнуть, ути́хнуть; умо́лкнуть.

**ПАЦІ́ХУ** *нареч.* **1.** ти́хо, тихо́нько, потихо́ньку; **гу́тарыць п.** говори́ть ти́хо (тихо́нько, потихо́ньку); **2.** осторо́жно; **рабі́ п., каб не сапсава́ць** де́лай осторо́жно, что́бы не испо́ртить; **3.** ме́дленно; **хадзі́ць п.** ходи́ть ме́дленно.

**ПАЦІШЭ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(о звуках)* стать ти́ше, поути́хнуть; **2.** стать ти́ше, споко́йнее; присмире́ть; **дзе́ці ~шэ́лі** де́ти ста́ли ти́ше, споко́йнее (присмире́ли); **3.** *(стать менее интенсивным)* уня́ться; **боль ~шэ́ў** боль уняла́сь; **ве́цер ~шэ́ў** ве́тер уня́лся.

**ПАЦКАВА́ЦЬ** *(каго кім) сов.* натрави́ть *(кого на кого).*

**ПАЦМО́КАЦЬ** *сов. разг.* почмо́кать; *(языком)* пощёлкать.

**ПАЦМО́КВАЦЬ** *несов. разг.* почмо́кивать; *(языком)* пощёлкивать.

**ПАЦУ́К, -ка́** *м.* кры́са *ж.*

**ПАЦУКАЛО́Ў, -ло́ва** *м.* крысоло́в.

**ПАЦУКО́Ў** крыси́ный; **~ко́ва гнязд́о** крыси́ное гнездо́.

**ПАЦУРБА́ЛАК, -лка** *м. обл.* обру́бок па́лки.

**ПАЦУРЧА́ЦЬ** *сов.* пожурча́ть.

**ПАЦУЧАНЁ** *ср. см.* **пацучаня́.**

**ПАЦУЧАНЯ́ и ПАЦУЧАНЁ, -ня́ці** *ср.* крысёнок *м.*

**ПАЦУЧЫ́НЫ** крыси́ный; **~ныя зу́бы** крыси́ные зу́бы.

**ПА-ЦЫГА́НСКУ** *нареч.* по-цыга́нски.

**ПАЦЫЕ́НТ** *м.* пацие́нт.

**ПАЦЫЕ́НТКА** *ж.* пацие́нтка.

**ПАЦЫРАВА́НЫ** пошто́панный, перешто́панный; *см.* **пацырава́ць** 2.

**ПАЦЫРАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(нек-рое время)* пошто́пать; **2.** *(всё, многое)* пошто́пать, перешто́пать.

**ПАЦЫФІ́ЗМ, -му** *м.* пацифи́зм.

**ПАЦЫФІКА́ЦЫЯ** *ж. книжн.* пацифика́ция.

**ПАЦЫФІ́СТ** *м.* пацифи́ст.

**ПАЦЫФІ́СТКА** *ж.* пацифи́стка.

**ПАЦЫФІ́СЦКІ** пацифи́стский.

**ПАЦЬМЯНЕ́ЛЫ** **1.** поме́ркнувший; **2.** потускне́вший, потускне́лый; **3.** *перен.* поме́ркнувший, потускне́вший; 1—3 *см.* **пацьмяне́ць.**

**ПАЦЬМЯНЕ́ЦЬ** *сов.* **1.** поме́ркнуть; **зо́ркі ~не́лі** звёзды поме́ркли; **2.** потускне́ть; **срэ́бра ~не́ла** серебро́ потускне́ло; **3.** *перен.* поме́ркнуть, потускне́ть; **слава́ не ~не́ла** сла́ва не поме́ркла (не потускне́ла).

**ПАЦЭ́ДЖВАЦЬ** *несов.* поцёживать.

**ПАЦЭ́ЛІЦЬ** *сов.* попа́сть; угоди́ть.

**ПАЦЮ́КАЦЬ** *сов. разг.* посту́кать *(слегка).*

**ПАЦЯГА́НЫ** пота́сканный; *см.* **пацяга́ць** 4.

**ПАЦЯГА́ЦЦА** I *сов. разг.* **1.** *(много походить)* поскита́ться, потаска́ться, пошля́ться; поброди́ть; **2.** *(поспорить, помериться силами)* потяга́ться; **п. ў ве́дах** потяга́ться в зна́ниях.

**ПАЦЯГА́ЦЦА** II *несов. см.* **паця́гвацца** I.

**ПАЦЯГА́ЦЬ** *сов.* **1.** *прям., перен. (нек-рое время)* потаска́ть; **п. дро́вы** потаска́ть дрова́; **п. па суда́х** потаска́ть по суда́м; **2.** *(за что-л.)* потаска́ть, подёргать; **3.** *(всё, многое)* потаска́ть, перетаска́ть; **4.** *(украсть)* потаска́ть; **п. усе́ я́блыкі** потаска́ть все я́блоки.

**ПАЦЯ́ГВАННЕ** *ср.* **1.** потя́гивание; **2.** потя́гивание, дёрганье; **3.** покрыва́ние; **4.** *разг.* потя́гивание; 1—4 *см.* **паця́гваць** 1—4; **5.** потя́гивание; *см.* **паця́гвацца** 1.

**ПАЦЯ́ГВАЦЦА** *несов.* **1.** потя́гиваться; тяну́ться; **2.** *страд.* потя́гиваться; покрыва́ться; *см.* **паця́гваць** 2,3.

**ПАЦЯ́ГВАЦЬ** *несов.* **1.** *безл. (о запахе, ветре)* потя́гивать; **2.** потя́гивать, тяну́ть, дёргать; **3.** покрыва́ть; **п. кажу́х сукно́м** покрыва́ть кожу́х сукно́м; **4.** *разг. (пить медленно, с перерывами)* потя́гивать; **5.** *(курить)* потя́гивать; 1—5 *см.* **пацягну́ць** 3,5,7,9,10.

**ПАЦЯ́ГНЕНЫ** *см.* **паця́гнуты.**

**ПАЦЯ́ГНУТЫ** **1.** пота́щенный, потя́нутый; **2.** пота́щенный, потя́нутый; **3.** покры́тый; 1—3 *см.* **пацягну́ць** 1,2,7.

**ПАЦЯГНУ́ЦЦА** *сов.* **1.** *в разн. знач.* потяну́ться; *(протащиться волоком — ещё)* поволочи́ться; **~ну́лася бяско́нцае по́ле** потяну́лось бесконе́чное по́ле; **~ну́ўся або́з** потяну́лся обо́з; **~ну́лася до́ўгая гу́тарка** потянулась дли́нная бесе́да; **вяро́ўка ~ну́лася** верёвка потяну́лась (поволочи́лась); **2.** *(медленно пойти)* потяну́ться, поплести́сь, побрести́; **3.** *(медленно поехать)* потяну́ться, потащи́ться; **4.** *(вытянуться, расправляя руки, ноги, корпус)* потяну́ться; **ён прачну́ўся і не́калькі разо́ў ~ну́ўся** он просну́лся и не́сколько раз потяну́лся.

**ПАЦЯГНУ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* потащи́ть, потяну́ть; **2.** *(повести за собой)* потащи́ть, потяну́ть; **3.** *безл. (о запахе, ветре)* потяну́ть; **4.** *безл. (почувствовать потребность в чём-л.)* потяну́ть; **~ну́ла да му́зыкі** потяну́ло к му́зыке; **5.** потяну́ть, дёрнуть; **~ні́ яго́ за рука́ў** потяни́ (дёрни) его́ за рука́в; **6.** *(иметь вес)* потяну́ть; **7.** покры́ть; **п. кажу́х сукно́м** покры́ть кожу́х сукно́м; **п. ра́му ла́кам** покры́ть ра́му ла́ком; **8.** повле́чь; **гэ́та ~ну́ла за сабо́й шэ́раг злачы́нстваў** э́то повлекло́ за собо́й ряд преступле́ний; **9.** *разг. (выпить)* потяну́ть; **10.** *(покурить)* потяну́ть; **і́ншыя куры́лі, і яму́ захаце́лася п.** други́е кури́ли, и ему́ захоте́лось потяну́ть; **11.** *разг.* уда́рить *(ремнём, палкой и т. п.)*; ◊ **чорт ~ну́ў за язы́к** *каго* чёрт дёрнул за язы́к *кого.*

**ПАЦЯГУ́ШКІ** *ед. нет. разг.* потяго́та *ж.*

**кéнку** переглáдить (переутю́жить) плáтье; **п. усю́ бялíзну** переглáдить (переутю́жить) всё бельё.

**ПЕРАГЛЕ́ДЖАНЫ** *в разн. знач.* пересмóтренный.

**ПЕРАГЛЕ́ДЗЕЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* пересмотрéть; **усё ~дзеў, а патрэ́бнай кнíгі не знайшо́ў** всё пересмотрéл, а нýжной кни́ги не нашёл; **п. штáты ўстанóў** пересмотрéть штáты учреждéний; **2.** *(повидать всё, многое)* переглядéть, пересмотрéть.

**ПЕРАГЛУ́ШАНЫ 1.** *разг.* переглушённый; переби́тый; **2.** *прост.* переколóченный; 1,2 *см.* **пераглушы́ць.**

**ПЕРАГЛУШЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** *разг. (глуша, истребить)* переглуши́ть; переби́ть; **2.** *прост. (посуду и т. п.)* переби́ть, переколоти́ть.

**ПЕРАГЛЫТА́НЫ** *разг.* переглóтанный.

**ПЕРАГЛЫТА́ЦЬ** *сов. разг.* переглотáть.

**ПЕРАГЛЯ́Д, -ду** *м. в разн. знач.* пересмóтр; *см.* **пераглядзéць** 1.

**ПЕРАГЛЯДА́ННЕ** *ср.* пересмóтр *м.*; пересмáтривание; *см.* **пераглядáць.**

**ПЕРАГЛЯДА́ЦЦА** *несов.* **1.** перегля́дываться; **2.** *страд.* пересмáтриваться; *см.* **пераглядáць.**

**ПЕРАГЛЯДА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* пересмáтривать; *см.* **переглéдзець** 1.

**ПЕРАГЛЯ́ДВАННЕ** *ср. см.* **пераглядáнне.**

**ПЕРАГЛЯ́ДВАЦЦА** *несов. см.* **пераглядáцца.**

**ПЕРАГЛЯ́ДВАЦЬ** *несов. см.* **пераглядáць.**

**ПЕРАГЛЯДЗЕ́ЦЬ** *сов. см.* **пераглéдзець.**

**ПЕРАГЛЯНУ́ЦЦА** *сов.* переглянýться.

**ПЕРАГНАÍЦЬ** *сов.* **1.** перегнои́ть; **2.** чрезмéрно унавóзить.

**ПЕРАГНА́НЫ 1.** перéгнанный; обóгнанный; **2.** переплáвленный; 1,2 *см.* **перагнáць.**

**ПЕРАГНА́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* перегнáть; *(опередить — ещё)* обогнáть; **легкавáя машы́на ~нáла грузавýю** легковáя маши́на перегналá (обогналá) грузовýю; **п. стáтак у другóе мéсца** перегнáть стáдо в другóе мéсто; **п. нáфту** перегнáть нефть; **2.** *(переправить по воде)* переплáвить; **п. лес** переплáвить лес.

**ПЕРАГНІВА́ННЕ** *ср.* перегнивáние; перетлевáние.

**ПЕРАГНІВА́ЦЬ** *несов.* перегнивáть; перетлевáть.

**ПЕРАГНÍЛЫ** перегни́вший; перетлéвший; *см.* **перагнíсці.**

**ПЕРАГНÍСЦІ** *сов.* перегни́ть; перетлéть.

**ПЕРАГНÍЦЬ** *сов. см.* **перагнíсці.**

**ПЕРАГНО́ЕНЫ 1.** перегноённый; **2.** чрезмéрно унавóженный.

**ПЕРАГНО́Й, -нóю** *м.* перегнóй; гýмус.

**ПЕРАГНО́ЙВАЦЦА** *несов. страд.* перегнáиваться; чрезмéрно унавóживаться; *см.* **перагнóйваць.**

**ПЕРАГНО́ЙВАЦЬ** *несов.* **1.** перегнáивать; **2.** чрезмéрно унавóживать.

**ПЕРАГНО́ЙНЫ** перегнóйный; **п. гаршчóчак** перегнóйный горшóчек.

**ПЕРАГНУ́ТЫ** *в разн. знач.* перегнýтый; *см.* **перагнýць.**

**ПЕРАГНУ́ЦЦА** *сов.* перегну́ться; **п. це́раз парэ́нчы** перегну́ться че́рез пери́ла.

**ПЕРАГНУ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* перегну́ть; **п. ліст жале́за папала́м** перегну́ть лист желе́за попола́м; **~ну́ў, трэ́ба крыху́ адагну́ць** перегну́л, на́до немно́го отогну́ть; **ён ~ну́ў у сваі́х патрабава́ннях** он перегну́л в свои́х тре́бованиях; ◊ **п. па́лку** перегну́ть па́лку.

**ПЕРАГНЮСІ́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** перепа́чкать, перепа́костить; **2.** *(сделать всё негодным)* перепо́ртить, перепа́костить.

**ПЕРАГО́ЛЬВАЦЦА** *несов. возвр., страд. разг.* перебрива́ться; *см.* **перагалі́цца, перага́льваць.**

**ПЕРАГО́ЛЬВАЦЬ** *несов. разг. (всех, многих или заново)* перебрива́ть.

**ПЕРАГО́Н I, -ну** *м. в разн. знач.* перего́н; **п. жывёлы** перего́н скота́; **на ~не Мінск — Пу́хавічы** на перего́не Минск — Пу́ховичи.

**ПЕРАГО́Н II, -ну** *м. спец.* обра́т.

**ПЕРАГО́НАЧНЫ** перего́ночный.

**ПЕРАГО́НКА** *ж.* **1.** перего́нка; **суха́я п.** суха́я перего́нка; **2.** *(скота)* перего́н *м.*, перего́нка.

**ПЕРАГО́ННЫ** *в разн. знач.* перего́нный; **п. апара́т** перего́нный аппара́т; **~нная ху́ткасць** перего́нная ско́рость.

**ПЕРАГО́НШЧЫК** *м.* перего́нщик.

**ПЕРАГО́РНУТЫ** переве́рнутый; перели́станный.

**ПЕРАГО́РТВАННЕ** *ср.* **1.** переве́ртывание; перели́стывание; **2.** перегреба́ние; 1,2 *см.* **перага́ртваць.**

**ПЕРАГО́РТВАЦЦА** *несов.* **1.** *(о страницах, листах)* переве́ртываться; перели́стываться, листа́ться; перегреба́ться; *см.* **перага́ртваць.**

**ПЕРАГО́РТВАЦЬ** *несов.* **1.** переве́ртывать; перели́стывать, листа́ть; **2.** *(что-л. сыпучее)* перегреба́ть.

**ПЕРАГО́РЧАНЫ** перегорчённый.

**ПЕРАГО́СТРАНЫ** *обл. см.* **перавострены.**

**ПЕРАГО́СТРЫВАННЕ** *ср. обл. см.* **переве́стрыванне.**

**ПЕРАГО́СТРЫВАЦЦА** *несов. страд. обл. см.* **переве́стрываца.**

**ПЕРАГО́СТРЫВАЦЬ** *несов. обл. см.* **перавострываць.**

**ПЕРАГРАБА́ННЕ** *ср.* перегреба́ние; *см.* **перагараба́ць.**

**ПЕРАГРАБА́ЦЦА** *несов. страд.* перегреба́ться; *см.* **перагараба́ць.**

**ПЕРАГРАБА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* перегреба́ть.

**ПЕРАГРАВА́ЛЬНІК** *м. тех.* перегрева́тель.

**ПЕРАГРАВА́ННЕ** *ср.* перегрева́ние; *(металла, камня и т. п.— ещё)* перека́ливание; *см.* **пераграва́ць.**

**ПЕРАГРАВА́ЦЦА** *несов. возвр. страд.* перегрева́ться; перека́ливаться; перакаля́ться; *см.* **перагрэ́цца, пераграва́ць.**

**ПЕРАГРАВА́ЦЬ** *несов.* перегрева́ть; *(металл, камень и т. п.— ещё)* перека́ливать, перекаля́ть.

**ПЕРАГРАФІ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* перегра́фи́ть.

**ПЕРАГРАФЛЁНЫ** *в разн. знач.* перегра́флённый.

**ПЕРАГРУЖА́ЛЬНІК** *м. тех.* перегружа́тель

**ПЕРАГРУ́ЖАНАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* перегру́женность.

**ПЕРАГРУ́ЖАНЫ** *в разн. знач.* перегру́женный.

**ПЕРАГРУЖА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* перегружа́ться; *см.* **перагрузі́цца, перагружа́ць.**

**ПЕРАГРУЖА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* перегружа́ть; *см.* **перагрузі́ць.**

**ПЕРАГРУ́ЗАЧНЫ** перегру́зочный.

**ПЕРАГРУЗІ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* перегрузи́ться; **п. з машы́ны на машы́ну** перегрузи́ться с маши́ны на маши́ну; **п. рабо́тай** перегрузи́ться рабо́той.

**ПЕРАГРУЗІ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* перегрузи́ть; **п. тава́р з машы́ны ў ваго́н** перегрузи́ть това́р с маши́ны в ваго́н; **п. ло́дку** перегрузи́ть ло́дку; **п. грама́дскай рабо́тай** перегрузи́ть обще́ственной рабо́той.

**ПЕРАГРУ́ЗКА** *ж. в разн. знач.* перегру́зка.

**ПЕРАГРУНТАВА́НЫ** *жив., тех.* перегрунто́ванный.

**ПЕРАГРУНТАВА́ЦЬ** *сов. жив., тех.* перегрунтова́ть.

**ПЕРАГРУНТО́ЎВАЦЦА** *несов. страд. жив., тех.* перегрунто́вываться.

**ПЕРАГРУНТО́ЎВАЦЬ** *несов. жив., тех.* перегрунто́вывать.

**ПЕРАГРУПАВА́НЫ** перегруппиро́ванный.

**ПЕРАГРУПАВА́ЦЦА** *сов.* перегруппирова́ться.

**ПЕРАГРУПАВА́ЦЬ** *сов.* перегруппирова́ть.

**ПЕРАГРУПО́ЎВАННЕ** *ср.* перегруппиро́вка *ж.*

**ПЕРАГРУПО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* перегруппиро́вываться.

**ПЕРАГРУПО́ЎВАЦЬ** *несов.* перегруппиро́вывать.

**ПЕРАГРУПО́ЎКА** *ж.* перегруппиро́вка; **п. войск** перегруппиро́вка войск.

**ПЕРАГРЫЗА́ЦЦА** *несов. страд.* перегрыза́ться; *см.* **перагрыза́ць.**

**ПЕРАГРЫЗА́ЦЬ** *несов.* **1.** перегрыза́ть; **2.** *(всё, многое)* перегрыза́ть; перегла́дывать.

**ПЕРАГРЫ́ЗЕНЫ** **1.** перегры́зенный; **2.** перегры́зенный; перегло́данный ; 1,2 *см.* **перагры́зці.**

**ПЕРАГРЫ́ЗЦІ** *сов.* **1.** *(грызя, разделить на части)* перегры́зть; **2.** *(всё, многое)* перегры́зть; переглода́ть; **3.** *(всех, многих)* перегры́зть; загры́зть; ◊ **го́рла п.** го́рло (гло́тку) перегры́зть.

**ПЕРАГРЫ́ЗЦІСЯ** *сов. прям., перен.* перегры́зться.

**ПЕРАГРЫМІРАВА́НЫ** перегримиро́ванный.

**ПЕРАГРЫМІРАВА́ЦЦА** *сов.* перегримирова́ться.

**ПЕРАГРЫМІРАВА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* перегримирова́ть.

**ПЕРАГРЫМІРО́ЎВАННЕ** *ср.* перегримиро́вка *ж.*

**ПЕРАГРЫМІРО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* перегримиро́вываться.

**ПЕРАГРЫМІРО́ЎВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* перегримиро́вывать.

**ПЕРАГРЫМІРО́ЎКА** *ж.* перегримиро́вка.

**ПЕРАГРЭ́БЕНЫ** *в разн. знач.* перегребённый.

**ПЕРАГРЭ́БЦІ** *сов. в разн. знач.* перегрести́.

**ПЕРАГРЭ́ТЫ 1.** *прич.* перегре́тый; перекалённый; *см.* **перагрэ́ць; 3.** *прил.* перегре́тый.

**ПЕРАГРЭ́Ў, -рэ́ву** *м. тех.* перегре́в; **п. катло́ў** перегре́в котло́в.

**ПЕРАГРЭ́ЦЦА** *сов.* перегре́ться; *(о маталле, камне и т. п.— ещё)* перекали́ться.

**ПЕРАГРЭ́ЦЬ** *сов.* перегре́ть; *(металл, камень и т. п.— ещё)* перекали́ть.

**ПЕРАГУ́Д, -ду** *м. разг.* перегу́д.

**ПЕРАГУ́КВАННЕ** *ср.* ау́канье.

**ПЕРАГУ́КВАЦЦА** *несов.* перекли́каться, ау́каться.

**ПЕРАГУКНУ́ЦЦА** *сов.* перекли́кнуться, ау́кнуться.

**ПЕРАГУ́ЛЬВАННЕ** *ср.* перейгрывание, переигро́вка *ж.; см.* **перагу́льваць** 3.

**ПЕРАГУ́ЛЬВАЦЦА** *несов. страд.* перейгрываться; *см.* **перагу́льваць** 3.

**ПЕРАГУ́ЛЬВАЦЬ** *несов.* **1.** *(сверх меры)* перегу́ливать; **2.** *(сверх меры)* перейгрывать; **3.** *(играть повторно)* перейгрывать; **4.** *разг. (побеждать в игре)* перейгрывать.

**ПЕРАГУЛЯ́НЫ** перейгранный; *см.* **перагуля́ць** 3.

**ПЕРАГУЛЯ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(сверх меры)* перегуля́ть; **2.** *(сверх меры)* переигра́ть; **3.** *(сыграть повторно)* переигра́ть; **4.** *разг. (победить в игре)* переигра́ть.

**ПЕРАГУСЦІ́** *сов. разг. (кончить гудеть)* отгуде́ть.

**ПЕРАГУСЦІ́ЦЬ** *сов. разг.* перегусти́ть.

**ПЕРАГУ́ШКАЦЦА** *сов. в разн. знач. (на качелях)* перекача́ться.

**ПЕРАГУ́ШКАЦЬ** *сов. (на качелях)* перекача́ть.

**ПЕРАГУ́ШКАНЫ** *разг.* перегу́щённый; *см.* **перагусці́ць.**

**ПЕ́РАД I** *предлог с твор.* **1.** *в разн. знач.* пе́ред, пред; **п. ле́сам** пе́ред ле́сом; **не адступа́ць п. цяжкасцямі** не отступа́ть пе́ред тру́дностями; **2.** *(по сравнению)* пе́ред, пред, в сравне́нии с; **яны́ нішто́ п. ім** они́ ничто́ (в сравне́нии с) ним; **3.** *(во временном знач.)* пре́жде *(чего); (при обозначении времени действия — ещё)* на́; **п. усі́м** пре́жде всего́; **п. за́хадам со́нца** на зака́те (со́лнца).

**ПЕ́РАД II, -ду** *сущ. м.* **1.** перёд; *(в телеге, санях — ещё)* передо́к; **п. суке́нкі** перёд пла́тья; **2.** *сапож.* перёд.

**ПЕ́РАДА** *предл. с твор. (употребляется только в сочетании: «перада мною»)* пе́редо.

**ПЕРАДАБАРО́НА** *ж. (диссертации, проекта и т. д.)* предзащи́та.

**ПЕРАДАБЕ́ДЗЕНЫ** предобе́денный, передобе́денный.

**ПЕРАДАВА́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* передава́ться; *см.* **перада́цца; 2.** *страд.* передава́ться; *см.* **перадава́ць** 1.

**ПЕРАДАВА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* передава́ть; **2.** *разг. (переходить границы должного)* пере-ба́рщивать; перехва́тывать; 1,2 *см.* **перада́ць.**

**ПЕРАДАВА́Я** *сущ. воен.* передова́я.

**ПЕРАДАВЕ́РАНЫ** передове́ренный.

**ПЕРАДАВЕ́Р'Е** *ср.* передове́рие.

**ПЕРАДАВЕ́РЫЦЬ** *сов.* передове́рить.

**ПЕРАДАВІ́К, -ка́** *м.* передови́к; **~кі́ сацыялісты́чнай вытво́рчасці** передовики́ социалисти́ческого произво́дства.

**ПЕРАДАВЫ́** *в разн. знач.* передово́й; **~ва́я саве́цкая наву́ка** передова́я сове́тская нау́ка; **п. арты́кул** передова́я статья́; **~вы́я пазі́цыі** передовы́е пози́ции.

**ПЕРАДАВЯРА́ЦЦА** *несов. страд.* передоверя́ться.

**ПЕРАДАВЯРА́ЦЬ** *несов.* передоверя́ть.

**ПЕРАДАД'Е́ЗНЫ** предотъе́здный.

**ПЕРАДА́ДЗЕНЫ** *в разн. знач.* пе́реданный; *см.* **перада́ць** 1.

**ПЕРАДАДЛЁТНЫ** предотлётный.

**ПЕРАДАЗІРО́ЎКА** *ж.* передозиро́вка.

**ПЕРАДАІ́ЦЬ** *сов. разг. в разн. знач.* передо́йть.

**ПЕРАДАЛІМПІ́ЙСКІ** предолимпи́йский.

**ПЕ́РАДАМ** *нареч. разг.* пе́редом.

**ПЕРАДАПЕРАЦЫ́ЙНАЯ** *сущ. мед.* предоперацио́нная.

**ПЕРАДАПЕРАЦЫ́ЙНЫ** *мед.* предоперацио́нный.

**ПЕРАДАПО́ШНІ** предпосле́дний.

**ПЕРАДАПЫТА́НЫ** передопро́шенный.

**ПЕРАДАПЫТА́ЦЬ** *сов.* передопроси́ть.

**ПЕРАДАПЫ́ТВАЦЦА** *несов. страд.* передопра́шиваться.

**ПЕРАДАПЫ́ТВАЦЬ** *несов.* передопра́шивать.

**ПЕРАДАРУ́ЧАНЫ** перепору́ченный; передове́ренный; *см.* **перадаручы́ць.**

**ПЕРАДАРУЧА́ЦЦА** *несов. страд.* перепоруча́ться; передоверя́ться; *см.* **перадаруча́ць.**

**ПЕРАДАРУЧА́ЦЬ** *несов.* перепоруча́ть; передоверя́ть; *см.* **перадаручы́ць.**

**ПЕРАДАРУЧЫ́ЦЬ** *сов.* перепоручи́ть; передове́рить; **п. спра́ву** перепоручи́ть (передове́рить) де́ло.

**ПЕРАДАРЫ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* передари́ть.

**ПЕРАДАСЕ́ННІ** предосе́нний.

**ПЕРАДА́ТАЧНЫ** *в разн. знач.* переда́точный; **п. вал** переда́точный вал; **п. акт** переда́точный акт; **~ная інста́нцыя** переда́точная инста́нция; **п. на́дпіс** *фин.* переда́точная на́дпись; **п. лік** *мат.* переда́точное число́; **п. біле́т** *ж.-д.* переда́точный биле́т.

**ПЕРАДА́ТЧЫК** *м. в разн. знач.* переда́тчик.

**ПЕРАДА́ТЧЫЦА** *ж.* переда́тчица.

**ПЕРАДАЎЖЫ́ЦЬ** *сов. разг.* сде́лать сли́шком дли́нным.

**ПЕРАДА́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* переда́ться.

**ПЕРАДА́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* переда́ть; **п. запі́ску** переда́ть запи́ску; **п. зямлю́ сяля́нам у ве́чнае карыста́нне** переда́ть зе́млю крестья́нам в ве́чное по́льзование; **п. сваё пра́ва на маёмасць** переда́ть своё пра́во на иму́щество; **п. мяч на пра́вы край** переда́ть мяч на пра́вый край; **п. ве́ды** перада́ць зна́ния; **п. прывіта́нне** переда́ть приве́т; **п. ду́мку а́ўтара** переда́ть мысль а́втора; **арты́ст до́бра ~да́ў перажыва́нні Га́млета** арти́ст хоро-

шó передáл переживáния Гáмлета; **п. па рáдыё** передáть по рáдио; **п. зарáзу** передáть зарáзу; **п. спрáву ў суд** передáть дéло в суд; **п. лішніх пяць рублёў** передáть лúшних пять рублéй; **2.** *разг. (перейти границы должного)* переборщúть; перехватúть; **тут ён занáдта ~дáў** здесь он переборщúл (перехватúл).

**ПЕРАДÁЧА** *ж. в разн. знач.* передáча; **атрымáць ~чу** получúть перадáчу; **п. перахóднага сцяга** передáча переходя́щего знáмени; **п. па рáдыё** передáча по рáдио; **зубчáстая п.** *тех.* зубчáтая передáча; **п. мячá іграку́** передáча мячá игрокý; ○ **карóбка ~ч** корóбка передáч.

**ПЕРАДБАЯВЫ́** предбоевóй.

**ПЕРАДБРУШЫ́ННЫ** *анат.* предбрюшúнный.

**ПЕРАДВАЁННЫ** предвоённый.

**ПЕРАДВАІ́ЦЬ** *сов. с.-х.* передвоúть.

**ПЕРАДВЕЛІКÓДНЫ** предпасхáльный; ○ **п. ты́дзень** *церк.* страстнáя недéля.

**ПЕРАДВЕСНАВЫ́** предвесéнний.

**ПЕРАДВÓЕНЫ** *с.-х.* передвоённый.

**ПЕРАДВÓЙВАЦЦА** *несов. страд. с.-х.* передвáиваться.

**ПЕРАДВÓЙВАЦЬ** *несов. с.-х.* передвáивать.

**ПЕРАДВÓРЫЎНЫ** предпáхотный.

**ПЕРАДВЫ́БАРНЫ** предвы́борный.

**ПЕРАДВЫХАДНЫ́** предвыходнóй.

**ПЕРАДВЯСÉЛЬНЫ** предсвáдебный.

**ПЕРАДВЯСÉННІ** *см.* **перадвеснавы́.**

**ПЕРАДВЯЧЭ́РНІ** предвечéрний; предзакáтный.

**ПЕРАДГІСТАРЫ́ЧНЫ** предысторúческий.

**ПЕРАДГІСТÓРЫЯ** *ж.* предыстóрия.

**ПЕРАДГÓР'Е** *ср.* предгóрье.

**ПЕРАДГÓРНЫ** предгóрный.

**ПЕРАДДЗВÉР'Е** *ср. анат.* преддвéрие; **п. у вушны́м лабіры́нце** преддвéрие в ушнóм лабирúнте.

**ПЕРАДДРУКÁРСКІ** предпечáтный; **~кая падрыхтóўка** предпечáтная подготóвка.

**ПЕРАДДЫПЛÓМНЫ** преддиплóмный.

**ПЕРАДЗ'ÉЗДАЎСКІ** предсъéздовский.

**ПЕРАДЗÉЛ, -лу** *м.* передéл; **п. зямлí** передéл землú.

**ПЕРАДЗÉЛЕНЫ** *в разн. знач.* переделённый.

**ПЕРАДЗÉЛЬВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* переделя́ться; *см.* **перадзялíцца, перадзéльваць.**

**ПЕРАДЗÉЛЬВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* переделя́ть.

**ПЕРАДЗÉРЦІ** *сов. см.* **перадрáць.**

**ПЕРАДЗÉРЦЦА** *сов. см.* **перадрáцца.**

**ПЕРАДЗЁРТЫ** *см.* **перадрáны.**

**ПЕРАДЗІ́МНІ** *см.* **перадзімóвы.**

**ПЕРАДЗІМÓВЫ** предзúмний.

**ПЕРАДЗІ́Р, -ру** *м. спец.* передúр.

**ПЕРАДЗІРÁЦЦА** *несов. страд.* перерывáться; обдирáться; перетирáться; *см.* **перадзірáць.**

**ПЕРАДЗІРÁЦЬ** *несов.* **1.** перерывáть; **2.** *спец.* обдирáть, произво-

дить обдирку; **3.** *(на тёрке)* перетирать.

**ПЕРАДЗЯЛІЦЦА** *сов. разг.* переделиться.

**ПЕРАДЗЯЛІЦЬ** *сов. в разн. знач.* переделить.

**ПЕРАДЗЯЎБАНЫ 1.** переклёванный; **2.** передолблённый.

**ПЕРАДЗЯЎБАЦЬ** *сов. см.* **перадзяўбці.**

**ПЕРАДЗЯЎБЦІ** *сов.* **1.** переклевать; **2.** передолбить.

**ПЕРАДЗЯЎБЦІСЯ** *сов. разг.* переклеваться.

**ПЕРАДІНФАРКТНЫ** *мед.* предынфарктный.

**ПЕРАДКАМЕРА** *тех.* предкамера.

**ПЕРАДКАМЕРНЫ** *тех.* предкамерный.

**ПЕРАДКАСТРЫЧНІЦКІ** предоктябрьский.

**ПЕРАДКІ** *см.* **перады.**

**ПЕРАДКЛІНІЧНЫ** предклинический; **прэпарат не прайшоў ~нага даследавання** препарат не прошёл предклинического исследования.

**ПЕРАДКОВЫ** передковый.

**ПЕРАДКРЫЗІСНЫ** предкризисный.

**ПЕРАДКРЫЛАК, -лка** *м. ав.* предкрылок.

**ПЕРАДМАБІЛІЗАЦЫЙНЫ** предмобилизационный.

**ПЕРАДМАЙСКІ** предмайский.

**ПЕРАДМАСТАВЫ** предмостный; **~вое ўмацаванне** *воен.* предмостное укрепление.

**ПЕРАДМАЦЕРЫКОВЫ** предматериковый.

**ПЕРАДМОСЦЕ** *ср.* предмостье.

**ПЕРАДНАВАГОДНІ** предновогодний.

**ПЕРАДНАВАЛЬНІЧНЫ** предгрозовой.

**ПЕРАДНАЦІСКНЫ** *лингв.* предударный.

**ПЕРАДНЕПРЫТОМНАСНЫ** *мед.* предобморочный.

**ПЕРАДНЕРАСТАВЫ** преднерестовый.

**ПЕРАДНЫРКА** *ж. анат.* предпочка.

**ПЕРАДНЯВАЦЬ** *сов. разг.* передневать.

**ПЕРАДНЯДЗЕЛЬНЫ** предвоскресный; **н. настрой** предвоскресное настроение.

**ПЕРАДОЕНЫ** *разг. в разн. знач.* передоенный.

**ПЕРАДОЙВАННЕ** *ср.* передаивание.

**ПЕРАДОЙВАЦЬ** *несов. разг. в разн. знач.* передаивать.

**ПЕРАДОЙКА** *ж. (яловая корова)* яловица, яловка.

**ПЕРАДОК, -дка** *м. в разн. знач.* передок.

**ПЕРАДОПЫТ, -ту** *м.* передопрос.

**ПЕРАДОРАНЫ** передаренный.

**ПЕРАДОРВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* передаривать.

**ПЕРАДОЎЖАНЫ** *разг.* сделанный длиннее, чем нужно.

**ПЕРАДОЎЖВАЦЦА** *несов. страд. разг.* делаться слишком длинным.

**ПЕРАДОЎЖВАЦЬ** *несов. разг.* делать слишком длинным.

**ПЕРАДОХНУЦЬ** *сов. разг.* передохнуть, переколеть.

**ПЕРАДПАЗВАНОЧНЫ** *анат.* предпозвоночный.

**ПЕРАДПАЛЁТНЫ** предполётный.

**ПЕРАДПАЛЯРНЫ** предполярный.

**ПЕРАДПАСА́ДАЧНЫ** предпоса́дочный.

**ПЕРАДПАСЯЎНЫ́** *с.-х.* предпосевно́й.

**ПЕРАДПАЧА́ТАК, -тку** *м.* преддве́рие *ср.*; **п. рэвалю́цыі** преддве́рие револю́ции.

**ПЕРАДПЕНСІЁННЫ** предпенсио́нный.

**ПЕРАДПЛЕЧАВЫ́** *анат.* предплечево́й.

**ПЕРАДПЛЕ́ЧЧА** *ср. анат.* предпле́чье.

**ПЕРАДПЛУ́ЖНІК** *м. с.-х.* предплу́жник.

**ПЕРАДПЛЮСНА́** *ж. анат.* предплюсна́.

**ПЕРАДПЛЮСНЯВЫ́** *анат.* предплюснево́й.

**ПЕРАДПО́ЛЛЕ** *ср. воен.* предпо́лье.

**ПЕРАДПУСКАВЫ́** *тех.* предпусково́й.

**ПЕРАДПЯ́СЦЕ** *ср. анат.* предпя́стье.

**ПЕРАДРАБНІ́ЦЬ** *сов. разг.* чересчу́р измельчи́ть.

**ПЕРАДРА́ЖНЕНЫ** передразнённый; пересме́янный.

**ПЕРАДРА́ЖНІВАННЕ** *ср.* передра́знивание; пересме́ивание.

**ПЕРАДРА́ЖНІВАЦЬ** *несов.* передра́знивать; пересме́ивать.

**ПЕРАДРАЖНІ́ЦЬ** *сов.* передразни́ть; пересмея́ть.

**ПЕРАДРА́КАВЫ** предра́ковый.

**ПЕРАДРАМА́ЦЬ** *сов. разг.* передрема́ть.

**ПЕРАДРА́НІШНІ** преду́тренний.

**ПЕРАДРА́НЫ 1.** перéрванный; **2.** перéрванный; изо́рванный; **3.** *спец.* обо́дранный; **4.** перетёртый; 1—4 *см.* **перадра́ць** 1—4.

**ПЕРАДРА́ПАНЫ** перецара́панный.

**ПЕРАДРА́ПАЦЬ** *сов.* перецара́пать.

**ПЕРАДРА́ПВАЦЬ** *несов.* перецара́пывать.

**ПЕРАДРА́ЦЦА** *сов.* **1.** перерва́ться; **2.** перерва́ться; изорва́ться.

**ПЕРАДРА́ЦЬ** *сов.* **1.** перерва́ть; **2.** *(всё, многое)* перерва́ть; изорва́ть; **3.** *спец.* ободра́ть; произвести́ обди́рку; **4.** *(на тёрке)* перетере́ть; **5.** *(всех, многих)* задра́ть.

**ПЕРАДРО́ДАВЫ** предродово́й.

**ПЕРАДРУ́К, -ку** *м. в разн. знач.* перепеча́тка *ж.*; **п. на пі́шучай машы́нцы** перепеча́тка на пи́шущей маши́нке; **гэ́та не пе́ршая публіка́цыя, а. п.** э́то не пе́рвая публика́ция, а перепеча́тка.

**ПЕРАДРУКАВА́НЫ** *в разн. знач.* перепеча́танный; *см.* **перадрукава́ць.**

**ПЕРАДРУКАВА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* перепеча́тать; **інфармáцыю ~ва́лі ўсе газе́ты** информа́цию перепеча́тали все газе́ты; **п. на пі́шучай машы́нцы** перепеча́тать на пи́шущей маши́нке.

**ПЕРАДРУКО́ЎВАННЕ** *ср.* перепеча́тывание, перепеча́тка *ж.; см.* **перадрукóўваць.**

**ПЕРАДРУКО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* перепеча́тываться; *см.* **перадрукóўваць.**

**ПЕРАДРУКО́ЎВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* перепеча́тывать; *см.* **перадрукава́ць.**

**ПЕРАДРЫЖА́ЦЬ** *сов. разг.* перетрясти́сь.

**ПЕРАДРЭВАЛЮЦЫ́ЙНЫ** предреволюцио́нный.

**ПЕРАДРЭ́ЙСАВЫ** предре́йсовый; **п. агля́д аўто́бусаў** предре́йсовый осмо́тр авто́бусов.

**ПЕРАДСАРДЭ́ЧНЫ** *анат.* предсерде́чный.

**ПЕРАДСВІТА́ЛЬНЫ** предрассве́тный, передрассве́тный.

**ПЕРАДСВЯТО́ЧНЫ** предпра́здничный.

**ПЕРАДСЕЗО́ННЫ** предсезо́нный.

**ПЕРАДСЕНАКО́СНЫ** предсеноко́сный.

**ПЕРАДСЕСІ́ЙНЫ** предсессио́нный; **~нае пасяджэ́нне** предсессио́нное заседа́ние.

**ПЕРАДСМЯРО́ТНЫ** предсме́ртный; **п. час** предсме́ртный час.

**ПЕРАДСТА́РТАВЫ** предста́ртовый.

**ПЕРАДСТАРЭ́ЧЫ** *мед.* предста́рческий.

**ПЕРАДСТЭ́П, -пу** *м. геогр.* предсте́пье *ср.*

**ПЕРАДСЭ́РДЗЕ** *ср. анат.* предсе́рдие.

**ПЕРАДСЭ́РДЗЕВЫ** *анат.* предсе́рдиевый.

**ПЕРАДУБІ́ЦЬ** *сов. спец.* передуби́ть.

**ПЕРАДУБО́РАЧНЫ** *с.-х.* предубо́рочный.

**ПЕРАДУ́ЖАЦЦА** *сов. разг.* переборо́ться.

**ПЕРАДУ́ЖАЦЬ** *сов. разг. (кого-л.)* переборо́ть, переси́лить, одоле́ть.

**ПЕРАДУ́ЖВАЦЬ** *несов. разг. (кого-л.)* переба́рывать, переси́ливать, одолева́ть.

**ПЕРАДУЗЯ́ТАСЦЬ** *ж. см.* **прадузя́тасць.**

**ПЕРАДУЗЯ́ТЫ** *см.* **прадузя́ты.**

**ПЕРАДУ́МАНЫ** переду́манный; *см.* **пераду́мацъ** 2.

**ПЕРАДУ́МАЦЬ** *сов.* **1.** *(изменить решение)* переду́мать, разду́мать; **2.** *(обдумать многое или много раз)* переду́мать.

**ПЕРАДУ́МВАЦЬ** *несов.* **1.** *(изменять решение)* переду́мывать, разду́мывать; **2.** *(обдумывать многое или много раз)* переду́мывать.

**ПЕРАДУМО́ВА** *ж. (предварительное условие)* предпосы́лка.

**ПЕРАДУ́ШАНЫ I 1.** переда́вленный; перемя́тый; **2.** переду́шенный, переда́вленный; перере́занный; 1,2 *см.* **перадушы́ць I.**

**ПЕРАДУ́ШАНЫ II** *разг.* переду́шенный; *см.* **перадушы́ць II.**

**ПЕРАДУ́ШВАЦЦА** *несов. страд.* переда́вливаться; перемина́ться; *см.* **перадушваць 1.**

**ПЕРАДУ́ШВАЦЬ** *несов. (всё, многое или всех, многих)* **1.** переда́вливать; *(ягоды и т. п.— ещё)* перемина́ть; **2.** *(умерщвлять)* души́ть, переда́вливать; *(загрызать кого-л.— о волке)* ре́зать.

**ПЕРАДУШЫ́ЦЦА I** *сов. (обо всём, многом)* передави́ться; *(о ягодах и т. п.— ещё)* перемя́ться.

**ПЕРАДУШЫ́ЦЦА II** *сов. разг. (духами)* передуши́ться.

**ПЕРАДУШЫ́ЦЬ I** *сов. (всё, многое или всех, многих)* **1.** передави́ть; *(ягоды и т. п.— ещё)* перемять; **2.** *(умертвить)* передуши́ть, передави́ть; *(загрызть кого-л.— о волке)* перере́зать.

**ПЕРАДУШЫ́ЦЬ II** *сов. разг. (духами)* передуши́ть.

**ПЕРАДФІНА́ЛЬНЫ** предфина́льный.

**ПЕРАДЫ́,** *ед.* **пе́рад** *м. сапож.* переда́.

**ПЕРАДЫСКАНТАВА́ННЕ** *ср.* переучёт *м.; см.* **перадыскантава́ць.**

**ПЕРАДЫСКАНТАВА́НЫ** *(о векселе)* переучтённый.

**ПЕРАДЫСКАНТАВА́ЦЬ** *сов. (вексель)* переучесть.

**ПЕРАДЫСКАНТО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* переучитываться; *см.* **перадыскантоўваць.**

**ПЕРАДЫСКАНТО́ЎВАЦЬ** *несов. (вексель)* переучитывать.

**ПЕРАДЫСКО́НТНЫ** *(относящийся к переучёту векселя)* переучётный.

**ПЕРАДЫСЛАКА́ЦЫЯ** *ж. воен.* передислокация.

**ПЕРАДЫСЛАЦЫ́РАВАНЫ** *воен.* передислоцированный.

**ПЕРАДЫСЛАЦЫ́РАВАЦЦА** *сов. и несов. воен.* передислоцироваться.

**ПЕРАДЫСЛАЦЫ́РАВАЦЬ** *сов. и несов. воен.* передислоцировать.

**ПЕРАДЫ́Х, -ху** *м. разг. прям., перен.* передышка, передых.

**ПЕРАДЫХА́ЦЬ** *несов. разг. (делать передышку)* передыхать.

**ПЕРАДЫХНУ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* передохнуть.

**ПЕРАДЫ́ШКА** *ж. прям., перен.* передышка.

**ПЕРАДЭКЗАМЕНАЦЫ́ЙНЫ** предэкзаменационный.

**ПЕРАЕ́ДЗЕНЫ** переёденный; изъеденный.

**ПЕРАЕ́ЗД** *м.* **1.** *род.* **пераезду** *(действие)* переезд; **п. у но́вы дом** переезд в новый дом; **2.** *род.* **пераезда** *(место)* переезд; **до́ўгі п.** длинный переезд; **чыгу́начны п.** железнодорожный переезд.

**ПЕРАЕ́ЗДЗІЦЬ** *сов.* переездить.

**ПЕРАЕ́ЗНЫ** переездный; ◊ **~ная сва́ццця** переезжая сваха.

**ПЕРАЕ́МНА** *нареч.* преемственно.

**ПЕРАЕ́МНАСЦЬ** *ж.* преемственность.

**ПЕРАЕ́МНІК** *м.* преемник.

**ПЕРАЕ́МНІЦА** *ж.* преемница.

**ПЕРАЕ́МНЫ** преемственный.

**ПЕРАЕ́СЦІ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* переесть; *(о ржавчине — ещё)* изъесть; **дзіця́ пераелa** ребёнок переел; **іржа́ пераелa жале́за** ржавчина переела (изъела) железо; **2.** *(всё, многое, в несколько приёмов)* переесть, съесть; **п. ўсю бу́льбу** переесть всю картошку; ◊ **п. нутро́ (вантро́бы)** вымотать кишки.

**ПЕРАЕ́ХАЦЬ** *сов. в разн. знач.* переехать; **п. ву́ліцу** переехать улицу; **машы́на ~хала чалаве́ка** машина переехала человека; **п. на другу́ю кватэ́ру** переехать на другую квартиру.

**ПЕРАЖАВА́НЫ** пережёванный; *см.* **пержава́ць.**

**ПЕРАЖАВА́ЦЬ** *сов.* пережевать; *см.* **пережо́ўваць** 1.

**ПЕРАЖАГНА́ЦЦА** *сов.* перекреститься.

**ПЕРАЖАГНА́ЦЬ** *сов.* перекрестить.

**ПЕРАЖАНІ́ЦЦА** *сов.* пережениться.

**ПЕРАЖАНІ́ЦЬ** *сов.* переженить.

**ПЕРАЖА́ТЫ** пережатый; *см.* **пераж́аць** 3.

**ПЕРАЖАЎЦІ́ЦЬ** *сов. разг.* пережелтить.

**ПЕРАЖА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(сжать больше положенного)* пережать; **2.** перегнать в жатве; **3.** *(всё, многое)* пережать; **ко́лькі я пераж́ала жы́та!** сколько я пережала ржи!

**ПЕРАЖЛУ́КЦІЦЬ** *сов.* **1.** перебучить; **2.** *(всё, многое)* выбучить; **3.**

*(всё, многое) перен. прост.* вы́дуть, вы́хлестать.

**ПЕРАЖЛУ́КЧАНЫ 1.** перебу́ченный; **2.** вы́бученный; *см.* **пераЖлу́кціць** 2.

**ПЕРАЖЛУ́КЧВАЦЬ** *несов.* **1.** перебу́чивать **2.** *(всё, многое)* выбу́чивать.

**ПЕРАЖО́ЎВАННЕ** *ср.* **1.** пережёвывание; **2.** *перен.* пережёвывание; 1,2 *см.* **пераЖо́ўваць.**

**ПЕРАЖО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* пережёвываться; *см.* **пераЖо́ўваць.**

**ПЕРАЖО́ЎВАЦЬ** *несов.* **1.** пережёвывать; **п. е́жу** пережёвывать пи́щу; **2.** *перен.* пережёвывать; **п. усі́м вядо́мыя і́сціны** пережёвывать всем изве́стные и́стины.

**ПЕРАЖО́ЎЧАНЫ** *разг.* пережелчённый.

**ПЕРАЖРА́ЦЬ** *сов. груб.* пережра́ть.

**ПЕРАЖЫВА́ННЕ** *ср.* пережива́ние; **цяжкія ~нні** тяжёлые пережива́ния.

**ПЕРАЖЫВА́ЦЦА** *несов. страд.* пережива́ться; *см.* **пераЖыва́ць.**

**ПЕРАЖЫВА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* пережива́ть; *см.* **пераЖы́ць** 1.

**ПЕРАЖЫНА́ЦЬ** *несов. (сжинать больше положенного)* пережина́ть.

**ПЕРАЖЫ́ТАЕ** *сущ.* пережи́тое.

**ПЕРАЖЫ́ТАК, -тку** *м.* пережи́ток; **барацьба́ з ~ткамі** борьба́ с пережи́тками.

**ПЕРАЖЫ́ТАЧНЫ** пережи́точный.

**ПЕРАЖЫ́ТЫ 1.** *в разн. знач.* пе́режи́тый; **2.** испы́танный, пе́режи́тый; 1,2 *см.* **пераЖы́ць.**

**ПЕРАЖЫ́ЦЦА** *сов.* пережи́ться.

**ПЕРАЖЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* пережи́ть; **п. вялі́кую ра́дасць** пережи́ть большу́ю ра́дость; **п. каго-не́будзь** пережи́ть кого́-л.; **ён не мог п. абра́зы** он не мог пережи́ть оскорбле́ния; **2.** *(многое)* испыта́ть, пережи́ть; перечу́вствовать; ◊ **п. (само́га) сябе́** пережи́ть (самого́) себя́.

**ПЕРАЖЭ́РЦІ** *сов. груб. см.* **пераЖра́ць.**

**ПЕРАЗАЙМА́ЦЦА** *сов. разг.* перезанима́ться.

**ПЕРАЗАКА́З, -зу** *м.* перезака́з.

**ПЕРАЗАКЛА́Д, -ду** *м.* перезакла́д, перезало́г.

**ПЕРАЗАКЛАДА́ЦЦА** *несов. страд.* перезакла́дываться.

**ПЕРАЗАКЛАДА́ЦЬ** *несов.* перезакла́дывать.

**ПЕРАЗАКЛА́ДВАЦЦА** *несов. страд. см.* **перазакладаа́цца.**

**ПЕРАЗАКЛА́ДВАЦЬ** *несов. см.* **перазаклада́ць.**

**ПЕРАЗАКЛА́СЦІ** *сов.* перезаложи́ть.

**ПЕРАЗАКЛЮ́ЧАНЫ** перезаключённый.

**ПЕРАЗАКЛЮЧА́ЦЦА** *несов. страд.* перезаключа́ться.

**ПЕРАЗАКЛЮЧА́ЦЬ** *несов.* перезаключа́ть.

**ПЕРАЗАКЛЮЧЫ́ЦЬ** *сов.* перезаключи́ть.

**ПЕРАЗАКЛЮЧЭ́ННЕ** *ср.* перезаключе́ние.

**ПЕРАЗАЛАЖЫ́ЦЬ** *сов.* перезаложи́ть; **п. рэ́чы** перезаложи́ть ве́щи.

**ПЕРАЗАЛАЦІ́ЦЬ** *сов.* перезолоти́ть.

**ПЕРАЗАЛІ́ЦЦА** *сов. спец.* перезоли́ться.

**ПЕРАЗАЛІ́ЦЬ** *сов. спец.* перезоли́ть.

**ПЕРАЗАЛО́Г, -гу** *м.* перезало́г, перезакла́д.

**ПЕРАЗАЛО́ЖАНЫ** перезало́женный.

**ПЕРАЗАЛО́ЧАНЫ** перезоло́ченный.

**ПЕРАЗАМАЦАВА́ННЕ** *ср.* перекрепле́ние.

**ПЕРАЗАМАЦАВА́НЫ** перекреплённый.

**ПЕРАЗАМАЦАВА́ЦЬ** *сов.* перекрепи́ть.

**ПЕРАЗАМАЦО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* перекрепля́ться.

**ПЕРАЗАМАЦО́ЎВАЦЬ** *несов.* перекрепля́ть.

**ПЕРАЗАРА́Д, -ду** *м. физ.* переза-ря́д.

**ПЕРАЗАРА́ДЖАНЫ** перезаря́женный.

**ПЕРАЗАРАДЖА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* перезаряжа́ться; *см.* **перазарадзíцца, перазараджа́ць.**

**ПЕРАЗАРАДЖА́ЦЬ** *несов.* перезаряжа́ть.

**ПЕРАЗАРАДЖЭ́ННЕ** *ср.* перезаряже́ние.

**ПЕРАЗАРАДЗÍЦЦА** *сов.* перезаряди́ться.

**ПЕРАЗАРАДЗÍЦЬ** *сов.* перезаряди́ть.

**ПЕРАЗАРА́ДКА** *ж.* перезаря́дка.

**ПЕРАЗАЦВЕ́РДЖАНЫ** переутверждённый.

**ПЕРАЗАЦВЕ́РДЗІЦЬ** *сов.* переутверди́ть.

**ПЕРАЗАЦВЯРДЖА́ЦЬ** *несов.* переутвержда́ть.

**ПЕРАЗАЦВЯРДЖЭ́ННЕ** *ср.* переутвержде́ние.

**ПЕРАЗВАНÍЦЦА** *сов.* перезвони́ться.

**ПЕРАЗВАНÍЦЬ** *сов. в разн. знач.* перезвони́ть.

**ПЕРАЗВО́Н, -ну** *м.* перезво́н; трезво́н *(колоколов).*

**ПЕРАЗВО́НЬВАННЕ** *ср.* перезва́нивание.

**ПЕРАЗВО́НЬВАЦЦА** *несов. в разн. знач.* перезва́ниваться.

**ПЕРАЗВО́НЬВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* перезва́нивать.

**ПЕРАЗДАВА́ННЕ** *ср. (неоконч. действие)* переда́ча *ж.*

**ПЕРАЗДАВА́ЦЦА** *несов. страд.* пересдава́ться; *см.* **пераздава́ць.**

**ПЕРАЗДАВА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* пересдава́ть; *см.* **перазда́ць.**

**ПЕРАЗДА́ДЗЕНЫ** *в разн. знач.* пересда́нный; *см.* **перазда́ць.**

**ПЕРАЗДАРО́ЎКАЦЦА** *сов. разг.* перездоро́ваться.

**ПЕРАЗДА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* пересда́ть; **п. экза́мен** пересда́ть экза́мен; **п. пако́й** пересда́ть ко́мнату; **п. ка́рты** пересда́ть ка́рты.

**ПЕРАЗДА́ЧА** *ж. в разн. знач.* пересда́ча; *см.* **перазда́ць.**

**ПЕРАЗДЫ́МАК, -мка** *м. фото (снимок, полученный при пересъёмке)* пересни́мок.

**ПЕРАЗДЫМА́ННЕ** *ср.* пересъёмка.

**ПЕРАЗДЫМА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* пересннма́ться; *см.* **перазня́цца, пераздыма́ць.**

**ПЕРАЗДЫМА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* переснима́ть; *см.* **пеpaзня́ць 1.**

**ПЕРАЗДЫ́МКА** *ж.* пересъёмка.

**ПЕРАЗІМАВА́НЫ** перезимова́вший; прокóрмленный зи́му.

**ПЕРАЗІМАВА́ЦЬ** *сов.* перезимова́ть.

**ПЕРАЗІМО́ЎВАЦЬ** *несов.* перезимо́вывать.

**ПЕРАЗІМО́ЎКА** *ж.* перезимо́вка.

**ПЕРАЗІРНУ́ЦЦА** *сов.* переглянуться.

**ПЕРАЗМЕ́НКА** *ж.* пересме́нка.

**ПЕРАЗНАЁМІЦЦА** *сов.* перезнако́миться.

**ПЕРАЗНАЁМІЦЬ** *сов.* перезнако́мить.

**ПЕРАЗНІМА́ННЕ** *ср. см.* **пераздыма́нне.**

**ПЕРАЗНІМА́ЦЦА** *несов. возвр., страд. см.* **пераздыма́цца.**

**ПЕРАЗНІМА́ЦЬ** *несов. см.* **пераздыма́ць.**

**ПЕРАЗНЯ́ТЫ** *в разн. знач.* пересня́тый; *см.* **перазня́ць.**

**ПЕРАЗНЯ́ЦЦА** *сов.* пересня́ться.

**ПЕРАЗНЯ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* пересня́ть; **п. сцэ́ну фі́льма** пересня́ть сце́ну фи́льма; **п. ко́пію** пересня́ть ко́пию.

**ПЕРАЗО́Л, -лу** *м. спец.* перезо́л.

**ПЕРАЗО́ЛЕНЫ** *спец.* перезолённый; *см.* **пераза́ліць.**

**ПЕРАЗЯ́БНУЦЬ** *сов. разг.* перезя́бнуть, передро́гнуть.

**ПЕРАІ́ГРЫВАННЕ** *ср.* переи́грывание; *см.* **пераі́грываць.**

**ПЕРАІ́ГРЫВАЦЦА** *несов. страд.* переи́грываться; *см.* **пераі́грываць.**

**ПЕРАІ́ГРЫВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* переи́грывать; *см.* **перайгра́ць.**

**ПЕРАІНСТРУМЕНТАВА́ЦЬ** *сов. муз.* переинструментова́ть.

**ПЕРАІНСТРУМЕНТО́ЎВАЦЦА** *несов. страд. муз.* переинструменто́вываться.

**ПЕРАІНСТРУМЕНТО́ЎВАЦЬ** *несов. муз.* переинструменто́вывать.

**ПЕРАІНСТРУМЕНТО́ЎКА** *ж. муз.* переинструменто́вка.

**ПЕРАЙГРА́НЫ** *в разн. знач.* переи́гранный.

**ПЕРАЙГРА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* переигра́ть; **п. п'е́су на ра́ялі** переигра́ть пье́су на роя́ле; **тэа́тр ~ра́ў уве́сь рэпертуа́р сезо́на** теа́тр переигра́л весь репертуа́р сезо́на; **арты́ст тут ~ра́ў** арти́ст здесь переигра́л.

**ПЕРАЙМА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* подража́тельность.

**ПЕРАЙМА́ЛЬНІК** *м.* подража́тель.

**ПЕРАЙМА́ЛЬНІЦА** *ж.* подража́тельница.

**ПЕРАЙМА́ЛЬНІЦКІ** подража́тельский.

**ПЕРАЙМА́ЛЬНІЦТВА** *ср.* подража́тельство.

**ПЕРАЙМА́ЛЬНЫ** подража́тельный.

**ПЕРАЙМА́ННЕ** *(каго-чаго) ср.* **1.** перенима́ние, остано́вка *ж.*; **2.** перенима́ние, перехва́тывание, перехва́т *м.*; **3.** перенима́ние, перехва́т *м.*; **4.** перенима́ние, подража́ние *(кому-чему)* сле́дование *(чему)*; **5.** усва́ивание; 1—5 *см.* **перайма́ць.**

**ПЕРАЙМА́ЦЦА** *несов. страд.* перенима́ться, остана́вливаться; перехва́тываться; усва́иваться; *см.* **перайма́ць.**

**ПЕРАЙМА́ЦЬ** *(каго-што) несов.* **1.** перенима́ть, остана́вливать; **2.** *(из рук в руки)* перенима́ть, перехва́тывать; **3.** перенима́ть, перехва́тывать; **4.** перенима́ть, подража́ть *(кому-чему)*, сле́довать *(чему)*; **5.** перенима́ть, усва́ивать; 1—5 *см.* **пераня́ць.**

**ПЕРАЙМЕНАВА́ННЕ** *ср.* переименова́ние.

**ПЕРАЙМЕНАВА́НЫ** переимено́ванный; *см.* **перайменава́ць.**

**ПЕРАЙМЕНАВА́ЦЦА** *сов.* переименова́ться.

**ПЕРАЙМЕНАВА́ЦЬ** *сов.* переименова́ть.

**ПЕРАЙМЯНО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* переимено́вываться; *см.* **пераймяно́ўваць.**

**ПЕРАЙМЯНО́ЎВАЦЬ** *несов.* переимено́вывать.

**ПЕРАЙНА́ЧАНЫ 1.** изменённый; переина́ченный; видоизменённый; **2.** искажённый, извращённый; 1,2 *см.* **перайна́чыць.**

**ПЕРАЙНА́ЧВАННЕ** *ср.* **1.** измене́ние; переина́чивание; видоизмене́ние; **2.** искаже́ние, извраще́ние; 1,2 *см.* **перайна́чваць.**

**ПЕРАЙНА́ЧВАЦЦА** *несов.* **1.** изменя́ться; видоизменя́ться; *см.* **перайна́чыцца; 2.** *страд.* изменя́ться; переина́чиваться; видоизменя́ться; искажа́ться, извраща́ться; *см.* **перайна́чваць.**

**ПЕРАЙНА́ЧВАЦЬ** *несов.* **1.** изменя́ть; переина́чивать; видоизменя́ть; **2.** искажа́ть, извраща́ть; 1,2 *см.* **перайна́чыць.**

**ПЕРАЙНА́ЧЫЦЦА** *сов.* измени́ться; видоизмени́ться; **хара́ктар ~чыўся** хара́ктер измени́лся.

**ПЕРАЙНА́ЧЫЦЬ** *сов.* **1.** измени́ть; переина́чить; видоизмени́ть; **п. жыццё** измени́ть жизнь; **п. свае́ меркава́нні** измени́ть (переина́чить) свои́ сужде́ния; **п. сказ** переина́чить (видоизмени́ть) предложе́ние; **2.** искази́ть, изврати́ть.

**ПЕРАЙСЦІ́** *сов.* **1.** *в разн. знач.* перейти́; **п. ву́ліцу** перейти́ у́лицу; **п. ў другі́ пако́й** перейти́ в друѓую ко́мнату; **п. да друго́й тэ́мы** перейти́ к друго́й те́ме; **п. на другі́ курс** перейти́ на второ́й курс; **у кастры́чніку 1917 го́да ўла́да перайшла́ ў ру́кі працо́ўных** в октябре́ 1917 го́да власть перешла́ в ру́ки трудя́щихся; **у белару́скую мо́ву перайшло́ мно́га слоў з ру́скай мо́вы** в белору́сский язы́к перешло́ мно́го слов из ру́сского языка́; **п. на бок праціўніка** перейти́ на сто́рону проти́вника; **во́йскі перайшлі́ ў наступле́нне** войска́ перешли́ в наступле́ние; **п. з мясно́й е́жы на мало́чную** перейти́ с мясно́й пи́щи на моло́чную; **2.: няха́й лепш маё пяро́йдзе** лу́чше я свои́м поступлю́сь; ◊ **п. даро́гу** *каму* перейти́ доро́гу *кому*; **п. Рубіко́н** перейти́ Руби́кон.

**ПЕРАКАВА́НЫ** *в разн. знач.* переко́ванный; *см.* **перакава́ць.**

**ПЕРАКАВА́ЦЦА** *сов. разг.* перекова́ться.

**ПЕРАКАВА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* перекова́ть; **п. каня́** перекова́ть ло́шадь; **п. усі́х ко́ней** перекова́ть всех лошаде́й; **п. падко́ву** перекова́ть подко́ву; **пра́ца ~ва́ла злачы́нца** труд переков́ал престу́пника; ◊ **п. мячы́ на ара́лы** перекова́ть мечи́ на ора́ла.

**ПЕРАКАДЗІ́РАВАННЕ** *ср.* переко́ди́рование.

**ПЕРАКАДЗІ́РАВАЦЬ** *сов.* перекоди́ровать.

**ПЕРАКА́З, -зу** *м.* **1.** *(действие)* переска́з; **п. прачы́танага** переска́з прочи́танного; **2.** переска́з, изложе́ние *ср.*; **напіса́ць п.** написа́ть переска́з (изложе́ние).

**ПЕРАКА́ЗАНЫ 1.** переска́занный, изло́женный; **2.** сообщённый, пе́реданный; 1,2 *см.* **пераказа́ць.**

**ПЕРАКАЗА́ЦЬ** *сов.* **1.** пересказа́ть, изложи́ть; **2.** *(на словах, через кого-л.)* сообщи́ть, переда́ть.

**ПЕРАКА́ЗВАННЕ** *ср.* **1.** переска́з *м.*, переска́зывание, изложе́ние; **2.** сообще́ние, переда́ча *ж.*; 1,2 *см.* **перака́зваць.**

**ПЕРАКА́ЗВАЦЦА** *несов. страд.* переска́зываться, излага́ться; сообща́ться; передава́ться; *см.* **перака́зваць.**

**ПЕРАКА́ЗВАЦЬ** *несов.* **1.** переска́зывать, излага́ть; **2.** *(на словах, через кого-л.)* сообща́ть, передава́ть.

**ПЕРАКА́ЗЧЫК** *м. разг.* переска́зчик.

**ПЕРАКА́ЗЧЫЦА** *ж. разг.* переска́зчица.

**ПЕРАКАЛАЦІ́ЦЦА** *сов. разг.* **1.** *(на холоде)* передро́гнуть; **2.** *(переволноваться)* перетрясти́сь; передрожа́ть.

**ПЕРАКАЛАЦІ́ЦЬ** *сов.* **1.** перетрясти́; **п. ўсе я́блыні ў са́дзе** перетрясти́ все я́блони в саду́; **2.** *безл.* ки́нуть в дрожь; **мяне́ ~ці́ла ад стра́ху** меня́ ки́нуло в дрожь от стра́ха; **3.** *(всё, многое или заново)* перемолоти́ть, оби́ть, вы́колотить.

**ПЕРАКАЛЕ́ЦЬ** *сов. разг.* перемёрзнуть, передро́гнуть, закочене́ть, продро́гнуть.

**ПЕРАКАЛЕ́ЧАНЫ** *разг.* перекале́ченный.

**ПЕРАКАЛЕ́ЧЫЦЦА** *сов. разг. (о всех, многих)* перекале́читься, искале́читься.

**ПЕРАКАЛЕ́ЧЫЦЬ** *сов. разг. (всех, многих)* перекале́чить, искале́чить.

**ПЕРАКАЛІБРАВА́ЦЬ** *сов.* перекалиброва́ть.

**ПЕРАКАЛІБРО́ЎКА** *ж.* перекалибро́вка.

**ПЕРАКАЛО́ЦЦА** *сов.* **1.** *(обо всех, многих)* переколо́ться; **2.** *(пободать друг друга)* перебода́ться.

**ПЕРАКАЛО́ЦЬ** I *сов.* переколо́ть; **п. дро́вы** переколо́ть дрова́.

**ПЕРАКАЛО́ЦЬ** II *сов.* **1.** *(всех, многих)* переколо́ть, умертви́ть; **2.** *(всё, многое)* переколо́ть, исколо́ть; **3.** переколо́ть; **п. бант** переколо́ть бант.

**ПЕРАКАЛО́ЧАНЫ 1.** перетрясённый; **2.** перемоло́ченный, оби́тый, вы́колоченный; 1,2 *см.* **перакалаці́ць** 1,3.

**ПЕРАКАЛО́ЧВАЦЦА** *несов. страд.* перемола́чиваться, обива́ться, выкола́чиваться.

**ПЕРАКАЛО́ЧВАЦЬ** *несов.* перемола́чивать, обива́ть, выкола́чивать; *см.* **перакалаці́ць 3.**

**ПЕРАКАЛУПА́НЫ** *разг. неодобр.* перековы́рянный.

**ПЕРАКАЛУПА́ЦЬ** *сов. разг. неодобр.* перековыря́ть.

**ПЕРАКАМЕ́ЧАНЫ** *разг.* переко́мканный, перемя́тый.

**ПЕРАКАМІ́СІЯ** *ж. разг.* переками́ссия.

**ПЕРАКАМПАНАВА́НЫ** перекомпоно́ванный.

**ПЕРАКАМПАНАВА́ЦЬ** *сов.* перекомпонова́ть.

**ПЕРАКАМПАНО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* перекомпоно́вываться.

**ПЕРАКАМПАНО́ЎВАЦЬ** *несов.* перекомпоно́вывать.

**ПЕРАКАМПАНО́ЎКА** *ж.* перекомпоно́вка.

**ПЕРАКАМПАСЦІ́РАВАЦЬ** *сов.* перекомпости́ровать.

**ПЕРАКАМПЛЕКТАВА́ННЕ** *ср.* перекомплектова́ние.

**ПЕРАКАМПЛЕКТАВА́НЫ** перекомплекто́ванный.

**ПЕРАКАМПЛЕКТАВА́ЦЬ** *сов.* перекомплектова́ть.

**ПЕРАКАМПЛЕКТО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* перекомплекто́вываться.

**ПЕРАКАМПЛЕКТО́ЎВАЦЬ** *несов.* перекомплекто́вывать.

**ПЕРАКАМЯЧЫ́ЦЦА** *сов. разг.* переко́мкаться, перемя́ться.

**ПЕРАКАМЯЧЫ́ЦЬ** *сов. разг.* переко́мкать, перемя́ть.

**ПЕРАКАНА́ЛЬНА** *нареч. см.* **пераканаўча.**

**ПЕРАКАНА́ЛЬНАСЦЬ** *ж. см.* **пераканаўчасць.**

**ПЕРАКАНА́ЛЬНЫ** *см.* **пераканаўчы.**

**ПЕРАКАНА́НА** *нареч.* убеждённо.

**ПЕРАКАНА́НАСЦЬ** *ж.* убеждённость.

**ПЕРАКАНА́ННЕ** *ср.* **1.** *(действие)* убежде́ние; **2.** *(твёрдый взгляд, уверенность)* убежде́ние, убеждённость *ж.*

**ПЕРАКАНА́НЫ 1.** убеждённый, уве́ренный; **2.** переубеждённый.

**ПЕРАКАНАПА́ЦІЦЬ** *сов. в разн. знач.* переконопа́тить.

**ПЕРАКАНАПА́ЧАНЫ** *в разн. знач.* переконопа́ченный.

**ПЕРАКАНАПА́ЧВАЦЦА** *несов. страд.* переконопа́чиваться.

**ПЕРАКАНАПА́ЧВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* переконопа́чивать.

**ПЕРАКАНА́ЎЧА** *нареч.* убеди́тельно.

**ПЕРАКАНА́ЎЧАСЦЬ** *ж.* убеди́тельность.

**ПЕРАКАНА́ЎЧЫ** убеди́тельный.

**ПЕРАКАНА́ЦЦА** *сов.* **1.** убеди́ться, уве́риться; **2.** переубеди́ться.

**ПЕРАКАНА́ЦЬ** *сов.* **1.** убеди́ть, уве́рить; **2.** переубеди́ть.

**ПЕРАКАНСТРУ́КЦЫЯ** *ж.* переконстру́кция.

**ПЕРАКАНСТРУЯВА́ННЕ** *ср.* переконструи́рование.

**ПЕРАКАНСТРУЯВА́НЫ** переконструи́рованный.

**ПЕРАКАНСТРУЯВА́ЦЬ** *сов. и несов.* переконструи́ровать.

**ПЕРАКАНТАВА́НЫ** переканто́ванный.

**ПЕРАКАНТАВА́ЦЬ** *сов.* перекантова́ть.

**ПЕРАКАНТО́ЎВАННЕ** *ср.* переканто́вывание.

**ПЕРАКАНТО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* переканто́вываться.

**ПЕРАКАНТО́ЎВАЦЬ** *несов.* переканто́вывать.

**ПЕРАКАНТО́ЎКА** *ж.* переканто́вка.

**ПЕРАКА́ПАНЫ** перека́панный.

**ПЕРАКАПА́НЫ 1.** *в разн. знач.* переко́панный, переры́тый; **2.** переры́тый; **2.** переры́тый; 1,2 *см.* **перакапа́ць** 1,3.

**ПЕРАКА́ПАЦЬ** *сов.* перека́пать.

**ПЕРАКАПА́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* перекопа́ть, переры́ть; **п. агаро́д** перекопа́ть огоро́д; **п. даро́гу** перекопа́ть (переры́ть) доро́гу; **2.** *(всё, многое)* вы́копать, перекопа́ть; **п. усю́ бу́льбу** вы́копать (перекопа́ть) всю карто́шку; **3.** переры́ть; **~па́ў усе́ шуфля́ды ў стале́** переры́л все я́щики в столе́.

**ПЕРАКА́ПВАЦЦА** *несов. страд.* перека́пываться; *см.* **перака́пваць.**

**ПЕРАКА́ПВАЦЬ** *несов.* (*к* **перака́пацъ**) перека́пывать.

**ПЕРАКАПІРАВА́ЦЬ** *сов.* перекопи́ровать.

**ПЕРАКАПІРО́ЎВАЦЬ** *несов.* перекопи́ровать.

**ПЕРАКАРАБА́ЦІЦЦА** *сов.* перекоро́биться.

**ПЕРАКАРАБА́ЦІЦЬ** *сов. обычно безл. разг. (что-л. гладкое)* перекоро́бить.

**ПЕРАКАРАБА́ЧАНЫ** перекоро́бленный.

**ПЕРАКАРА́БКАЦЦА** *сов. разг.* перекара́бкаться.

**ПЕРАКАРМІ́ЦЬ** *сов.* **1.** перекорми́ть, обкорми́ть; **2.** *(всех, многих)* перекорми́ть, прокорми́ть.

**ПЕРАКАРТАВА́НЫ** *разг.* переtaсо́ванный.

**ПЕРАКАРТАВА́ЦЬ** *сов. разг.* перетасова́ть.

**ПЕРАКАРТО́ЎВАЦЬ** *несов. разг.* перетасо́вывать.

**ПЕРАКАСАВА́НЫ** *разг.* **1.** перечёркнутый; **2.** перечёрканный, перема́ранный; 1,2 *см.* **перакасава́ць.**

**ПЕРАКАСАВА́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** перечеркну́ть; **п. staро́нку** перечеркну́ть страни́цу; **2.** *(всё, многое)* перечерка́ть, перечёркать, перемара́ть.

**ПЕРАКАСІ́ЦЦА** *сов. (искривиться — о предметах)* перекоси́ться.

**ПЕРАКАСІ́ЦЬ** I *сов. (искривить)* перекоси́ть.

**ПЕРАКАСІ́ЦЬ** II *сов.* **1.** *(скосить заново)* перекоси́ть; **2.** *(перейти межу)* перекоси́ть, вкоси́ться; **3.** *(всё, многое)* перекоси́ть.

**ПЕРАКАСО́ЎВАЦЦА** *несов. страд. разг.* перечёркиваться; перема́рываться; *см.* **перакасо́ўваць.**

**ПЕРАКАСО́ЎВАЦЬ** *несов. разг.* **1.** перечёркивать; **2.** *(всё, многое)* перечёркивать, перема́рывать; 1,2 *см.* **перакасава́ць.**

**ПЕРАКА́Т, -ту** *м. в разн. знач.* перека́т; **~ты гро́му** перека́ты гро́ма; **ры́ба пайшла́ на ~ты** ры́ба ушла́ на перека́ты.

**ПЕРАКАТАВА́ЦЬ** *сов. (всех, многих)* подве́ргнуть пы́ткам (истяза́ниям).

**ПЕРАКАТА́ЦЦА** *сов. разг.* перекататься.

**ПЕРАКАТА́ЦЬ** *сов. разг.* перека́ть.

**ПЕРАКА́ТНЫ** *в разн. знач.* перека́тный; перека́тистый; **~ныя пяскі́** перека́тные пески́; **п. гул** перека́тный гул.

**ПЕРАКА́ТЧЫК** *м. спец.* перека́тчик.

**ПЕРАКАЦІ́-ПО́ЛЕ** *ср. мн. нет бот.* перекати́-по́ле.

**ПЕРАКАЦІ́ЦЦА** *сов.* **1.** перекати́ться; *(с боку на бок — ещё)* перевали́ться; **мяч ~ці́ўся за ры́су** мяч перекати́лся за черту́; **2.** *прост. (упасть)* перекувырну́ться; свали́ться с ног; **ён ад аднаго́ ўда́ру ~ці́ўся** он от одного́ уда́ра перекувырну́лся.

**ПЕРАКАЦІ́ЦЬ** *сов.* перекати́ть; *(с боку на бок — ещё)* перевали́ть; **п. бо́чку ў друго́е ме́сца** перекати́ть бо́чку в друго́е ме́сто; **п. бервяно́ це́раз даро́гу** перекати́ть бревно́ че́рез доро́гу.

**ПЕРАКАЧАВА́ЦЬ** *сов.* перекочева́ть.

**ПЕРАКАЧА́НЫ 1.** *в разн. знач.* перека́танный; **2.** перева́лянный, вы́валянный; 1,2 *см.* **перакача́ць.**

**ПЕРАКАЧА́ЦЦА** *сов. разг.* перевали́ться; **п. ў сне́зе** перевали́ться в снегу́.

**ПЕРАКАЧА́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* перекати́ть; **п. бо́чкі ў падва́л** перекати́ть бо́чки в подва́л; **п. бялі́зну** перекати́ть бельё; **2.** *(многих,*

*многое)* переваля́ть, вы́валять; **усе́ я́блыкі ~ча́лі ў гразь** все я́блоки переваля́ли (вы́валяли) в грязи́.

**ПЕРАКА́ЧВАННЕ** *ср. (о белье)* перека́тывание.

**ПЕРАКА́ЧВАЦЦА** *несов. страд.* перека́тываться; *см.* **перака́чваць.**

**ПЕРАКА́ЧВАЦЬ** *несов. (заново — бельё)* перека́тывать.

**ПЕРАКАЧО́ЎВАННЕ** *ср.* перекочёвывание.

**ПЕРАКАЧО́ЎВАЦЬ** *несов.* перекочёвывать.

**ПЕРАКАШТАВА́НЫ** перепро́бованный.

**ПЕРАКАШТАВА́ЦЬ** *сов.* перепро́бовать.

**ПЕРАКВАЛІФІКАВА́НЫ** переквалифици́рованный.

**ПЕРАКВАЛІФІКАВА́ЦЦА** *сов.* переквалифици́роваться.

**ПЕРАКВАЛІФІКАВА́ЦЬ** *сов.* переквалифици́ровать.

**ПЕРАКВАЛІФІКАЦЫ́ЙНЫ** переквалификацио́нный.

**ПЕРАКВАЛІФІКА́ЦЫЯ** *ж.* переквалифика́ция.

**ПЕРАКВАЛІФІКО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* переквалифици́роваться; *см.* **пераквалiфiкава́цца, пераквалiфiко́ўваць.**

**ПЕРАКВАЛІФІКО́ЎВАЦЬ** *несов.* переквалифици́ровать.

**ПЕРАКВА́СІЦЦА** *сов.* перекваси́ться, переки́снуть.

**ПЕРАКВА́СІЦЬ** *сов.* переква́сить.

**ПЕРАКВА́ШАНЫ** переква́шенный.

**ПЕРАКВА́ШВАЦЦА** *несов.* **1.** переква́шиваться; перекиса́ть; **2.** *страд.* переква́шиваться; *см.* **пераква́шваць.**

**ПЕРАКВА́ШВАЦЬ** *несов.* переква́шивать.

**ПЕРАКІДА́ННЕ** *ср.* **1.** перебра́сывание, перебро́ска *ж.*, переки́дывание, переки́дка *ж.*; перешвы́ривание; **2.** перебра́сывание, перебро́ска *ж.*; передвиже́ние; 1,2 *см.* **перакiда́ць.**

**ПЕРАКІ́ДАНЫ** перебро́санный, переки́данный; перешвы́рянный; *см.* **перакі́даць.**

**ПЕРАКІ́ДАЦЦА** *сов. (кое-как пережить)* переби́ться; **год сяк-так ~даліся** год ко́е-как переби́лись.

**ПЕРАКІДА́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* перебра́сываться, переки́дываться; перемётываться; **2.** *разг. (валиться, перевёртываться)* опроки́дываться; **3.** *перен. (на чью-л. сторону)* перемётываться; **4.** *(через что-л.)* переки́дываться, перева́ливаться; **5.** *(у каго-што) фольк.* обора́чиваться *(кем-чем и в кого-что)*; **6.** *страд.* перебра́сываться; переки́дываться; перешвы́риваться; передвига́ться; *см.* **перакiда́ць.**

**ПЕРАКІ́ДАЦЬ** *сов.* переброса́ть, перекида́ть; *(с силой — ещё)* перешвыря́ть.

**ПЕРАКІДА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* перебра́сывать, переки́дывать; *(с силой — ещё)* перешвы́ривать; **2.** *(войска)* перебра́сывать, переки́дывать, передвига́ть.

**ПЕРАКІ́ДВАННЕ** *ср. см.* **перакiда́нне.**

**ПЕРАКІ́ДВАЦЦА** *несов. см.* **перакiда́цца.**

**ПЕРАКІ́ДВАЦЬ** *несов. см.* **перакiда́ць.**

**ПЕРАКІ́ДКА** *ж. разг.* **1.** *в разн. знач.* перебро́ска, переки́дка; перешвы́ривание *ср.*; **2.** перебро́ска, переки́дка, передвиже́ние *ср.*; 1,2 *см.* **перакі́нуць.**

**ПЕРАКІДНЫ́** перекидно́й; *(о сумке — ещё)* перемётный; **п. мост** перекидно́й мост.

**ПЕРАКІ́НУТЫ 1.** *в разн. знач.* перебро́шенный, переки́нутый; перешвы́рнутый; **2.** перебро́шенный, переки́нутый, передви́нутый; 1,2 *см.* **перакі́нуць.**

**ПЕРАКІ́НУЦЦА** *сов.* **1.** *в разн. знач.* перебро́ситься, переки́нуться; переметну́ться; **аго́нь ~нуўся це́раз дзве ха́ты** ого́нь перебро́сился (переки́нулся, переметну́лся) че́рез две избы́, **п. мячо́м** перебро́ситься мячо́м; **п. сло́вам** перебро́ситься (переки́нуться) сло́вом; **2.** *разг. (повалиться, перевернуться)* опроки́нуться; **3.** *перен. (на чью-л. сторону)* переметну́ться; **4.** *(через что-л.)* переки́нуться, перевали́ться; **п. це́раз пarэ́нчы** переки́нуться (перевали́ться) че́рез пери́ла; **5.** *(у каго-што) фольк.* оберну́ться *(кем-чем и в кого-что).*

**ПЕРАКІ́НУЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* перебро́сить, переки́нуть; *(с силой — ещё)* перешвырну́ть; **2.** *(войска)* перебро́сить, переки́нуть, передви́нуть.

**ПЕРАКІПА́ЦЬ** *несов. прям., перен.* перекипа́ть.

**ПЕРАКІПЕ́ЛЫ** перекипе́вший, перекипе́лый.

**ПЕРАКІПЕ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* перекипе́ть.

**ПЕРАКІПЯЦІ́ЦЬ** *сов.* перекипяти́ть.

**ПЕРАКІПЯЧО́НЫ** перекипячённый.

**ПЕ́РАКІС, -су** *м. хим.* пе́рекись *ж.*; **п. ма́рганцу** пе́рекись ма́рганца; **п. вадаро́ду** пе́рекись водоро́да.

**ПЕРАКІСА́ННЕ** *ср.* перекиса́ние.

**ПЕРАКІСА́ЦЬ** *несов.* перекиса́ть; переква́шиваться.

**ПЕРАКІ́СЛЕНЫ** перекислённый.

**ПЕРАКІСЛІ́ЦЬ** *сов.* перекисли́ть.

**ПЕРАКІ́СЛЫ** переки́сший.

**ПЕРАКІСЛЯ́ЦЬ** *несов.* перекисля́ть.

**ПЕРАКІ́СНУЦЬ** *сов.* переки́снуть; переква́ситься.

**ПЕРАКІТА̄ВА́НЫ 1.** зама́занный, перема́занный; **2.** перема́занный; 1,2 *см.* **перакітава́ць.**

**ПЕРАКІТАВА́ЦЬ** *сов. (оконной замазкой)* **1.** *(всё, многое)* зама́зать, перема́зать; **2.** *(заново)* перема́зать.

**ПЕРАКІТО́ЎВАННЕ** *ср.* перема́зывание; *см.* **перакіто́ўваць 2.**

**ПЕРАКІТО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* зама́зываться, перема́зываться; *см.* **перакіто́ўваць.**

**ПЕРАКІТО́ЎВАЦЬ** *несов. (оконной замазкой)* **1.** *(всё, многое)* зама́зывать, перема́зывать; **2.** *(заново)* перема́зывать.

**ПЕРАКЛА́Д, -ду** *м.* перево́д; **п. арты́кула** перево́д статьи́; **во́льны п.** во́льный перево́д.

**ПЕРАКЛАДА́ЛЬНІК** *м.* перекла́дчик.

**ПЕРАКЛАДА́ЛЬНІЦА** *ж.* перекла́дчица.

**ПЕРАКЛАДА́ННЕ I** *ср.* **1.** перекла́дывание, перекла́дка *ж.*; перестила́ние, перести́лка *ж.*; **2.**

